УДК
ББК

**Бяляцкі, А.**
Бой з сабой / Алесь Бяляцкі. — Мінск, 2016. — 192 с.
ISBN

Кніга “Бой з сабой” — гэта творчы партрэт паэта і барда Эдуарда Акуліна. Першыя тры разьдзелы яе пісаліся на зоне, у Бабруйскай калоніі, калі ўсе эмоцыі чалавечага жыцьця, штодзённая руціна і тлум засталіся па-за турэмным плотам, а адчуваньне паэтычнага слова набыло крыштальную сьвежасьць і чысьціню…

**УДК**
**ББК**

**ISBN XXX-XXX-XXX-X**





# I.

Да 50-х угодкаў з дня нараджэньня паэт Эдуард Акулін выдаў том выбраных вершаў «Сьвятая ноч». Эдуард Акулін зьяўляецца адным з найбольш значных і яскравых беларускіх паэтаў сучаснасьці. Ён прыйшоў у паэзію з творчым пакаленьнем 80-х, у пакаленьні «Тутэйшых». Падчас актыўнай дзейнасьці таварыства маладых літаратараў «Тутэйшыя» ў другой палове 80-х гадоў ён жыў удалечыні ад тагачасных бурапенных падзеяў, настаўнічаў у вёсцы Дуброва ў Рэчыцкім раёне, але ён быў сябрам «Тутэйшых», часта наязджаў у Менск і Гомель і шчыльна кантактаваў з маладымі творцамі. Грамадская пазіцыя Эдуарда Акуліна склалася яшчэ раней, у першай палове 80-х гадоў, ва ўніверсітэцкія гады. Багата ў чым ягоныя ідэалы, чаканьні і погляды супадалі з творчымі і грамадзянскімі пастулатамі, абвешчанымі «Тутэйшымі».

**Нонканфармізм, пільная ўвага да нацыянальнага складніку ў творчасьці, няспынная кшталтаваньне паэтычнага майстэрства, асэнсаваньне лепшых еўрапейскіх традыцыяў вершаскладаньня ад пачатку былі неад'емнымі рысамі творчасьці Эдуарда Акуліна.**

Пакаленьне маладых творцаў, якое прыйшло ў літаратуру ў 80-я гады, істотна адрозьнівалецца ад пакаленьняў беларускіх літаратараў ранейшых дзесяцігоддзяў. Мае аднагодкі, а я таксама з гэтага пакаленьня, глядзелі на навакольны сьвет без ружовых акуляраў, не ўгіналі галаву і не ўслаўлялі камуністычную партыю, не пісалі хвалебных вершаў на традыцыйныя савецкія сьвяты. Яны цураліся пануючай камуністычнай ідэалогіі і ці адкрыта, ці прыхавана крытыкавалі яе. Яны шукалі духоўнага апірышча ў больш істотным і грунтоўным і знаходзілі яго ў нацыянальным сьветапоглядзе, яшчэ забароненым, зьнявечаным і амаль зьнішчаным у 30-я — 70-я гады, з нацдэмаўскім антысавецкім кляймом, але, як аказалася, жывучым і жыццядайным. Гэта было першае пакаленьне беларускіх літаратараў, якое супрацьпаставіла сябе існуючаму ў 80-я гады парадку рэчаў. Пакаленьне, якое яшчэ нарадзілася і жыло ў Савецкім Саюзе, але ўжо было пакаленьнем несавецкіх беларускіх пісьменьнікаў, якое сьвядома адмовілася ад метаду сацыялістычнага рэалізму, як ад бясплённай і шкоднай палітычнай дактрыны ў творчасьці.

Нягледзячы на ўвесь драматызм апошніх двух дзесяцігоддзяў, на ўсе жыцьцёвыя выпрабаваньні і спакусы, Эдуард Акулін здолеў захаваць свае юнацкія ідэалы, здолеў разьвіць іх і ўмацаваць, пакласьці ў аснову свайго жыцьця і творчасьці. Надзвычай цэльная асоба Эдуарда Акуліна вылучаецца ў сучасным беларускім пісьменстве арыгінальным паэтычным талентам. Ён мае адметны паэтычны стыль, свой непаўторны голас у беларускай паэзіі. Гучны грамадзянскі аракул, пранікнёны лірык, мысьляр, які шукае свой шлях да Бога і да Радзімы — паэт паўстае перад намі ў розных абліччах. Ёсьць тое, што аб'ядноўвае ягоныя творчыя іпастасі, гэта надзвычайная шчырасьць паэтычнага радка. Эдуард Акулін піша гэтак жа натуральна і нязмушана, як жыве, і жыве, як піша. Паэт цьвёрда трымаецца прынцыпаў, у якія верыць. Ён ня здраджвае ім, а значыць, у першую чаргу, сабе.

Жыцьцёвая і творчая пазіцыя паэта вельмі адметная і непадобная да іншых. Яшчэ падчас нашага знаёмства на першым курсе гісторыка-філалагічнага факультэта гомельскага ўніверсітэта, 16-гадовым юнаком Эдуард Акулін сказаў мне, што ніколі ня маніць і ня лаецца. Напачатку я ня даў яму веры. Але неўзабаве пераканаўся, што гэта сапраўды так. Эдуард Акулін не выхваляўся гэтымі якасьцямі, з асабістых прычынаў ён вырашыў паводзіць сябе ў жыцьці такім чынам і рабіў гэтак, не зважаючы ні на якія акалічнасьці.

Гэтую якасьць — быць шчырым у тым, што робіш, паэт пранёс праз усе наступныя гады. Лёс паэта зь дзіцячых гадоў складаўся так, што ён мог у асноўным разьлічваць толькі на свае ўласныя сілы. Эдуард Акулін прыклаў вялікія намаганьні дзеля таго, каб атрымаць адукацыю і веды. Вучыўся ён добра і лёгка. Ва ўсіх адносінах можна сказаць, што як асоба і як творца, Эдуард Акулін зрабіў сябе сам.

У выбранае «Сьвятая ноч» Эдуарда Акуліна ўвайшлі вершы з шасьці ягоных арыгіналь-

ных зборнікаў, якія ён выдаў дагэтуль. Два першыя паэтычныя зборнікі Эдуарда Акуліна выйшлі зь невялікім прамежкам у два гады: у 1988-м і 1990-м гадох, наклад чарговага зборніка «Радно» ў 2000-м годзе быў зьнішчаны выдаўцом, які збаяўся зьместу кніжкі, а апошні паэтычны зборнік «Малітва воч» зьявіўся ў сьвет у 2012 годзе, усяго за пару месяцаў перад выхадам тома выбраных вершаў. Дадаткова Эдуард Акулін уключыў у выбранае некаторыя свае пераклады, большасьць зь якіх зробленая з украінскай мовы.



*Вялікія Нямкі. 1963г.*

Тое, што ў «Сьвятую ноч» увайшлі адно вершы з падрыхтаваных і выдадзеных паэтам паэтычных зборнікаў увогуле сьведчыць пра ўдалы творчы лёс паэта. Эдуард Акулін уключаў у свае этапныя зборнікі менавіта тыя вершы, якія лічыў найбольш важнымі і ўдалымі. Усё, на ягоны погляд, істотнае, што было створана ім, убачыла сьвет у падрыхтаваных і выдадзеных зборніках. Ён не ішоў на кампраміс з часам і абставінамі, у выніку чаго і пацярпеў ягоны зборнік «Радно». Але і лёс гэтага зборніка ня зьбіў паэта з прадвызначанага шляху.

Можна меркаваць, што некаторыя зь ненадрукаваных у зборніках вершаў паэта таксама заслугоўваюць таго, каб быць у выбраным томе. Але такая аўтарская канцэпцыя складаньня «Сьвятой ночы» — абысьціся бязь іх.

На маю думку, паэт слушна зрабіў, што разьмясьціў у выбраным цалкам увесь зборнік «Радно». Трынаццаць год таму ён не дайшоў да шырокага чытача. Зараз жа «Радно» ў выбраным томе атрымала другое жыцьцё.

У першы паэтычны зборнік Эдуарда Акуліна «Лес дзённага асьвятленьня» ўвайшлі вершы, напісаныя ім пераважна ў студэнцкія гады. Гэты зборнік надзвычай блізкі мне, бо вершы зь яго нараджаліся літаральна на маіх вачох. На чацьвёртым і пятым курсах універсітэта мы з Эдуардам Акуліным жылі ў адным пакоі інтэрнату. Вершы паэт пісаў і ў лекцыйных аўдыторыях, і ў інтэрнацкім пакоі. Часта першым чытачом ягоных вершаў быў менавіта я. Мне вядома, чаму першы зборнік паэта атрымаў такую назву. Неяк улетку мы ехалі да яго на радзіму, на бацькаўшчыну ў вёску Вялікія Нямкі, што на Веткаўшчыне. Мы праехалі вёску Сьвяцілавічы, і Эдуард паказаў мне ў аўтобусным вакне прыгожы бярозавы гай. Каля гасьцінца скрозь стаялі чыстыя, гонкія, маладыя бярозы. Яркая цнатлівая бель тонкіх берасьцяных ствалоў сьляпіла вочы. «Вось, — у захапленьні сказаў Эдуард, — гэта мой лес дзённага асьвятленьня».

Зьмест зборніка вызначыў ягоную назву, а назва паўплывала на зьмест. Паэту жадалася пасадзіць свой вершаваны гай. Бяроза — сімвал прыроднай чысьціні і цнатлівасьці. Гэткія ж чыстыя і цнатлівыя вершы паэта ў першай кніжцы. У зборніку вызначаныя сьветапоглядныя і эстэтычныя арыеньціры, якія зьяўляліся важнымі для паэта. Яны будуць ня раз яшчэ даасэнсоўвацца, дасканаліцца, дасьпяваць, але застануцца такімі ж самымі на доўгія гады.

**Любоў да Беларусі — адная з цэнтральных тэмаў у творчасьці Эдуарда Акуліна, была вычутая, прымроеная і выпакутаваная паэтам.**

Яна складалася зь любові да нашай зямлі, да нашых людзей і яшчэ зь дзясяткаў іншых розных любовяў. Яна нараджалася ў студэнцкіх бясконцых гарачых дыскусіях пра лёс Бацькаўшчыны, пра магчымасьці для існаваньня беларускай мовы, нацыянальнай культуры, пра будучыню беларускага народу.

Пачатак 80-х гадоў быў задушлівым часам у Беларусі. Праводзіўся афіцыйны курс на невіляваньне нацыянальных адметнасьцяў беларусаў. Ва ўніверсітэтах выкладалася і абгрунтоўвалася дактрына пра адзіны савецкі народ. «Навуковы» камунізм не пакідаў месца ў будучым грамадстве для разнастайных нацыянальнасьцяў і моваў. У такой ідэалагічнай атмасьферы адкрыта абвясьціць пра зусім іншыя каштоўнасныя арыеньціры, азначала пайсьці супраць плыні, супрацьпаставіць сябе дзяржаўнай палітыцы.

У той час, калі па радыё весела сьпявалі: «Мой адрес — не дом и не улица, мой адрес — Советский Союз», Эдуард Акулін адбівае ўрачыстым рытмам:

Помні гэтыя словы:
Радзіма,
Народ,
Мова!
Як існасьціну помні адзіную:
Мова,
Народ,
Радзіма!
Помні, як запавет —
спасьцігнуць яе аднойчы
зьявіўся і ты на сьвет.

*(«Мая існасьціна», с.19)*

Гэтым вершам пачынаецца першы зборнік Эдуарда Акуліна. У свой час гэты верш успрымаўся як адкрытая дэкламацыя жыцьцёвай пазіцыі паэта. Ён быў ня згодны з тым, што беларусам у СССР было наканаванае зьнікненьне. Паэт уласным прыкладам

супрацiўляецца русiфiкацыi, паўсюдна размаўляе па-беларуску, прапагандуе беларускую культуру, удзельнiчае ў моладзевых беларускiх праектах, сьпявае ў студэнцкiм рок-гурце «Баскi». Ён робiць гэта з гонарам i адкрыта.

Эдуард Акулiн хутка выбудоўвае ўласную сiстэму каштоўнасьцяў, якая абапiралася на ўсьвядомленае i абвешчанае iм трыадзiнства: Радзiму, Народ, Мову. I калi дзяржаўная iдэалогiя пярэчыла гэтым крэўным традыцыйным каштоўнасьцям, значыць, паэт з сваiмi сябрамi-аднадумцамi непазьбежна станавiўся ў апазiцыю да гэтай iдэалогii. I калi Савецкi Саюз не даваў нiякiх шанцаў для разьвiцьця беларускага народу, значыць, паўставала пытаньне пра сэнс iснаваньня савецкай iмперыi. I па вялiкiм рахунку, ня важна, што такiх апантаных Беларусшчынай маладзёнаў было мала. Бо была вялiзная ўпэўненасьць у слушнасьцi абранага шляху, была ўпэўненасьць у тым, што раней цi пазьней праўда возьме верх.

Такi кароткi падтэкст патрыятычных вершаў Эдуарда Акулiна савецкай пары. У вершах зборнiка паэт спрабуе расшыфраваць сваё трыадзiнае крэда. Назвы вершаў гавораць пра iхнi зьмест i накiраванасьць: «Беларусь», «Ёсьць памяць генаў, памяць роду», «Мiрскi замак», «На кургане Адама Мiцкевiча»...

## II.

Другi зборнiк Эдуарда Акулiна «Пяшчота лiўня» выйшаў праз два гады пасьля першага. У яго ўвайшлi вершы з гiстарычнага цыкла: «Перад Грунвальдскай бiтвай», «Нясьвiжскi замак», «Мiр», «Iшкалдзь». 20-гадовы паэт выдатна зразумеў значэньне беларускай гiсторыi для нацыянальнага ўсьведамленьня народу, узьняцьця яго годнасьцi i гонару. Ён не пагаджаецца з савецкай афiцыйнай трактоўкай беларусаў у гiсторыi, як народа няздатнага да дзяржаватворчасьцi, духоўна i культурна неразьвiтага, забiтага i пагарджанага.

Улетку 1983 года паэт бярэ ўдзел у раскопках Мiрскага замку. У выходныя днi разам з сябрамi ён наведвае недалёкiя Нясьвiж, Iшкалдзь. Гэтыя вандроўкi i натхнiлi Эдуарда Акулiна на прадметна-гiстарычны цыкл вершаў. 30 гадоў таму Мiрскi замак стаяў закiнуты i абгарэлы, а ў недагледжаным Нясьвiжскiм замку месьцiўся санаторый. У некаторых ягоных падсобных будынках стаяла вайсковая частка. Малады паэт апеляваў да занядбаных беларускiх гiстарычных каштоўнасьцяў, якiя ўмацоўвалi гiстарычнасьць беларускага народу, абуджалi гонар за Беларусь.

**Эдуард Акулiн сьвядома актуалiзаваў у паэзii беларускую гiсторыю, працягваў iсьцi тым шляхам, якi распачынаў у свой час вершамi пра Францiшка Скарыну, пра Пагоню ды iншымi Максiм Багдановiч.**

Таму натуральным у першым зборнiку паэта бачыцца i верш, прысьвечаны духоўнаму лiдару сьвядомых беларусаў, сiмвалу беларускага негалоснага супрацiву — Уладзiмiру Караткевiчу. Караткевiч памёр у 1984 годзе, калi Эдуарду Акулiну было крыху за 20-ць. Малады паэт добра ўсьведамляў тое важнае значэньне творчасьцi У. Караткевiча для кшталтаваньня нацыянальнай сьвядомасьцi беларусаў. Ён успрыняў сьмерць Караткевiча як нацыянальную трагедыю i асабiстую страту.

Важным для разуменьня грамадзянскай паэзii Эдуарда Акулiна ў савецкiя часы зьяўляецца акрапаэма «Шлях да Радзiмы». Яна ёсьць адкрытым гiмнам-сiмвалам новай, маладой Беларусi, якая прачыналася ад савецкага летаргiчнага сну. Паэт разьвiвае i асучасьнiвае думкi, выказаныя Максiмам Багдановiчам у вядомым санеце «Памiж пяскоў Егiпецкай зямлi». Нацыянальнае адраджэньне бачыцца Эдуарду Акулiну выра-



*З бацькамi. 1967 г.*

тавальнай ідэяй для беларусаў, інакш наступіць нябыт, як гэта здаралася ў гісторыі з іншымі народамі:

Усе, хто да ідэі не дарос,
Хто наракаць прывык на лёс —
Паўсталі ля аазісаў крыжамі...

*(с.92 I/6-8)*

Беларуская мова ёсьць той рошчынай, якая змацоўвае народ. Будзе жыць мова — будуць жыць беларусы, перакананы паэт. Мова вызначаная ім як галоўны фактар захаваньня ды існаваньня нацыі:

Род немагчыма вынішчыць дазваньня,
Што мову продкаў здолеў захаваць.

*(с.92 I/13-14)*

Таксама важнымі рысамі для захаваньня нацыянальнай адметнасьці беларускага характару паэт лічыць сьмеласьць, адвагу, сілу волі, упартасьць у супраціўленьні жыцьцёвым цяжкасьцям. Паэт заклікае беларусаў не скарацца, змагацца за лепшую долю і самім быць творцамі ўласнага лёсу:

Таго ў вачах нашчадкаў не відно,
Хто перад лёсам кленчыў на каленях.

*(с.93 II/13-14)*

Ёсьць у акрапаэме празрыстыя намёкі пра становішча беларусаў у СССР. Эдуард Акулін крытыкуе тагачасныя афіцыйныя міфы, закладзеныя ў ідэалогіі савецкай дзяржавы: пабудову агульнай супольнасьці — савецкага народу, непазьбежную перамогу камунізму. Бо прыгожыя тэорыі на справе прыносілі беларусам страту нацыянальнай адметнасьці, мовы, гістарычнай памяці:

Затое моцна верыў казцы
Пра ідэалаў вышыню...
І памяць загубіў ён, нібы зьвер...

*(с.93 III/7-9)*

Паэт ярасна пратэстуе супраць афіцыйнай палітыкі дэнацыяналізацыі. Ён адчувае і бачыць, што камуністычнае кіраўніцтва вядзе беларусаў у нікуды. Ён разумее, што нацыянальна спустошаныя і зьняможаныя беларусы ня маюць дастатковых сілаў супрацьстаяць палітыцы дэнацыяналізацыі, бо інтэлігенцыя была вынішчаная, а ўсё беларускае перасьледавалася. Народ сьляпы — гучыць бязьлітасны вырак паэта. Але паэт разумее карані трагедыі беларусаў. Ён любіць свой народ і спачувае яму. Ён гатовы аддаць дзеля адраджэньня беларускага народу свае веды, свой талент і розум, і ўрэшце, сваё жыцьцё:

Галіны адракліся каранёў,
Наіўна парадніўшыся з лістотай...
Гнеў боскі — д'яблавы праклён,
Не пакарай сьляпы народ мой!

*(с.93 III/11-14)*





Беларусы здолелі захавацца, заціснутыя паміж усходам і захадам, паміж двума большымі колькасна народамі. Не бяз стратаў для сябе, але захаваліся. Праблема нацыянальнага выжываньня, існаваньня і жыцьця востра існуе для беларусаў усе паўтары тысячы гадоў, з таго часу, як толькі расьсяліліся славянскія плямёны, зрушаныя ў сярэдзіне першага тысячагоддзя нашай эры са сваёй прарадзімы, «зь сіняга Дунаю», з правабярэжнай Прыпяці і сярэдняга Дняпра. Гістарычная праблема выжываньня «паміж двух гурганоў» беларускай нацыянальнай сьвядомасьці, інтэлекту, розуму, асэнсоўваецца Эдуардам Акуліным у наступных радках:

У нівы розныя ляцелі...
Там прарасталі для другіх,
Кармілі, радавалі іх.
А Край радзімы стаў пустэчай,
А Край у роспачы канаў,
Ды не прыняў акцэнту Рэчы
І окаць голасна ня стаў.

*(с.94 V/8-14)*

І ўсё ж прыйшоў час, прачнулася нацыянальная сьвядомасьць і:

Збудзілася і буйна ўскаласіла
Спачатку думка, справа — потым.

*(с.95 VII/1-2)*

Паэт вызначае гістарычныя вехі на шляху беларускага адраджэньня: паўстаньне Кастуся Каліноўскага, жыцьцё для Беларусі Янкі Купалы і творчы подзьвіг Максіма Багдановіча. Куды ж вядуць беларусаў правадыры нацыянальнага духу? «Аб Радзіме вольнай мары» — такой уяўляецца паэту галоўная мэта беларускага адраджэньня. Спадзяваньне на зьмены Эдуард Акулін ускладае на беларускі народ, вызваленьне народнага духу — гэта справа самога народу, аж пакуль:

Зварушаны нарэшце дух народны...
Ён, як вясновы крыгаход,
Свой пачынаючы паход,
Сьпярша павольны і лагодны,
Ды нарастае пакрысе,
Аж покуль гром неверагодны
У дзень маёвы і пагодны
Мастоў стальных не затрасе:
Нібы запалкі трэснуць палі,
і панясе ён гнеў свой далей.

*(с.97 X/1-10)*

Шлях да свабоды, незалежнасьці бачыцца паэту доўгім і няпростым. На гэтым шляху багата перашкодаў і цяжкасьцяў, паразаў і трагедыяў. Беларусы знаходзяцца на мяжы страты сваёй нацыянальнай самабытнасьці, ясна ўсьведамляе паэт. Любая буйная памылка на шляху адраджэньня можа стаць непапраўнай, бо:

ёсьць верагоднасьць памыліцца...
І перасохнуць, назаўжды прычым,
і словы мовы, і крынічныя ключы.

*(с.99 XII/ 7 і 9-10)*

Але паэт перакананы ў тым, што трэба ісьці па шляху адраджэньня ўласнай нацыянальнай непаўторнасьці, што беларусам трэба сыходзіць з дарогі савецкай асіміляцыі і вяртацца на свае ўласныя забытыя пуцявіны. У гэтым — выратаваньне беларускага народу, упэўнены Эдуард Акулін:

Каторая магутна, гучна мкне —
Ня самая галоўная дарога.
Яна прыводзіць часта да зьнямогі
Ці да сьвятла, але ў чужым акне.
А іншы шлях забыты, непыхлівы,
А пойдзеш — і згадаеш, што знаёмы
і гэтыя ваконныя праёмы,
і позірк недаверліва-шчасьлівы.

*(с. 99 XIII/1-8)*

Шлях вяртаньня да Радзімы — гэта праграма нацыянальнага выжываньня для беларусаў, мяркуе паэт. Тагачасны Савецкі Саюз не ўспрымаецца ім як натуральнае дзяржаўнае ўтварэньне. Гэта нешта адназначна чужое, няроднае, ад чаго трэба адштурхнуцца, адкараскацца, каб пайсьці па «шляху вяртаньня да Радзімы», да сапраўднай Радзімы, да «зямлі бацькоў».

Відавочныя паралелі вяртаньня беларусаў з «турмы народаў» — СССР да Беларусі з старабіблейскім сюжэтам уцёкаў ізраільцянаў зь егіпецкага палону ў сьвятую зямлю, у Ізраіль. Старазапаветны шлях быў для ізраільцянаў цяжкі і няпросты і ня ўсе прайшлі яго пасьля сарака гадоў блуканьняў па пустыні. Гэткім жа няпростым бачыцца паэту і шлях беларусаў да сваёй Радзімы:

...І лёсам пакручастым ганарыцца.
Які адкрыў нязьведаныя сховы:
Зямлю бацькоў, зярняты роднай мовы.
Што падказаў той шлях адзіны,
Які змагчы — ня поле перайсьці...
Той шлях вяртаньня да Радзімы
Дай сілы, Бог, усім дайсьці!

*(с.100 XIV/8-14)*

Акрапаэма «Шлях да Радзімы» была напісаная ў 1987-м годзе. Яшчэ непадзельна панавала савецкая ўлада, у савецкіх турмах сядзелі іншадумцы, а ў Менску, у Гомелі, у іншых беларускіх гарадах бурна разьвіваўся моладзевы нацыянальны рух. Ужо ва ўсю гулі і зьвінелі «Тутэйшыя», «Талака».

**Беларуская сьвядомая моладзь, як тыя ручайкі, у розных гарадах краіны прабівала рэчышча ў скаванай ільдом грамадскай думцы, па якой неўзабаве пакоціцца шырокая хваля новага беларускага адраджэньня.**

У 1986 годзе Эдуард Акулін завочна паступіў у асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук, прыязджаў у Менск і тыднямі жыў у сталіцы, вучыўся, сустракаўся і сумовіўся і з маладымі гісторыкамі, і зь літаратарамі, зь сябрамі па Гомельскім унівэрсітэце, якія на той час ужо перабраліся ў Менск. Паэт умацоўваўся ў сваіх сьветапоглядных ідэях, у веры ў новае беларускае адраджэньне, затым вяртаўся ў вёску Дуброва, у Рэчыцкім раёне, дзе настаўнічаў і пісаў пра самае дарагое, набалелае і патаемнае, пра тое, пра што нават думаць было галавакружна і высьцішна — пра шлях да незалежнай і вольнай Беларусі.

Эдуард Акулін — адзін зь першых беларускіх паэтаў нашага часу, хто ў сваіх думках і ў творчасьці, у сваім сьветапоглядзе адолеў гэты шлях.

У вёску Дуброва, дзе настаўнічаў Эдуард Акулін, з Рэчыцы прыязджаў начальнік



*З вучнямі Дуброўскай васьмігодкі.*

*Дуброва. 1985 г.*

«канторы глыбокага бурэньня», спрабаваў «пасябраваць» з маладым паэтам, прапаноўваў дапамогу ў тым, каб у Менску яго заўважылі, каб надрукавалі першую кніжку, далі жыльлё, працу, наўзамен жа чакаў «творчага» супрацоўніцтва. Ды марна. Эдуард Акулін у сваіх крозах, думках і ў вершах ужо жыў у іншай краіне, ня ў СССР, а ў незалежнай Беларусі.

# III.

Вялікае значэньне і месца ў паэзіі Эдуарда Акуліна займае любоўная лірыка. Вершы пра каханьне ў першых зборніках паэта чыстыя і цнатлівыя. Паэт грунтуецца ў іх на сваіх пачуцьцях, уласным досьведзе і асабістых асацыяцыях, выкліканых каханьнем. Улюблёнасьць — натуральны стан маладосьці. Вершы пра каханьне ў паэта зазвычай лакалічныя, у іх мала строфаў і небагата слоў. Ашчаднасьць у выказваньнях кампенсуецца ўзмоцненай экспрэсіўнасьцю і жаданьнем паэта высьвеціць глыбінную сутнасьць каханьня, якое ён спазнае, праз цэлую гаму разнастайных перажытых ім пачуцьцяў. Гэта і юнацкая разгубленасьць, сьціпласьць і нерашучасьць:

я разгубленай рукою
з кос тваіх выблытваў вецер.

*(Шкельцы ў вітраж «Каханьне», с. 42/3-4),*

якая пераходзіць у сьляпую роспач ад расстаньня з каханай:

Зьнікала ты адна — у ноч,
і я прамоўчаў наўздагон.
А дождж ішоў,
і горад плакаў
усімі проймамі вакон.

*(Шкельцы... с. 42/9-13)*

Роспач зьмяняецца на незвычайную пяшчоту, якая, здаецца, запаўняе сабой ўсю сутнасьць закаханага творцы:

На зямлі двое нас шчасьлівых,
бо ніводнай душы наўкола...
Нас кранула пяшчота ліўня
таямнічым крылом анёла.

*(Пяшчота ліўня, с. 79/1-4)*

Пяшчота ж пераліваецца ў настальгічны і ціхі сум:

Каб я аднойчы не спаткаў Вас,
ці так бы прагнуў зараз жыць...
Ці так бы іншую кахаў я?..

*(Тэрцыны, с. 86/1-3)*

і лірычны жаль:

Тухнуць доўга адгалоскам
тваіх крокаў у вушах.
Аплыве, бы сьвечка воскам,
успамінамі душа.

*(Тухнуць доўга адгалоскам,
с. 88/1-4)*

Пачуцьці, выкліканыя каханьнем, як відаць, не надаюць паэту весялосьці і жыцьцёвага аптымізму. Хуткая зьмена настрою ад бязьмежнага шчасьця да стану роспачы, шчымлівага суму — добра вядомая прыкмета рамантычных і тонкіх натураў. Паэт на ўласным вопыце пераконваецца, што каханьне прыносіць ня толькі станоўчыя эмоцыі, але й душэўны боль. Паэта прыцягвае загадка імгненнасьці, імклівасьці і незваротнасьці каханьня. Недоўгавечнасьць каханьня зава-



*З будучай жонкай Натальляй.*

*Ветка. 1979 г.*

рожвае яго і выклікае жаданьне ў сваіх вершах неяк прыпыніць гэты момант шчасьця, занатаваць яго, намаляваць на паперы словам і такім чынам як найдаўжэй захаваць у памяці і жыцьці. Таму ён зноў і зноў прыслухоўваецца да стану сваёй душы і шукае неабходныя словы, выразы, вобразы для выяўленьня гэтага найскладанейшага чалавечага пачуцьця.

Такі паэтычны самааналіз дае свой плён. Эдуарду Акуліну ўдаецца праз лаканічныя, сьціслыя радкі перадаваць кранальнасьць і крохкасьць юнацкага каханьня, а таксама настальгічны настрой жалю ад незваротнасьці і прамінуласьці людскога жыцьця.

**Прыгажосьць жанчыны для Эдуарда Акуліна зьяўляецца ўсяго толькі часткай вялікай, усеагульнай прыгажосьці, якая разьлітая ў Сусьвеце, і якой пакланяецца паэт.**

Паэзія для Эдуарда Акуліна і крыніца прыгажосьці, і спосаб адлюстраваньня красы, заўважанай ім у акаляючым сьвеце. Ён бачыць яе ў музыцы:

Ўрачысты страх перад прыгожым.
Калі Ты ёсьць? Памілуй, Божа!
Дай сілы слухаць, дыхаць, жыць...

*(Арган, 22/1-3)*

У жывых істотах акаляючай прыроды паэт таксама шукае дасканаласьць харaства:

Акрэсьленасьць цёмных ліній.
Завершанасьць белых лілій.
Срэбнае зерне поўні
лебедзям не зьдзяўбаць...
У пяшчоце абвіўшы шыі,
яны сьпяць.

*(Начное возера, с. 41)*

Краса ў жаночых рухах жыве самастойна, сама па сабе:

Самыя прыгожыя на сьвеце
рухі ўсе прыручаны табою.

*(Знаёмай танцоўшчыцы, с. 44/1-2)*

Яна разьлітая і ў прыродзе:

Прырода, як натуршчыца,
прыгожая і голая...

*(Дзяцінства, с. 62/5-6)*

Паэт будзе і далей, не стамляючыся, усе наступныя гады шукаць Харaство ва ўсім. Уменьне бачыць і адчуваць прыгажосьць, захапленьне ёю — праява цікавасьці да жыцьця. Творцы, як ніхто, чуйныя да красы. Яна, як універсальная субстанцыя, аб'ядноўвае мастацтва музыкі, слова і жывапісу. Яна зьнітоўвае творцаў у часе і прасторы. Яна ўзбагачае і разьвівае ў чалавеку духоўны пачатак, душу. Адчуваньне прыгажосьці ўздымае чалавека над усім жывым, вылучае яго зь мёртвага хаоса Сусьвету. Прыгажосьць непазьбежна набліжае чалавека да разуменьня велічы Творцы.

Эдуард Акулін пачынае задумвацца над сутнасьцю чалавечага быцьця. Ён задае сабе пытаньні, якія, раней ці пазьней, задае сабе кожны думаючы чалавек. Адказ на іх шмат у чым вызначае далейшыя паводзіны чалавека ў жыцьці:

Празрыстая далеч.
Сутонлівы шлях.
Адвечныя мары.
Прытоены страх.

Куды мы? Куды мы?
Куды мы пасьля?
За марай, за дымам
ці будзе працяг?

*(Празрыстая далеч, с. 82/1-8)*

Так акрэсьліваецца пачатак доўгага духоўнага шляху, па якім пойдзе далей паэт.

Пры чытаньні вершаў зь першых зборнікаў Эдуарда Акуліна адразу заўважаецца празрыстая акварэльнасьць паэтычнага стылю паэта. Ён як быццам бы хуткімі і лёгкімі штрыхамі-словамі замалёўвае ўбачанае і адчутае. Паэт пастаянна працуе і ўдасканальвае майстэрства словапісаньня. Недарэмна адзін зь ягоных вершаў так і называецца «Акварэль». Уменьне маляваць словам у далейшай сваёй творчасьці паэт будзе імкнуцца напоўніць больш разнастайным пачуцьцём і новым сэнсам. А пакуль у першых зборніках ягоныя вершаваныя замалёўкі пераважна скіраваныя на дакладнасьць перадачы вобразу і арыгінальнасьць паэтычнага малюнку.

Нельга прамінуць зварот Эдуарда Акуліна ў раньняй творчасьці да яркай метафарычнасьці і фармальных пошукаў у вершаскладаньні.

**Паэт па-майстэрску інкрустуе свае вершы метафарамі, параўнаньнямі, асацыяцыямі, актыўна выкарыстоўвае дакладныя вершаваныя формы, такія як санет, акраверш, трыялет, ронда, актава, тэрцыны.**

Паэт руплівa працуе над формаю верша, над складам, рытмам, рыфмаю і гучаньнем слова, радка, усяго верша. Безумоўна, вялікі ўплыў на творчасьць Эдуарда Акуліна аказалі вершы Максіма Багдановіча, ягоная наватарская праца ў галіне беларускага вершаскладаньня. Але фармальныя пошукі Эдуарда Акуліна, выкананыя ў рэчышчы класічнага постмадэрнізму, падмацаваныя самабытнасьцю ўласнага мысьленьня. І самае істотнае па духу, па сьветаўспрыманьні —

яны моцна зьнітаваныя з сучаснасьцю, з новай эпохай, у якой яму выпала жыць.

Пачаткі паэтычнай творчасьці Эдуарда Акуліна, як мы бачым, заклалі далейшыя шляхі яе росту і разьвіцьця. Творчая манера паэта, гучаньне ягонага верша адразу вылучалася адметнасьцю і арыгінальнасьцю сярод паэтаў ягонага пакаленьня.





*Эдуард Акулін.*

*Рэчыца. 1985 г.*



# IV.

У 1990-м годзе Эдуард Акулін зь сям'ёй пераязджае на сталае жыцьцё ў Менск. Невялікая лясная палеская вёска Дуброва, дзе проста за плотам сядзібы паэта расьлі баравікі, а на ганак дома пагрэцца зь лесу запаўзалі вужы, засталася ў мінулым, гэтаксама як шэсьць гадоў працы настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Дуброўскай васьмігадовай школе. У Менску Эдуард Акулін працуе загадчыкам філіі музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка», дзе вялікі беларускі паэт жыў падчас свайго прыезду ў Менск у 1916 годзе.

Эдуард Акулін актыўна ўключаецца ў менскае культурніцкае жыцьцё. Ён часта выступае як паэт і як бард, сьпявае свае ўласныя песьні на шматлікіх імпрэзах, сустрэчах і вечарынах. У Менску — буйны творчы асяродак, тут — сябры і знаёмыя. Але й не сказаць, каб Менск адразу стаў родным і блізкім для паэта. Эдуард Акулін ня можа не параўноўваць свой мінулы спакойны сузіральны лад жыцьця ў вёсцы з мітусьлівым гарадскім побытам, і параўнаньне ідзе не на карысьць гораду:

Я адвык ад тваіх камяніц,
ад патрэсканай скуры вуліц.
Мне бліжэй цішыня старыц,
што падсьвечваюць сьпеў зязюлін.
Я адвык ад тваіх вітрын,
сумятні і людскога тлуму.
Мне радней сьветлыня калін
з іх адвечна дзявочым сумам.

*(Горад, с. 137/1-8)*

Пры чытаньні гэтага верша прыгадваецца творчасьць беларускіх паэтаў-лірыкаў Паўлюка Труса, Тодара Кляшторнага, якія ў 20-я гады ХХ-га стагоддзя таксама прыехалі зь вёсак абжываць Менск, але паэзія якіх, ці іхняя творчая муза, засталася блукаць па абшарах некранутай чалавекам беларускай прыроды. Зьязджаліся тады яны, прывабленыя неонавым сьвятлом менскіх вітрынаў, не прадчуваючы яшчэ, што неўзабаве крылы іхнія будуць бязьлітасна спаленыя, а талент сьцяты крывавым сярпом. Але ўсялякія міжчасовыя параўнаньні вельмі ўмоўныя. Часы ўсё ж зьмяніліся, і талент Эдуарда Акуліна чакаў больш памысны лёс.

Вершы, створаныя ў наступныя чатыры гады, зьбяруцца паэтам пазьней у зборнік «Крыло анёла».



Эдуард Акулін.

Акопы.
1993 г.

Гэтыя вершы, напісаныя на новым этапе жыцьця паэта, прыпалі на гістарычны злом эпох. Матэрыяльныя цяжкасьці, праблемы з жытлом, татальны дэфіцыт, бытавыя клопаты — рысы тагачаснага паўсядзённага жыцьця кожнага беларуса. І ў той жа час на вачох развальваецца Савецкі Саюз, і з кожным днём набліжаецца высьненая мара — Беларусь прастуе да незалежнасьці! Няпростая, радасная, захапляльная і трывожная пара зьменаў у грамадскім жыцьці краіны, у жыцьці паэта прыпала на адзін і той самы час. Паэт ня можа не пісаць пра Беларусь.

У вершах, прысьвечаных Радзіме, напісаных у гэты навальнічны час, заўважаеш страшэнную трывогу Эдуарда Акуліна за лёс Беларусі. Паэт прымае на сябе ўсе пакуты, увесь боль, які раней давялося перажыць Беларусі:

> Вось — зямля. Гэта — неба, а між,
> затаіўшы жалобу сваю,
> пачарнелы, як прадзедаў крыж,
> на раскрэсах Радзімы стаю.
>
> А шляхі — у чатыры бакі
> перасохлымі рэкамі мкнуць...
> А сьляза — на абедзьве шчакі.
> А бяда — як разьлітая ртуць.

*(Крыж, с. 146)*

Паэт выдатна разумее той цяжкі дэнацыяналізаваны стан, у якім падышло беларускае грамадства да пераломных падзеяў. Ён выкарыстоўвае паралелі ў беларускай гісторыі, каб паказаць усю складанасьць і трагічнасьць сітуацыі. Ён задаецца пытаньнем: ці можа народ, які стагоддзямі трываў уціск, у якога рэгулярна зьнішчаліся ўсе нацыянальныя адметнасьці і асаблівасьці, ці зможа ён зрабіць слушны выбар свайго далейшага гістарычнага шляху:

> мой народ, пілігрым асьлеплы,
> што ня выйдзе з начы на дзень.

*(Слова Паўлюка Багрыма, с. 107/3-4)*

Эдуард Акулін робіць выснову, што толькі магутныя сацыяльныя катаклізмы могуць разбудзіць беларусаў, прымусіць іх узяць на сябе гістарычную адказнасьць за свой лёс. Гэта была даволі сьмелая на той час выснова:

> Сэрца прысак раздзьмуць у сілах
> толькі горана ўздых магутны.

*(Слова Паўлюка Багрыма, с. 107/11-12)*

Паэт цудоўна ўсьведамляе, што воля не даецца проста так, і здабыцьцё волі патрабуе сур'ёзных намаганьняў і ахвяраў. Ён безупынку зьвяртаецца да гістарычных паралеляў, перадаючы такім асацыятыўным чынам свае сапраўдныя думкі. Беларускія постаці нацыянальнага спамеру — Паўлюк Багрым, Франьцішак Багушэвіч, сваім жыцьцём, удзелам у паўстаньні, як Франьцішак Багушэвіч, сваёй паэтычнай творчасьцю, маральным супрацівам паказалі выдатны прыклад

для нашчадкаў. Яны не шкадавалі свайго жыцьця, яны рызыкавалі, яны ахвяравалі сваёй уласнай воляй за духоўную свабоду ўсіх беларусаў:

За волю крывёй адплата,
ня шкода й жыцьця аддаць.

*(Францішку Багушэвічу, с. 108/7-8)*

Эдуард Акулін надае беларускай мове выключную ролю аб'яднаўчага фактару для ўсяго народу, ролю каталізатара і трансфарматара беларускага грамадства.

**Мова для паэта – і сакральны сімвал беларусаў, і паказальнік духоўнага здароўя нацыі, і прыкмета незалежнага дэмакратычнага грамадства.**

Вось чаму:

Жывуць у ёй воля й праўда

*(Францішку Багушэвічу, с. 108/11).*

Вобразы, датычныя Радзімы, атрымліваюцца ў паэта велічнымі і трагічнымі. Анёл-ахоўнік Беларусі напалову белы ад таго лепшага, што ёсьць у нашым народзе і на нашай зямлі. І напалову чорны ад тых бедаў, якія ўзяла на сябе Беларусь:

Анёл самотны падаў зь неба
Над Беларусьсю незаўважна...
Адно крыло — бялей ад сьнегу.
Другое — чорнае, бы сажа.

*(Плач, с.163/1-4)*

І не зразумела, якім будзе далейшы лёс Беларусі. Чаму ў нядоўгія гады беларускага нацыянальнага росквіту з 1990-га па 1994-ы гг. мы ня бачым аптымізму ў вершах Эдуарда Акуліна? Ці прадбачыў ён, што тая Беларусь, пра якую ён дбаў, і якая жыла ў марах і думках дэмакратычнай часткі беларускага грамадства, неўзабаве набудзе зусім іншы выгляд? Ці баяўся ён сурочыць легкадумнай радасцю вершаванага радка той цярністы шлях, на які толькі як выйшла маладая Беларусь? Вось жа пачалі збывацца самыя сьмелыя мары. Беларуская мова стала дзяржаўнай і загучала з высокіх трыбунаў, дзеці масава пайшлі ў беларускія школы. Упершыню за доўгія гады дзяржава ўсур'ёз пачала падтрымліваць беларускую мову і культуру.

Эдуард Акулін сам аддана працуе дзеля беларускага адраджэньня. Тысячы дзяцей слухаюць і глядзяць батлеечныя сьпектаклі, якія разыгрывае перад імі паэт у «Беларускай хатцы». У батлеечным сьвеце драўляныя народ гаворыць і сьпявае голасам Эдуарда Акуліна па-беларуску.





*У "Беларускай хатцы".*

*1997 г.*
*Фота В. Жыліна.*

З жонкай Натальляй. “Беларуская хатка”.

1997 г. Фота В. Жыліна.

У гэтыя гады хто-ніхто з беларускіх адраджэнцаў новай хвалі ўжо супакоіўся, быў упэўнены, што працэс вяртаньня беларускай мовы ў грамадскае жыцьцё незваротны. Эдуарда Акуліна ў гэты час не пакідаюць змрочныя прадчуваньні. На вяршыні сваёй трывогі, шукаючы трывалага апірышча для душы, паэт зьвяртаецца да Бога:

Божа літасны, трыадзіны,
Ты літаньне маё — пачуй.
Не пакінь у бядзе Радзімы —
уратуй.

*(Малітва, с.174/1-4)*

Прыехаўшы ў Менск зь вёскі, засыпанай радыяцыйным пылам, пражыўшы там зь сям'ёй шэсьць гадоў, Эдуард Акулін ня мог абмінуць у вершах і гэтага гора, так да рэшты і неўсьвядомленага беларусамі, а калі і ўсьвядомленага, дык схаванага, як зазвычай, глыбока ўсярэдзіну душы.

Яшчэ болей радыяцыі ўпала на малую радзіму паэта, на Веткаўшчыну. І «Лес дзённага асьвятленьня», бярозавы гай ля Сьвяцілавіч, які навеяў Эдуарду Акуліну назву ягонай першай кнігі, як у жахлівым фантасмагарычным сьне, засьвяціўся на дазіметры ад радыяцыі. Чарнобыльская катастрофа забіла юнацкую мару паэта, ягонае ўяўленьне пра дасканалую прыгажосьць на роднай зямлі. Чысты і цнатлівы бярозавы гай стаўся атрутным і сьмяротным. Дым Айчыны для паэта стаў «не салодкім, а гаркавым». Чарнобыльская катастрофа ўяўляецца паэту расплатаю за дзесяцігодзі нявер'я і адмаўленьня ад уласнай нацыянальнай тоеснасьці. Чарнобыльскі радыяцыйны дым:

Ён аблуднаму люду быў
і прычасьцем сьвятым і карай.

*(Дым Айчыны, с. 129/7-8)*

З гэтай думкаю паэта можна пагадзіцца хутчэй у метафізічным, чым у гістарычным сэньсе. Бо часам ўсё ж гістарычныя абставіны мацнейшыя і за волю народа.

Ня меньш кранае пачуцьці верш-эскіз, дзе паэт асабліва і не гаворыць пра Чарнобыльскую бяду. Але верш усё ж менавіта пра гэта:

Журавіны бяруць жанчыны,
паслухмяныя студзяць пальцы.
Не баяцца сьлядоў ваўчыных, —
на чарнобыльскі вецер скардзяцца.

Журавіны бяруць жанчыны,
імі ўсыпана ўсё Палесьсе...
Нібы кроў па сьлядах ваўчыных
палымнее на першым сьнезе.

*(Журавіны бяруць жанчыны, с.130)*

І калі сэрца паэта баліць за народ, то ягоная душа шукае супакою ў прыгажосьці беларускай прыроды. Гэта тое, з чым ён рос змалку, што кранала ягоныя пачуцьці ў юнацкія

гады. Гэта тое, што ніколі ня здрадзіць паэту, ніколі не расчаруе.

**У вершах Эдуарда Акуліна выяўляецца глыбокая і пяшчотная любоў да беларускай зямлі, якая мае сваю адметную, можа, някідкую, але захапляльную прыгажосьць.**

Нашая прырода блізкая кожнаму беларусу. Але ж ня кожны хоча і можа выказаць свае пачуцьці праз эмоцыю і экспрэсію слова.

Вершаваныя акварэлі зьмяніліся на эскізы. Узмацнілася сэнсавая і пачуцьцёвая нагрузка гэтых лёгкіх на першы погляд малюнкаў, выкананых упэўненым словам майстры:

Пунсовы ветразь плыў па лесе...
Нібыта сьвечка па сутоньні.
Пунсовы ветразь — ліс на сьнезе,
агонь блуканьня на прывольлі.

Плыві, прыгожы, покуль вецер
тваіх сьлядоў не пакідае,
і абмінуць здалей дасьвецьце,
дзе лёс-ганчак цябе чакае.

*(Ліс, с. 113)*

Пры прачытаньні гэтага вершу зьўляецца пранізьлівае адчуваньне імгненнага накіду абсалютнай свабоды, волі, якой няма ў чалавека, якой можна толькі зайздросьціць і спачуваць, бо пры сутыкненьні з жорсткай рэчаіснасьцю ў яе няма шанцаў на выжываньне. У гэтым эскізе праз захапленьне ўбачанай прыроднай неўтаймавальнай прыгажосьцю пачынае высьвечвацца жыцьцёвы досьвед паэта, мудрасьць, якая даецца чалавеку з пражытымі гадамі.

*Эдуард Акулін на абласным фестывалі паэзіі.*

*Акопы. 1993 г.*





# V.

Напачатку 90-х гадоў Эдуарду Акуліну было крыху за трыццаць. Здавалася б, яшчэ ўсё жыцьцё наперадзе, але паэт нярвова і хваравіта рэагуе на хуткаплыннасьць часу. Ён са зьдзіўленьнем, недаверам і сумам аглядаецца на прамінулую маладосьць. Імгненнасьць быцьця і заварожвае, і расчароўвае яго:

Зялёны месяц травень
мільгнуў і тут жа зьнік.
Нібыта за дажджамі
прагледжаны цягнік.

Здаецца толькі вось як
яго быў чутны рух...
Стаю — навокал восень,
і семафор патух.

*(Травень, с. 143)*

Паэт разважае над непазьбежнасьцю зьменаў у сваім жыцьці, якое цячэ, як пясок праз пальцы, і немагчыма затрымаць ягоную плынь:

І жыцьцё, як рака мялее...
Так мінаюць дзяцінства, сталасьць.
А наперадзе плёс бялее
ціхаплынны, нібыта старасьць.

*(Жыцьцёзварот, с. 133/1-4)*

Яму падаецца, што жыцьцё мінае будзённа і нецікава. Але ў гэтай, здавалася б, і спакойнай, і безэмацыйнай канстатацыі адчуваецца ўнутраная нязгода і пратэст. Трэба жыць па-іншаму, ярка і цікава, чытаецца між радкамі гэтага верша, але жыцьцё зьліваецца ў шэрую і аднастайную плынь, якая цягне чалавека за сабой і якой ён ня ў змозе супрацівіцца:

Бяз ценю шкадобы, бяз кроплі адчаю
жыву і жыцьця свайго не прыкмячаю...

Год вып'ю, як кубак гаркавага чаю...
Жыву і жыцьця свайго не прыкмячаю...

Жыцьцёвы экватар будзённа страчаю.
Жыву і жыцьця свайго не прыкмячаю...

*(Бяз ценю шкадобы, бяз кроплі адчаю, с. 140/1-6)*

Прадвызначанасьць лёсу, наканаваны кожнаму чалавеку адыход «у вырай» стаіць перад кожным з нас. І людзі па-рознаму ўсьведамляюць гэтую бязьлітасную плынь прыроды. Паэт выразна адчувае надыход восені ў сваім жыцьці, восені, за якой непазьбежна прыйдзе зіма:

Восень прыйшла зьнянацку,
як тэлеграма ноччу.
Восень — і час зьбірацца
шляхам птушыным крочыць.

*(Восень прыйшла раптоўна, с. 135/5-8)*

Чаму так рана, задумваемся мы? Трэба сказаць, што матывы безнадзейнасьці і песімізму часта чутныя ў лірыцы розных паэтаў. Можа быць таму, што, як у свой час прызнаваўся Уладзімір Караткевіч, паэты жывуць як быццам бы са злупленай скураю... Неверагодная чуйнасьць на праявы жыцьця, празьмерна разьвітае ўяўленьне, адчыненая наросхрыст душа, якая ўмее і вымушаная перажываць і балюча рэагуе на жорсткасьць і несправядлівасьць, мудрасьць і сталасьць, зьяўляюцца праявамі сапраўдных паэтычных натураў. Часам унутраны крызіс паэта выплёскваецца навонкі радкамі, напоўненымі глухім болем і адчаем:

Я стаміўся на сьвеце жыць,
я аб сьмерці стаміўся думаць...
Ліст на ветры ўгары дрыжыць
і на дол пазірае з сумам.

*(Я стаміўся на сьвеце жыць, с. 132/1-4)*

Паэт думае пра непазьбежны скон, шукае сімвалічныя знакі і мясьціны, да прыкладу, захапляецца бярозавым гаем на вясковых могілках:

Ах, якія могілкі прыгожыя
на радзіме Толіка Сыса!
Дзе бярозай стала ледзь ня кожная
у Дняпро схаваная душа...

*(Зайздрасьць, с.165/1-4)*

Ён не асьцерагаецца назваць гэты верш «Зайздрасьць», бо гэта ж ня зайздрасьць быць пахаваным на прэстыжных могілках. Гэта падсьвядомае жаданьне знайсьці ў сьмерці і ў тым, што зьвязана зь ёй, рысы вечнай дасканаласьці і прыгажосьці. Паэт думае і разважае пра тое, а што ж застанецца пасьля яго ў гэтым сьвеце? І нараджаюцца радкі аднаго з найлепшых, на мой погляд, вершаў Эдуарда Акуліна:

Месячнай цёплай ноччу
шляхам апошнім, Млечным,
ціха ў Сусьвет пакрочу,
буду сабе сьвяціць...
Каб і адтуль, з вышыняў,
каб і адтуль, з далечы,
бачыць цябе, Радзіма,
і, як цяпер, любіць.

*(Месячнай цёплай ноччу, с. 141)*

Гэты верш уяўляецца разьвітальным сьпевам з жыцьцём, кранальным, сьціплым і глыбока ўласным, ён, як запавет у любові да Радзімы, які даецца самому сабе.

**Вечная душа чалавека, вечная любоў, якая струменіць зь яе, вечная Радзіма.**

Уражвае непадробленая шчырасьць верша. Ён адначасова і патрыятычны, і лірычны. Ціхая, бяспафасная любоў да Радзімы, любоў, якая перамагае сьмерць, любоў бязьмежная і ўсеабдымная да той Радзімы, якая ў нас ёсьць, зь яе хібамі і ва́дамі, зь яе нязгаснай прыгажосьцю проста праменіцца з гэтага верша.

Эдуард Акулін спрабуе асэнсаваць і суаднесьці ўласнае Я і бег часу. Час падаецца яму бязьлітаснай няйтральнай субстанцыяй, якая няўхільна забірае ў чалавека жыцьцё. Чалавечая асоба распускаецца ў часе. Самотныя хвалі часу нясуць чалавека наперад. Паэт імкнецца зразумець, што адбываецца з асобаю ў зьменлівым рухомым сьвеце:

Я ўрастаю ў чарговы дзень,
як у лёд урастае рыба.
Саркафага шкляная глыба
разьмяжуе сьвятло і цень.
Я ўрастаю ў чарговы год
непазьбежна і незваротна,
не шкадуючы дзён самотных,
што згарэлі, нібы бікфорд.

*(Я ўрастаю ў чарговы дзень, с. 134/1-8)*

Эдуард Акулін.

Акопы. 1993 г.

Сьмерць уяўляецца паэту ня толькі, як рэальнае пахаваньне, але і як адыход душы чалавека ў нябёсныя вышыні. У рэчышчы хрысьціянскай традыцыі ён разглядае гатоўнасьць уласнай душы да небаўзьняцьця. Чалавечае жыцьцё поўнае клопатаў, каханьня і пакутаў, насычачае высокімі памкненьнямі і жарсьцю, урэшце становіцца падобным да ледзь прыкметнай залатой сьлязіны на сьвечцы:

Усе пуцявіны прыводзяць у неба.
Для грэшнай душы сваёй крылы гадую.
Калі адыходзіш — адзінае трэба:
на сьвечцы заўважыць сьлязу залатую...

*(Адлюстраваньне, с. 150/1-4)*

І сон уяўляецца паэту падрыхтоўкаю да разьвітаньня з жыцьцём, кароткачасовай сьмерцю, калі душа адлятае ад цела, і калі ты можаш паглядзець на самога сябе як бы збоку:

І целу майму пустому
балесна на сподзе сноў.
Вярніся, душа, дадому, —
прашу і ня чую слоў.

*(Душа, с. 164/5-8)*

Паэт прыходзіць да высновы — усё жывое сьмяротнае і нявечнае, таксама як нявечныя чалавечыя адчуваньні. У роздумах пра хуткацечнасьць жыцьця вымалёўваецца парадаксальная выснова. Чалавек нараджаецца дзеля таго, каб памерці. Ні для чаго іншага, не дзеля каханьня, не для працы, не для цялесных задавальненьняў і ўцехаў, а для сьмерці. Жыцьцё і сьмерць маюць у паэта непарыўную сувязь. Квітнеючая радасьць жыцьця адначасова выклікае непазьбежны трыумф сьмерці:

Сустракаемся, каб разьвітацца.
Засынаем, каб прачнуцца.
Нараджаемся, каб памерці...
Для сьмерці
нараджаемся мы аднойчы.

*(Вольны верш, с. 120/5-9)*

Заўважны ўнутраны надлом, прадчуваньне наканаванага жыцьцёвага тупіка часам выклікае ў паэта ярасны пратэст. Ён імкнецца вылузацца з абрыдлівай паўсядзённасьці, захаваць ахвярны імпэт маладосьці. Міг сьмяротнага нябеснага па вышыні пачуцьцяў шчасьця даражэйшы для паэта за маўклівае і пакорлівае зямное існаваньне:

Забяры мяне ў неба, маланка!
І хоць шчасьце з табою — на міг...
Я клянуся быць шчырым каханкам
у пякельных абдымках тваіх.

Лепей зьнікнуць у сіняй прасторы,
абудзіўшы залевай ральлю,
чымся жыць у маўклівай пакоры —
і аднойчы сысьці пад зямлю.

*(Забяры мяне ў неба, маланка!, с.142)*

Неспатольная душа паэта бунтуе і супраціўляецца няспыннай і халоднай плыні лёсу. Паэт спрабуе супрацьстаяць гэтай плыні, ён імкнецца ўзьляцець над ёй, але з скрухаю ўсьведамляе, што чалавек непазьбежна прайграе ў гэтым сутыкненьні. Не знаходзячы падтрымкі на зямлі, ён не заваёўвае яе і ў памкненьнях-марах:

Гэта сам я сябе распнуў
на няшчаднага лёсу пяльцах.
Стаў над безданьню — і сігануў,
нат забыўшы, што воск плавіцца.

Гэта сам я сябе пракляў,
сярод неба — ня стала сілы...
Воск на пальцах — крывёю зьзяў
ад зламаных маіх крылаў.

*(Ікар, с. 138/5-12)*

Вялізны зрух у лёсе краіны і народу супаў па часе з мацнейшым духоўным крызісам у творчасьці паэта. Выпадкова гэта ці не, цяжка сказаць. Ёсьць рэчы невытлумачальныя, метафізічныя, якія нельга зразумець згодна логікі і рацыяналізму. А, можа быць, шпаркая хада ў вырашэньні грамадскіх, нацыянальных пытаньняў, калі здавалася, што ўсё, беларуская справа стаіць на добрым торы, так паўплывала на яго?

Дзіўна, што працуючы ў тыя гады разам з Эдуардам Акуліным у адным музейным калектыве, часта сустракаючыся і размаўляючы зь ім, я не заўважаў гэты жыцьцёвы надлом, гэтыя магутнейшыя душэўныя перажываньні. Ня думаю, што іх заўважаў яшчэ хто зь ягоных сяброў і знаёмых. Хаця ў гэтым я, можа быць, і памыляюся. Безумоўна, я чуў і чытаў у тыя гады гэтыя вершы. Але, калі паэту было 30 гадоў ці каля гэтага, калі ён не дасягнуў яшчэ і ўзросту Хрыста, нейк ня думалася пра крыніцы ягонага сусьветнага суму. Пэўна, што тое, што паэт перажываў у сабе, пра што маўчалася ў гутарках і размовах нават зь сябрамі, шчыра і адкрыта вылівалася ў вершах.

На маю просьбу пры падрыхтоўцы гэтага артыкулу патлумачыць матывы сьмерці, хуткага адыходу з жыцьця ў вершах, напісаных у пачатку 90-х гадоў, Эдуард Акулін адказаў наступным чынам: «Самім фактам свайго нараджэньня мы прыгавораныя да непазьбежнай сьмерці... Адзінае, што я вынес з гэтага змрочнага перыяду сваёй творчасьці — слова матэрыяльнае і напісанае можа стаць рэальнасьцю. Вось жа напісаў я па маладосьці: «Пахавайце мяне ў Бесядзь...» І ў Бесядзі праз колькі гадоў абарвалася жыцьцё маёй цёткі Таццяны. Напісаў верш «Зайздрасьць», прысьвечаны Анатолю Сысу, з радкамі:

«Хораша пры бацькавай магіле тут пачуць на Радаўніцу гром...», і праз 5 гадоў, акурат на Радаўніцу, хаваў Анатоля на ягоных гарошкаўскіх могілках... Таму зараз стараюся нічога падобнага не пісаць, каб не цьвяліць лёс...»

*(Ліст ад 22.04.2013)*



*Алесь Бяляцкі і Эдуард Акулін з жонкамі і сынамі Верасам і Адасём.*

*Менск.1993 г.*




*Эдуард Акулін на сьвяце паэзіі "Ракуцёўскае лета".*

*1996 г.*



*На падворку Міхася Скоблы зь ягонай маці Леакадзіяй Уладзіміраўнай, Нілам Гілевічам і Сяргеем Чыгрыном.*

*2003 г.*

Псіхалагічна няпроста быць паэтам народу, у нацыянальным характары якога існуе рыса замоўчваць і ўтойваць свае ўнутраныя душэўныя зрухі і эмоцыі. Чытаю сёлетняе інтэрв'ю ксяндза-паляка, які ўжо дзесяць гадоў як працуе ў беларускай глыбінцы. Ён піша: «Беларусы даволі замкнутыя ў сабе, калі гаворка ідзе пра выяўленьне сваіх пачуцьцяў і перажываньняў — таксама рэлігійных — перад іншымі людзьмі». Можа, у першую чаргу ўсіх іншых эмоцыяў, думаю я.

**Цяжка быць беларусам і паэтам. Бо паэт мусіць быць шчырым і адкрытым для ўсіх людзей.**

Я чытаў гэтыя напоўненыя смуткам вершы Эдуарда Акуліна. Але яны перамежваліся зь любоўнай лірыкай паэта, якую ён працягваў пісаць, і адыходзілі на другі план. А званчэй за ўсё гучалі песьні паэта-барда. Песьні пра Радзіму, пра каханьне, але ніяк не пра сьмерць...

## VI.

Багата вершаў у зборніку «Крыло анёла» прысьвечаныя каханьню. Эдуард Акулін працягвае раскрываць рамантычныя і настальгічныя пачуцьці, якія апаноўваюць лірычнага героя падчас каханьня, што было характэрным і для ягоных юнацкіх вершаў. Каханьне асацыюецца ў паэта зь нечым чыстым і сьветлым, у ім пацалункі «ад Мілавіцы да сьвітаньня», яго ахутвае «мяккі водар сініх бэзаў». Каханьне ў Эдуарда Акуліна часта ідзе поруч зь вясною, бо там:

> першаквецьце каханьня.
> Майскі ранішні бэз —
> фіялету разьліў на паркане...

*(Бэз, с. 121/8-10)*

Расставаньне з каханьнем выклікае ў паэта асацыяцыі з восеньню і зімой:

Крыкну наўсьлед лету я:
— Даруй мне за ўсё, сьветлая!

*(Міньён памяці, с. 126/ 14-15)*

Прыродныя зьявы дапамагаюць Эдуарду Акуліну выказаць настрой ягонай душы. Тады паэта ахінаюць пачуцьцё смутку і суму:

Мой смутак, нібы несьціханы
кастрычніцкі, помсьлівы дождж

*(Смутак, с. 144/с.3-4)*

Радасьць і шчасьце ў каханьні хуткацечныя. Не пасьпявае лірычны герой атрымаць асалоду ад гэтага пачуцьця, як яго апаноўваюць іншыя хвалі перажываньняў. Каханьне прыносіць паэту больш сумных і маркотных матываў у настроі. Адпаведна, гэтыя матывы дамінуюць і ў вершах паэта пра каханьне.

Сьпектр разнастайных пачуцьцяў у вершах пра каханьне вельмі шырокі. Гэта і сум, які паэт чытае ў вачох любімай. Каханьне яшчэ жыве, але зьяўляюцца першыя прыкметы, якія гавораць пра будучае расстаньне:

Гэта вусны дазвол давалі,
гэта вочы сьвіталі сумам.

*(Паўднёвы ўспамін, с.119/7-8)*

Гэты сум, выкліканы ўспамінамі пра вочы каханай. «Калі двое людзей глядзяць адзін на аднаго, то адное »я» стаіць насупраць другога «я»... Позірк чалавека прамаўляе», — так напіша ў філасофскай працы «Структура чалавечай асобы» Эдыта Штэйн. У вачах можна прачытаць тое, што не выказваюць словы. Вочы ня маняць, таму яны часта будуць вызначальным сімвалам у вобразнай сістэме паэта:

Ты — мой сум.
Пасярод ночы ўспамінаю твае вочы.

*(Вольны верш, с. 120/1-2)*

І зноў сумныя вочы жанчыны, як прыкмета расстаньня і здрады зьяўляюцца ў вершах Эдуарда Акуліна:

Жанчына з сумнымі вачыма,
табе пасуе колер здрады...

*(Жанчына з сумнымі вачыма, с. 168/1-2)*

Каханьне яшчэ жыве. Але незразумелыя і загадкавыя законы жыцьця разлучаюць людзей, застаецца смутак ад разьвітаньня з каханай:

Пакладзі мне далонь на вусны...
Разьвітальна і беспрымусна.

*(Міньён памяці, с. 126/1-2)*

Боль душэўны ня меньш пакутлівы за фізічны боль, асабліва калі ён прынесены каханьнем:





Быццам сьвежы парэз,
што раптоўна ў душы закрываяніў...

*(Бэз, с. 121/11-12)*

Гэта і маркота ад пакінутасьці і адзіноты. Туман у паэта ў прыродзе асацыюецца з маркотаю ў душы. А што можа быць больш маркотным за сьнежаньскі туман:

Туман у сьнежні —
варажба...
Ці насланьнё,
ці адзінота?
Ён першы сьнег не зьневажаў.
Ён проста быў, як я, маркотны.

*(Туман у сьнежні, с. 127/1-6).*

Маркота ўзьнікае ў паэта і ад бязьмежнага каханьня:

Над безданьню даверлівых вачэй
мая маркота ў белы строй прыбраная,
мая Каханая...

*(Газэля, с. 159/11-13 )*

Ці самота ў аднайменным вершы «Самота», і нават адчай ад каханьня ў вершы «Адчай». Такі склад душы паэта. Жывучы, ён думае пра сьмерць, кахаючы, ён перажывае непазбежную страту каханьня.

Паэт перабраў шматлікія мінорныя таны і паўтаны, якія ўзьнікаюць у чалавека ў закаханым стане ці пры расстаньні з каханьнем. Ён выявіў сябе непераўзыйдзеным майстрам у паказе ледзь заўважных і адчувальных зрухаў, якія выклікаюць прывід каханьня ў чулай і безабароннай душы. Ён здолеў выказаць тое, у чым людзі вельмі часта ня хочуць прызнавацца самі сабе, бо ўспаміны такога кшталту выклікаюць ня толькі сум, але і боль. Але паэт не баіцца болю ад прамінулага каханьня, бо ў ім, перакананы ён, існуе значная, а то і лепшая частка чалавечага жыцьця.

У любоўнай лірыцы Эдуарда Акуліна зьявіліся і новыя рысы. У ягоных вершах загучалі эратычныя матывы. Пасьля юнацкіх рамантычных мараў і спатканьняў прыходзіць спазнаньне жарснага каханьня ад сумеснай блізкасьці мужчыны і жанчыны:

Як зморыцца ноч ад каханьня,
настыне ў тумане язьмін,
і неба дасьпее сьвітаньнем,
ты мовіш сьціхотна: — Вазьмі,

вазьмі маё цела, каханы,
і боль мой, і сьлёзы мае...
І сонца ўзаўецца фантанам
рассыпаных кос па траве...

*(Пазнаньне, с. 147)*

Паэт у вершах адкрыта любуецца жаночым целам. Ён ня бачыць у сваім захапленьні нічога заганнага. Эротыка гэтаксама спалучаецца ў Эдуарда Акуліна з рамантычнымі

настроямі, з эстэтычным захапленьнем харыраствам.

Вобраз аголенай жанчыны ў вадзе — адзін зь любімых вобразаў паэта. Эдуард Акулін параўноўвае жанчыну і зь віяланчэльлю, якая абрысамі нагадвае каханую жанчыну:

Па меры таго як памалу
з глыбі яна йшла на мель,
я бачыў: ад футарала
вызвалялася віяланчэль.

*(Жанчына, с. 117/1-4)*

ці з русалкаю, якая аголенай плёскаецца ў вадзе:

У сцыплым убраньні Евіным
цябе сустракала возера...

*(Сустрэча, с. 122/3-4)*

Эратычная карціна малюецца паэтам і на беразе ракі. Гэта чыстая, цнатлівая эротыка. Прыгажосьць жаночага цела ўзносіцца паэтам да ўзроўню эстэтычнага канону:

Сарамліва ў люстэрка ракі
ты сама на сябе паглядзела...
І каса паслухмяна з рукі
вадаспадам ахутала цела.

*(На беразе, с. 169/1-4)*

І нават пакой у кватэры можа пераўтварацца ў разгайданае мора:

Ня вернецца назад Учора.
Дзе ложах — яхта. Хвалі — шторы...

*(Трыялет, с. 172/5-6)*

У каханай жанчыне паэт бачыць найдасканалейшае стварэньне:

Ад зайздрасьці цьмянее сонца
перад мадоннай з Белай Русі.

*(Мадонна, с. 118/3-4)*

Безагляднае пакланеньне жаночаму хараству, захапленьне цудам жанчыны робяць эратычныя вершы Эдуарда Акуліна праўдзівымі, нязмушанымі песьнямі цялеснага каханьня, якое зьяўляецца часткаю чалавечага жыцьця. І калі Бог дазваляе і ўхваляе такое каханьне, то ці ж вінаваты паэт, які натуе яго ў вершаваныя радкі...



# VII.

Працягвае Эдуард Акулін эксьпериментаваць з разнастайнымі вершаванымі формамі. І калі ў першых двух зборніках паэта сустракаюцца паэтычныя формы, вядомыя ў беларускай паэзіі яшчэ ад часоў Максіма Багдановіча, то ў «Крыле анёла» мы бачым пошук і працу паэта над вершаформамі, якія даволі рэдка ўжываліся ў айчыннай паэзіі ці не выкарыстоўваліся зусім. Так, у зборніку ёсьць туюгі, чатырохрадковікі з трыма аманімічнымі ці каламбурнымі рыфмамі; віланэль, які складаецца з трохрадкоўяў са скразнымі рыфмамі першай і трэцяй строфаў і з асобнай рыфмаю другіх строфаў; рытурнэль створаны з трохрадкоўяў, дзе рыфмуюцца першы і трэці радкі строфаў, а першы радок уяўляе адно ці двухскладовае слова; элегія — верш з пачуцьцём суму і смутку; канцона — верш, складзены з шасьцірадковых строфаў з рыфмаю *абабвв*; газэля — верш з шасьціradковых строфаў, дзе зарыфмаваныя два першыя і ўсе цотныя радкі страфы...

**Відавочна, што паэт ставіў перад сабой некалькі мэтаў: удасканаліць сваё майстэрства вершаскладаньня, а таксама паказаць лексічнае багацьце беларускай мовы, яе танічнасьць, пластычнасьць і мілагучнасьць.**

Праца з пэўнымі, створанымі за тысячагоддзі існаваньня і разьвіцьця паэзіі, формамі вершаскладаньня мае глыбокі сэнс. Гэта — не бяздумная гульня ў перліны, як можа здацца на першы погляд. Адшліфаваны вершаваны канон — вяршыня мастацтва вершаскладаньня. Ён строгі, нязьменны, як ліцейная форма, якая ўнармоўвае гарачыню паэтычнага слова і прымушае яго зіхацець загадзя прадуманымі ўзорамі, строгім арнаментам і папярэдне вызначанымі гранямі. У застыласьці і статычнасьці формы адчуваюцца веліч, годнасьць і прыгажосьць. У вызначаным чаргаваньні рыфмаў, пэўнай колькасьці радкоў, у цьвёрдай канструкцыі строфаў за-

кладзеная архітэктоніка стагоддзяў. У разьнамерным рытме вызначанай колькасьці складоў чутнае цыклічнае чаргаваньне прыродных зьяў: шоргат марскіх хваляў, узыход і захад сонца, нараджэньне і паміраньне поўні.

Ужываньне класічных паэтычных формаў патрабуе ад паэта дасканалага веданьня і адчуваньня мовы. Чытаючы «Газэлю» ці «Асеньні рытурнэль» Эдуарда Акуліна разумееш, што складаныя вершаформы не абмежавалі думку і пачуцьці паэта, дзякуючы ім, яны заблішчэлі і заіскрыліся словамі і радкамі, як аграненыя дыяменты:

> І рэха вечаровае званчэй, калі шапчу
> да зорак апантана я —
> мая Каханая!
> І сьмехам тваім поўніцца ручэй,
> як ад мяне за далеч ты схаваная,
> мая Каханая!

*(Газэля, с. 159/14-19)*

Ня зьнікла за сто гадоў з часоў Максіма Багдановіча і праблема прэстыжнасьці беларускай мовы. То там, то сям чуюцца галасы, што беларуская мова грубая, немілагучная, абмежаваная ў сваіх сэнсавых магчымасьцях і лексічных рэсурсах. Добрымі лекамі ад гэтай хваробы зьяўляюцца вершы, якія наглядна паказваюць разнастайныя магчымасьці беларускай мовы як інструменту маўленьня.

# VIII.

Як я ўжо згадваў, зборнік «Радно» — чацьвёртая па ліку кніга паэзіі Эдуарда Акуліна, цалкам увайшоў у выбраны том «Сьвятая ноч». Рабілася гэта таму, што амаль увесь наклад зборніка ў 2000 годзе быў зьнішчаны проста ў друкарні. Прычынай гэтага былі некаторыя вершы са зборніка, якія ўласьнік друкарні палічыў занадта вострымі і палітызаванымі, у прыватнасьці, верш «Паэт», прысьвечаны Народнаму паэту Беларусі Нілу Гілевічу. Уласьнік друкарні пабаяўся, што зьяўленьне «Радна» з выходнымі дадзенымі друкарні можа зашкодзіць ягонаму бізнэсу з боку ўладаў. У выніку кніжка была пушчаная пад нож, а на руках у паэта засталося толькі дзесяць сігнальных асобнікаў. Такім чынам, некаторыя вершы Эдуарда Акуліна былі ўспрынятыя як палітычная крамола. Вось так шырокамаштабная барацьба ў краіне з плюралізмам думак, з іншадумствам прайшлася і па творчасьці паэта.





**Беларускія паэты — вешчуны і захавальнікі Зьніча беларускай мовы. Яны чарадзеяць на капішчы Мовы. Яны пакланяюцца ёй і ўзносяць вершы-малітвы. Яны гатовыя абараняць мову продкаў і змагацца, і цярпець за яе. І Эдуард Акулін — адзін з найбольш адданых Мове вешчуноў-чарадзеяў.**

*Эдуард Акулін у музеі Ромуліна. Сербія.*

*2009 г.*



*З Леанідам Дранько-Майсюком. З'ёзд СПБ.*

*2006 г. Фота Глеба Лабадзенкі.*

Сумная гісторыя выданьня паэтычнага зборніка «Радно» паўтарае іншую расправу з кніжкай «Вершы Анны Ахматавай». У 1946 годзе ўвесь яе наклад быў зьнішчаны ў друкарні, засталося толькі крыху болей за дзесяць асобнікаў кнігі. Прайшло больш за паўстагоддзя і ў Беларусі, гэтай Вандэі Савецкага Саюза, як казаў у свой час Алесь Адамовіч, гісторыя паўтарылася наноў. У другой палове 90-х гадоў мінулага стагоддзя кардынальным чынам зьмяніліся адносіны дзяржавы да беларускай мовы. Была згорнутая беларускамоўная адукацыя. Спыніўся працэс пераходу на беларускую мову розных галінаў сацыяльнага і грамадскага жыцьця, якія залежалі ад уладаў. Ізноў востра паўстала пытаньне самога існаваньня беларускай мовы. Быў праведзены рэферэндум, які пазбавіў беларускую мову статусу адзінай дзяржаўнай мовы. Больш за тое, пад пытаньне было пастаўлена само існаваньне беларускай дзяржавы. Дзяржаўная сімволіка краіны, якая мела гістарычныя карані: герб Пагоня і бела-чырвона-белы сьцяг, была замененая на бэсэсэраўскую сімволіку зь нязначнымі адрозьненьнямі. Застаўся складзены ў часы Сталіна і крыху мадэрнізаваны дзяржаўны гімн. Саюзныя вайсковыя і эканамічныя дамовы з Расіяй моцна прывязвалі Беларусь да імперскай краіны, якая на працягу стагодзьдзяў выступала ў якасьці агрэсара і акупанта, якая пасьлядоўна прыгнятала і зьнішчала ўсе памкненьні беларусаў да незалежнасьці, да разьвіцьця ўласнай тоеснасьці, да разьвіцьця мовы і культуры. Пасьля бурнага працэсу нацыянальнага адраджэньня пачатку 90-х гадоў гэтак жа імклівы наступіў рэгрэс.

Эдуард Акулін балюча і хваравіта перажывае гэтыя зьмены, якія перакрэсьлівалі ягоныя мары і спадзяваньні, выказаныя яшчэ ў падсавецкі час. Ідэя нацыянальнага, культурнага, моўнага адраджэньня была падвергнутая атацы і астракізму, была зьняважаная і абылганая нашчадкамі сталінска-брэжнеўскай сістэмы. Яны звыкліся жыць у ідэалагічным кактэлі, замяшаным на камуністычных ідэях, папулізьме, халуйскай угодлівасьці перад рускай мовай. Яны прызвычаіліся да духоўнай і маральнай няволі. Яны не ўяўлялі, што можна і трэба жыць па-іншаму.

Але як ня дзіўна, драматычная, а часам трагічная сітуацыя ў краіне, катастрофа, якая адбывалася з беларускай культураю, мовою, мабілізавалі жыцьцёвыя і духоўныя сілы Эдуарда Акуліна. Часам у вершах, дзе выяўляецца ўнутраны стан паэта, яшчэ гучаць матывы песімізму і безнадзейнасьці, паэту здаецца, што ён ужо ніколі ня ўзьнімецца ў нябёсы паэзіі, не адарвецца ад штодзённага будзённага існаваньня:

> Баюся вышыні —
> стаміўся ад палёту...

*(Чакаю цішыні, с. 180/3-4)*

І хаця яшчэ на паэта набягаюць хвіліны роспачы і расчараваньня, «калі нябёсы клічуць на спатканьне» (Паэты пачынаюцца

зь любові, с. 182/8), і водгульле творчага крызісу, матывы сьмерці ахопліваюць яго час ад часу:

Маёй душы пустую клетку
даўно пакінуў салавей...
Тут вершам пішуць вельмі рэдка,
тут сьмерць — апошняя з надзей.

*(Мая душа — як ліфт парожні, с. 192/9-12)*

Яшчэ чуваць у вершах сум па незваротнай лёгкасьці быцьця ў маладосьці, ва ўяўленьні паэта лёгкае крыло юнацтва легла на празаічную плаху жыцьця:

Гадоў, як воблакаў сплыло —
больш не лятаю вольным птахам.
Юнацтва лёгкае крыло
жыцьцём заручанае з плахай.

*(Юнацтва, с. 215/9-12)*

Але прыходзіць супакаеньне і разуменьне і розумам, і душою, што «і жыцьцё — як няблізкі шлях...» (Я шкадую пражыты дзень..., с. 244/9) і што «вырай мой — няблізкі, недалёкі...» (Верасень мярэсьціцца ў смузе, с. 194/10). Паэт зьмірыўся з тым, што жыць усё ж прыйдзецца столькі, колькі наканавана ці адмерана Богам.

Вяртаньне да клопату будзённага жыцьця адбываецца ва ўяўленьні Эуарда Акуліна пад наглядам Чарнобыльскага анёла, анёла-ахоўніка, ці то фантастычнай пачвары-выродка, ці то супер-анёла, загартаванага ў радыяцыйным пекле:

Ён маўчаў і глядзеў мне у вочы,
ён прарочыў нязжыты мой лёс.
Я з магілы глыбокае ночы
пад паглядам яго уваскрос.

*(Чарнобыльскі анёл, с. 201/5-8)*

Паэт імкнецца быць гранічна шчырым перад сабой найперш у творчасьці: «Я хацеў бы пісаць, як жыву...» (с. 181/1). А таксама ў жыцьці, якое адбіваецца ў ягоных вершах. Сьлёзы-вершы ў паэта напоўненыя пяшчотай і міласьцю:

І сьлязіна мая — як кроў,
што падсочана з роду Дрэва,
дзе ўпадзе яна — там Любоў,
там сьвітальных валос залева...

*(Я хацеў бы пісаць, як жыву, с. 181/13-16)*

Сам працэс вершатварэньня для Эдуарда Акуліна прыцягальна-пакутлівы, ён паліць душу паэта жахлівым агнём: «Натхненьня міг — агнём Геены» (Паўночны пакой, с. 214/11-12).

Паэтычны дар, мяркуе паэт, блізкі да чараўніцтва, а магія слова перайшла да яго ў спадчыну ад прабабулі:

Я з таемных тваіх маленьняў,
я з глінянай тваёй імшы




*З Элкай Няголавай на адкрыцьці паэтычнага фестывалю "Славянскія абдоймы".*

*Варна. 2013 г.*



З Паўлам Шыдэлем і Міхасём Скоблам на пэтычным фестывалі “Пабочча” ў Вейцбарку.

Польшча. 2003 г.



З Іванам Добнікам на паэтычным фестывалі ў Добрыцы.

Славенія. 2006 г.

скраў пярынку твайго агменю,
скраў сьвятлінку тваёй душы...

*(Гліняная імша, с. 220,9-12)*

У вершах гэтага перыяду Эдуард Акулін выкрышталізоўвае сваю жыцьцёвую пазіцыю. Яна ў яго можа быць нязручная і непрыймальная для адных, верагодна, занадта рэзкая і максімалісцкая для іншых, але ясная і зразумелая для ўсіх:

Палю масты, але з адной умовай,
як ведаю, што болей не вярнуся...
Палю датла, а толькі на палову —
наўрад ці і з гадамі навучуся.

*(Спаліць масты..., с. 188/9-12)*

Жыцьцёвая пазіцыя паэта ўзвышана-ахвярная, падкрэсьлена цэнтрычная, без аглядкі на абставіны, акаленьне і асяроддзе:

Пайду ў Лістапад
без надзей на вяртаньне,
як жораў журлівы ў обнізе зор...
Сыду назусім — ерэтык-самазванец...
Спытаюць — куды?
Адкажу — на касьцёр.

*(Пайду ў Лістапад..., с. 202/11-15)*

Матывы ахвярнасьці гучаць у вершах Эдуарда Акуліна. Ён гатовы ахвяраваць сабой за Радзіму, за беларускі народ. Паэт стварае мегалітычныя метафарычныя вобразы, уяўляючы сябе з Крыжом Беларусі на плячах, прадчуваючы, што ён можа быць распнутым на ім:

калі ўвырайлётныя гусі
мне сэрца, як пацер, праніжуць,
раскрэсы маёй Беларусі
я ў рукі вазьму заміж крыжа,

і рушу насустрач Галгофе
зашклёным шляхом перадзім'я...

*(Пілігрым, с. 203/5-10)*

Шчымлівая любоў да няшчаснай краіны бачная ў гэтым вершы. Біблейскія матывы ўкрыжаваньня Ісуса Хрыста, ягонага пакутніцкага шляху на Галгофу метафарычна пераносяцца паэтам на глебу сучаснасьці.

**Лёс цяперашняй Беларусі ва ўяўленьні паэта — гэта пакутніцкі крыж, узвалены на плечы яе адданых і ахвярных сыноў.**

Непазьбежны шлях да беларускай Галгофы, на якім паэт прарочa бачыць ахвяры і пакуты. Але дадзены аброк, і які б ня быў вынік, паэт гатовы годна прайсьці па гэтым цярновым шляху.

# IX.

Зацікавіла Эдуарда Акуліна і выклікала рэфлексіі ў вершах гэтага перыяду роля паэта ў беларускім грамадстве. Спробы асэнсаваць ролю, значэньне і месца паэта ў беларускай прасторы рабілі ў свой час і Янка Купала, і Максім Багдановіч. Яны акрэсьлівалі значэньне беларускіх паэтаў як надзвычай важнае. З аднаго боку, яны бачылі прызначэньне паэта быць будзіцелем народу, песьняром-вешчуном, уладальнікам народных дум, вуснамі якога прамаўляе сама ісьціна. З другога боку, паэты ўяўляліся захавальнікамі сутвы народнай душы, культурных і духоўных скарбаў народу.

За саветамі, згодна з канонамі сацыялістычнага рэалізму, роля паэтаў зводзілася да ролі праваднікоў камуністычнай ідэалогіі. Багата хто зь беларускіх паэтаў не пагаджаўся, супраціўляўся і рызыкаваў, парушаючы гэтыя каноны. З другой паловы 80-х гадоў XX-га стагоддзя ізноў пачалося новае інтэнсіўнае асэнсаваньне месца паэта ў сучасным жыцьці. Многія паэты вярталіся да ідэалогіі адраджэньня, адпаведна, яны па-іншаму ўяўлялі сваю ролю і значэньне ў жыцьці беларускага народу.

У той час пісаў пра ролю паэта ў жыцьці народу і Анатоль Сыс.

Для Эдуарда Акуліна гэтая праблема стала надзённай у другой палове 90-х гадоў, у зьвязку з цынічным ігнараваньнем уладамі тых думак і пасылаў, якія гучалі і ў выказваньнях, і ў творчасьці беларускіх пісьменьнікаў, а таксама з абмежаваньнем свабоды творчасьці, якое рознымі спосабамі праводзілі ўлады. Вярталася задушная атмасьфера страху і маўчаньня, характэрная для сталінскіх 30-х гадоў. Творцаў падзялілі на «сваіх» і «чужых». Падзел пісьменьнікаў адбыўся па ідэалагічным прынцыпе, па іхніх поглядах на грамадска-палітычныя падзеі ў краіне. Адпаведна, творы «чужых» пісьменьнікаў перасталі друкавацца ў дзяржаўных выдавецтвах, яны выключаюцца з навучальных праграмаў па беларускай літаратуры. Апальных пісьменьнікаў не пускаюць на тэлебачаньне і радыё, іх «не заўважаюць» ва ўсіх сьферах грамадскага жыцьця.

Існаваньне Беларусі як незалежнай, вольнай і дэмакратычнай краіны было пастаўленае пад пытаньне. Гэта стала асабістым выклікам для Эдуарда Акуліна як грамадзяніна



*Эдуард Акулін.*

*Вільня. 2009 г.*



Эдуард Акулін, Іван Яковін з сынамі Верасам і Андрэем ля помніка М. Багдановіча.

1995 г.



Паліна Качаткова, Алесь Бяляцкі, Андрэй Ляхновіч і Эдуард Акулін ля помніка Адама Багдановіча ў Халопінічах.

1998 г.

і творцы. Паэт не маўчыць. Ён мае асабісты адказ на гэтае пытаньне. Проста і лёгка любіць моцную і пасьпяховую Айчыну. Але ж яшчэ большай любові патрабуе краіна слабая і пагарджаная:

Паэты пачынаюцца зь любові
да страчанай, зьняважанай Айчыны.

*(Паэты пачынаюцца зь любові, с. 182/1-2)*

Паэт шукае апірышча для Беларушчыны ў духоўных настаўнікаў народу:

— Францішак, Максім і Янка —
гартуйце крывіцкі дух.

*(Стаю на цьвінтарным ганку, с. 213/9-10)*

Беларусь нарадзіла сваіх прарокаў, і Радзіма аб'ядноўвае іх.

Паэт асуджае прымус і ціск на вольную паэтычную думку:

Пры гэтым народзе,
пры гэтай уладзе
паэтаў народных
штурхаюць на здраду...

Паэтаў вялікіх,
чый век несканчоны,
змушаюць маліцца
на псеўдаіконы...

*(Паэт, с. 228/1-8)*

Праблема стасункаў творцаў і ўлады ня новая для беларускай літаратуры. Сто гадоў таму Янка Купала даў на яе свой адказ у паэме «Курган». Каб адважыцца паўтарыць, здавалася б, ня новую ісьціну, беларускім творцам прыйшлося перажыць жахлівае стагоддзе асабістых выпрабаваньняў, доўгія дзесяцігоддзі пакутаў і растаптанага гонару. Урэшце зьявілася магчымасьць і высьпела воля ізноў стаць самім сабой. Эдуард Акулін годна і голасна абвяшчае: «Песьня не прадаецца!»

Сутнасьць паэтычнага таленту незямная, адрозная ад паўсядзённага жыцьця, сьцьвярджае Эдуард Акулін. Паэты, дзякуючы сваім магічным магчымасьцям, блізкія да Бога. Яны — безабаронныя жыхары нябёсных мараў і ўяваў. Яны — пазначаныя пячаткаю Божага бласлаўленьня. Яны, як сьвятыя і родавыя птушкі, не падлягаюць зьнявагам і крыўдам :

Паэты ж — нябёсаў дзеці.
Паэткі — каханкі Бога...
Іх крыўдзіць — цяжэй у сьвеце
няма ад граху такога.

*(Бяздомніца, с. 229/5-8)*

Але ж — «сьляпая Айчына», у скрусе піша Эдуард Акулін. А ў такой Айчыне і паэткі становяцца «бяздомніцамі», рэагуе ён на пазбаўленьне працы паэткі Дануты Бічэль-Загнетавай у Гродзенскім музеі Максіма Багдановіча. Вось так бязьмежная любоў

да Беларусі зьмяняецца ў паэта на глыбокае расчараваньне. Паэт мае адказ — чаму гэта робіцца, бо «намі сьляпыя правяць»...

Абсалютным аўтарытэтам у беларускай паэзіі, духоўным і творчым настаўнікам, прыкладам у служэньні Бацькаўшчыне Эдуард Акулін лічыць Максіма Багдановіча. У зборніку «Радно» паэт не аднойчы зьвяртаецца да вобразу Максіма Багдановіча. У вершы «Яно» Эдуард Акулін асэнсоўвае трагічны жыццёвы шлях паэта, хвароба, а затым і сьмерць якога была выкліканая вяртаньнем у Беларусь.

**Ідэалы Максіма Багдановіча зьяўляюцца своеасаблівым эталонам, па якім Эдуард Акулін вымярае сваё жыцьцё.**

Максім Багдановіч у сваёй творчасьці адбудоўваў ідэальную Беларусь, краіну з разьвітай культураю, моваю, багатай гісторыяй і нацыянальнай годнасьцю. Але сучасная рэчаіснасьць моцна адрозьніваецца ад багдановіцкага ідэалу. Таму Эдуард Акулін з горыччу зьвяртаецца да паэта. Зварот гэты бязьлітасны, але справядлівы:

Максім, не вяртайся з далёкае Ялты —
цябе не пазнае тутэйшы народ.

Бо й сёньня — сьляпы ён,
зь нішчымнай душою,
як колісь, калі ты пра гэта казаў...
Яму непатрэбны ні слава Пагоні,
ні бел-чырван-белы крывіцкі штандар.

*(Максім, не вяртайся..., с. 205/3-8)*

Пагроза для незалежнасьці Беларусі ўспрымаецца паэтам як абсалютная трагедыя. Беларусь ён параўноўвае з валошкаю-васільком, з кветкаю, якую і Максім Багдановіч надзяляў пэўным сімвалічным зьместам у сваіх творах:

Валошку тваю, Беларусь нашу мару,
вось-вось янычарскія скосяць мячы...

*(Максім, не вяртайся..., с. 205/11-12)*

Да гэтай жа тэмы паэт вяртаецца ў вершы-прысьвячэньні Максіму Багдановічу. У ім паэт засяроджвае ўвагу на адмене і забароне ўладамі гістарычнага герба Пагоня і небясьпецы для далейшага існаваньня і разьвіцьця беларускай мовы:

не трывожце сон Паэта —
ён у сьне сваім шчасьлівы...

Бо ня ведае, ня знае,
што ў забранай той краіне
на яго Пагоню зграю
нацкавалі — Вершнік гіне...

Што арнат залатарунны
тканай ім да скону мовы
разарвалі ўнукі-гуны,
і крывёй барвеюць словы:
БЕЛАРУСЬ, РАДЗІМА, ВОЛЯ!

*(Максіму Багдановічу, с. 219/3-13)*

# X.

Вобраз Беларусі як «забранага краю» вядомы нам з творчасьці Янкі Купалы. Забраны край — краіна пад акупацыяй, краіна без свабоды і незалежнасьці. Такой маляваў Беларусь Янка Купала пад уладаю Расійскай імперыі.

Эдуард Акулін аднаўляе гэты вобраз на сучасным этапе гістарычнага разьвіцьця Беларусі. Вынікі ягонага пераасэнсаваньня несуцяшальныя. Беларусь ізноў, ці — усё яшчэ — «забраная краіна», дзе няма месца для сваёй гісторыі, дзе гіне беларуская мова — душа народу, дзе няма волі.

Адмену дзяржаўнасьці беларускай мовы, пасіўную згоду беларусаў з адмовай ад беларусізацыі, з разбурэньнем беларускамоўнага школьніцтва, якое актыўна разьвівалася

ў першай палове 90-х гадоў, паэт разумее і ўспрымае як нацыянальную катастрофу.

Драматычная сітуацыя адкату ад нацыянальнатворчай дзяржавы і вяртаньня ў постсавецкую дэпрэсіўную рэчаіснасьць выклікае ў Эдуарда Акуліна шмат пачуцьцяў. З аднаго боку, Беларусь стала незалежнай дзяржавай. Здаецца, збылася недасяжная мара некалькіх папярэдніх пакаленьняў сьведамых беларусаў, за якую дзясяткі тысячаў людзей змагаліся і загінулі, ці былі расьсеяныя па ўсім сьвеце, так і ня ўбачыўшы плёну ад свайго змаганьня. З другога боку, большасьць беларусаў, на жаль, не ўсьвядоміла каштоўнасьці такіх паняткаў, як — незалежнасьць і свабода. Далася ў знакі саветызацыя і русіфікацыя, якія актыўна праводзіліся ў Беларусі цягам дзесяцігоддзяў. Ва ўладзе апынуліся людзі з эклектычнымі грамадскапалітычнымі поглядамі, з постсавецкім менталітэтам, для якіх нацыянальныя каштоўнасьці, беларуская ідэя мала што значылі. Якія, больш за тое, варожа ставіліся да праяваў нацыянальнага адраджэньня, што занялося ў канцы 80-х і пачатку 90-х гадоў. Яны ізноў абрынулі краіну ў звыклае рэчышча постсавецкіх ідэалагемаў.

Беларусь стала незалежнай. Але зусім не такой, якой яна мусіла быць згодна ўяўленьняў паэта. І яна выклікае ў яго супярэчлівыя пачуцьці. Радзіма ў сьвядомасьці паэта выглядае выклятай зямлёй, дзе ўсё зьмяшалася — і самае высакароднае, і самае нізкае:

Там Радзіма — мая Юдоль,  
пекла з Богам і вырай з чортам.

*(Я хацеў бы пісаць, як жыву, с. 181/19-20)*

Трагічны і жалобны сьпеў, праўдзівы старажытны рэлігійны плач-трэнас льецца з-пад пяра паэта:

О, Беларусь — абліччам Божай маці —  
сыноў сваіх, што прадалі Агмень,  
дзе моц бярэш, каб гнеўна не праклясьці,  
дзе сьлёз бярэш, каб бласлаўляць з калень.

*(О, Беларусь — абліччам Божай маці, с. 183/1-4)*

Што можа быць большай караю за адмову ад родавага Агменю — у горычы ўсклікае паэт.

Эдуард Акулін ня можа даравацьздрады нацыянальным ідэалам. Здраднікі заслугоўваюць нянавісьць і пагарду. У парыве творчага адчаю ён прамаўляе:

У ценю ад чарнобыльскага крыжа  
іудаў крык параніў цішыню...  
Даруй, Радзіма, слова «ненавіджу»,  
што сёньня прамаўляю ўпершыню.

*(О, Беларусь — абліччам Божай маці, с. 183/5-8)*

Каму адрасаваныя гэтыя словы, толькі сьляпым і бяспамятным «манкуртам», ці ўсё ж усім беларусам, кожнаму з нас, зь якіх і складаецца такое ўсеабдымнае і зьбіральнае паняцьце як народ? Усе мы вінаватыя ў тым, што адбываецца з Беларусьсю. У яе бедах і заняпадзе ёсьць віна кожнага з нас, выводзіць паэт з сваіх развагаў такую несуцяшальную выснову.

Чарнобыльскую катастрофу Эдуард Акулін успрымае як Божую кару для беларусаў. Яшчэ за больш страшную кару народу паэт лічыць духоўны Чарнобыль. Адсутнасьць духоўных ідэалаў, нацыянальнага стрыжня прывядзе да зьнікненьня беларусаў як народу, перакананы паэт. Духоўнае ж зьнікненьне раўназначнае фізічнай сьмерці:

Кожны першы — такую кару  
Бог прыдумаў майму народу...

За бяспамяцтва, за бязьвер'е,  
за сьвятую сьвятыню — Мову  
паміраць будзе кожны першы —  
першы з тых, хто абразіў Слова...

*(Балада пра кожнага першага, с. 242/18-23)*

Хваля беларускага адраджэньня, якая ўзьнялася напачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя ў сярэдзіне 90-х захлынулася. Былі здабыткі, але і былі расчараваньні, якія асабліва горка выглядалі ў параўнаньні з нацыянальнакультурным адраджэньнем нашых суседзяў, якія таксама вызваліліся з «турмы народаў», з Савецкага Саюзу і пайшлі па шляху адбудовы ўласнай нацыянальнай тоеснасьці.

Беларуская нацыянальная ідэя пацярпела часовую паразу. Яна ня стала дзяржаваттворчай і была адкінутая на арбіту пазадзяржаўнага існаваньня і разьвіцьця. Асабліва балюча гэты адкат перажываўся ў другой палове 90-х гадоў. Паэт шукае духоўны падмурак, які б дазволіў усё ж узьняцца і ісьці далей:

Шукаю Радзіму  
скрозь леты і зімы —  
нідзе яе не знаходжу.

Шукаю Радзіму —  
хай нават знайсьці мне —  
сьлязіну на дне гора.

*(Шлях, с. 185/1-3,13-15)*

Трывалае адчуваньне Радзімы надае чалавеку ўпэўненасьці і спакою. Безь яго немагчымае нармальнае жыцьцё чалавека, так уяўляецца паэту, калі ён зазірае сабе ў душу. Пошукі Радзімы, якая, здавалася б, была знойдзеная, а затым страчаная ізноў, працягваюцца. Яны важныя і неабходныя для спасьціжэньня самога сябе:

На якім жа шляху-дарозе  
мне Радзіму сваю шукаць,  
каб я быў там «як суць па Бозе», —  
як Скарына любіў казаць.

*(Па дарозе «Масква-Варшава», с. 206/9-12)*

Нягледзячы на ўсе расчараваньні і паразы ў грамадскім жыцьці, Эдуард Акулін, тым ня меньш, выбіраецца з прорвы духоўнага крызісу. Ён разумее, што наперадзе ўсіх беларусаў і яго асабіста чакае доўгі і цяжкі шлях барацьбы за Беларусь. У вершах паэта з новай сілаю і энергіяй пачынаюць гучаць уваскрослыя матывы барацьбы і супраціву. Гэтаму прысьвечаны адзін зь лепшых, на мой погляд, твораў паэта «Балада пра рыцара Здрады». У ім адчуваюцца і старажытны славянскі рытм, і сярэдневяковыя еўрапейскія матывы рыцарскіх баладаў, і згадкі пра старажытныя легенды пра чорнага рыцара, і алюзіі з караткевіцкім «Дзікім паляваньнем караля Стаха», і з чорнай кавалькадаю Воланда ў «Майстры і Маргарыце» М. Булгакава. Паэт выпусьціў цэлы пук стрэлаўасацыяцыяў, якія паляцелі ў розныя бакі нашай сьвядомасьці. Трывожнае водгульле змаганьня дабра і зла, якое разыгралася на беларускай зямлі, барацьба ідэяў, змаганьня духа наскрозь пранізваюць баладу.

Рыцар Здрады пануе ў Беларусі: «І глыбей за магілу ноч — па-над Краем» (с. 240/11 — 12).

Разбураныя сьвятыні, прыгнечаны народ:

Растапталі, зьмяшалі ў бруд —
жыта ў полі...
Ды маўчыць спахмурнелы люд —
знаць Юдоля.

Расчыняе слухмяна Храм
перад зграяй.
І ўязджае ў бажніцу Хам —
як у стайню...

*(Балада пра рыцара Здрады, с. 240/13-20)*

Але ў баладзе няма суцэльнага песімізму. А ёсьць моцная хваля нязгоды і супраціву, ёсьць адчуваньне доўгага і зацятага змаганьня:

Сьцеражыся, шалёны пёс, —
гніся нізка.
Срэбны вершнік ляціць наўпрост —
блізка-блізка...

*(Балада пра рыцара Здрады, с. 240/25-28)*

Паэт інтэнсіўна асэнсоўвае тыя падзеі, якія адбыліся ў апошнія гады тысячагоддзя. Пачуцьці расчараваньня і песімізму саступаюць матывам упартага супраціву. Эдуард Акулін знаходзіць сакральны і духоўны сімвал Беларусі. Полацкаму Сафійскаму сабору прысьвячаецца верш «Сафія»:

У Полацку — на покуце Радзімы
цнатлівая і гордая стаіш...
Анёлаў пёркі — пухам тапаліным —
як вэлюм на раскрыленым крыжы.

*(Сафія, с. 231/1-4)*





**У сакральных помніках беларускай мінуўшчыны паэту бачыцца аснова, агмень беларускага духу, які трэба ахоўваць і зьберагаць.**

**У сваёй творчасьці Эдуард Акулін выступае як захавальнік вобразу ідэальнай Беларусі.**

Полацкая Сафія ў свой час была пабудаваная як сімвал магутнасьці і незалежнасьці Полацкага княства, першай беларускай дзяржавы. Паэт вобразна зьвяртаецца да полацкай Сафіі, бо пакуль існуе гэтая беларуская сьвятыня, бачыцца паэту, будзе існаваць і беларускі незалежны дух нашай дзяржавы:

Сафія — крывічаначка-нявеста,
свой гонар ад чужынцаў беражы.

*(Сафія, с. 231/9-10)*

Паэт у марах бачыць шлях да «сваёй» Беларусі. Сімваламі вольнай зямлі для паэта зьяўляюцца вольны птах і родная песьня:

Вольны птах залаты
па-над вольнай зямлёй
з роднай песьняй лунае ў згодзе...

*(Сон, с.230 /10-12)*

Каб пераадолець, прамінуць гэты шлях, мяркуе паэт, прасьцей было б заснуць «на паўстагоддзя». Але гэта ў марах. А ў рэчаіснасьці трэба змагацца, пакутаваць, трываць і жыць.

З поўнай адказнасьцю, з усёй шчырасьцю і адданасьцю паэт пераняў гэтую місію ў Максіма Багдановіча. Яна зьяўляецца для яго меркаю ўсіх наступных жыцьцёвых і грамадскіх калізіяў. Яна давала яму поўнае права і ўнутраную ўпэўненасьць выносіць сваё меркаваньне, сваю жыцьцёвую пазіцыю на грамадскі суд.

У вершах, прысьвечаных тым праблемам, якія паўсталі перад беларусамі ў другой палове 90-х гадоў, Эдуард Акулін выступае як глыбоканацыянальны паэт, як творца агульнабеларускага спамеру, які рупіцца за ўсю Беларусь, за ўвесь беларускі народ. У гэтых вершах ён падтрымлівае і разьвівае сапраўды нацыянальныя і народныя матывы, якія гучалі ў творчасьці класікаў беларускай літаратуры Янкі Купалы і Максіма Багдановіча. Мінула амаль стагоддзе, гісторыя ізноў вывела беларусаў на лёсавызначальныя ростані. Ізноў беларускія паэты з выкрышталізаванай грамадзянскай пазіцыяй апынуліся з вершаванымі паходнямі-сьветачамі ў першых радох беларускага дэмакратычнага нацыянальна-сьведамага грамадства, заклікаючы ўсіх беларусаў да лепшай будучыні.

# XI.

У зборніку «Радно» Эдуард Акулін адводзіць пэўнае месца вершам, дзе ён працягвае адлюстроўваць прыгажосьць беларускай прыроды. Ягоныя эскізныя вершы нагадваюць мастацкія карціны беларускіх краявідаў, напоўненыя сьветапоглядам паэта.

З розных пораў году Эдуард Акулін найбольш схільны апісваць восень. Тон ягоных вершаў-эскізаў амаль заўсёды элегічны, з рознымі адценьнямі суму і маркоты. Адпаведны настрой паэта змушае яго зьвяртацца да тых праяваў у прыродзе, якія сугучныя ягонаму ўспрыманьню жыцьця. Багацьце восеньскай прыроды перагукаецца з багацьцем пачуцьцяў і ўражаньняў у душы ў паэта:

Верасень мярэсьціцца ў смузе
водсьвету лісьцёвай пазалоты.

*(Верасень мярэсьціцца ў смузе, с. 194/1-2)*

Няспынная хада часу. Верасень зьмяняецца на кастрычнік:

Колькі ўсьлед ні крычы, ні галёкай —
Восень схільная скрозь да капрыз —
адашле залатыя аблокі
у працяглы заморскі круіз.
...
Хоць далёка яшчэ да марозаў, —
лета Бабіна — так неўспадзеў.

*(Асеньняе, с. 212/1-4, 9-10)*

Кастрычнік непазьбежна саступае месца лістападу:

Мару не прыручыш да галін...
Тонучы ў нябесным сінявіры,
спакваля лістоў асеньніх клін
адплывае ў свой апошні вырай.

*(Лістапад, с. 195/5-8)*

А затым надыходзіць зіма:

Нібы ў лёд, у высі ўмерзьлі зоркі.
Заўтра Богу доўга высякаць
Панядзелка крыгу, каб Аўторак
сваё месца ў небе змог заняць.

*(Зіма, с. 189/5-8)*

Плыве жыцьцё. Зьявы прыроды праплываюць навокал чалавека. Чалавек — і частка гэтага няспыннага сусьветнага руху і ягоны летапісец. Дзякуючы яму бязмэтная хада жыцьця набывае сэнс.





Паэт трапна натуе эскізы, зьвязаныя з канкрэтнымі мясьцінамі і малюнкамі прыроды:

На кульмане Сьвяцкага возера
свавольны чарцёжнік Вецер
гадзінай ня надта позьняю
алоўкам чароту крэсьліць.

*(Эскіз, с. 208/1-4)*

Зазвычай, прыродныя эскізы ў паэта вобразныя і метафарычныя. Каб перадаць свае ўражаньні Эдуард Акулін знаходзіць сьвежыя вобразы і параўнаньні:

Раптам успомніцца вёска Драганава,
лiпень ахрыплы ад шоргату кос
і туманы, што над Пціччу тарпанамі
нізка ляцяць, не зьбіваючы рос.

*(Згадка, с. 207/1-4)*

Няўхільна прыцягвае і заварожвае паэта чароўнасьць вады. У вадзе Эдуард Акулін бачыць і першапрычыну жыцьця, і поўную яе супрэчнасьць, фатальную прыгажосьць сьмерці:

Дрэва бязроднае гоніць рака —
рыба ў лісьці зялёным...
Вынырне месяц — чаўном рыбака —
высьвеціць невад кроны.
...
Тут у вірах, што магіл глыбей,
зьміріцца з лёсам волат...
І прычакае драпежны глей
золата чорнай зморы.

*(Морыва, с. 197/1-4, 9-12)*

У форме замалёвак-чатырохрадкоўяў Эдуард Акулін паспрабаваў апісаць свае адчуваньні і пачуцьці, зьвязаныя з Чарнобыльскай катастрофай. Па чатыры радкі выдзеленыя паэтам на кожны месяц года. Зададзены формаю паэтычны мінімалізм надзвычай сьціснуў сэнс выказанага. Здавалася б чыста эскізныя, тэматычна прыродныя вершы паэта, які прапусьціў праз сябе чарнобыльскую катастрофу, набываюць грамадскі, сацыяльны сэнс, але бяз лозунгавасьці і адкрытага пафасу, з унутраным перажываньнем і трагічным падтэкстам:

Прамяклых дахаў шыферныя крылы
на ветры з поўдня колькі ні сушы...
Узьняцца ў неба зноў ня хопіць сілы
забытай вёсцы ў прыпяцкай глушы.

*(Чарнобыльскі год. Сакавік, с. 218/11-14)*

**Чарнобыльская трагедыя — агульная, яна мае нацыянальны спамер і закранае, хочам мы таго ці не, кожнага з жыхароў Беларусі.**

Але яна — і прыватная. Яна бязьлітасна прайшла праз сэрца і лёс тых беларусаў, хто апынуўся ў забруджанай зоне і вымушаны быў пакінуць родныя мясьціны:

Веткаўцы, сьвяцілаўцы, чачэрцы,
з Хойнікаў, з Нароўлі, з Астрагляд...
Землякі мае, мы — чарнаверцы.
Веру нашу выдае пагляд.

*(Чарнобыльскі год. Малінаўскі жнівень, с. 217/1-4)*

Эдуард Акулін не стамляецца зноў і зноў зьвяртацца да Чарнобыля, бо, на ягоную думку, занадта багата знакаў і сімвалаў, пасланых беларусам, зьвязана з гэтай грандыёзнай катастрофаю стагоддзя. Паэт мяркуе, што ўсім нам вельмі важна слушна іх прачытаць і зразумець. Ён зьвяртаецца да беларусаў з сваёй праўдай, роздумам і высновамі, фіксуючы іх у паэтычных радках, у мастацкіх вобразах, у пэўным падтэксьце і асацыяцыях. Але ці гатовыя мы ўспрыняць гэтую праўду...

# XII.

Няспынныя ўнутраныя пошукі справядлівасьці, дасканаласьці, духоўнай праўды і маральнага апірышча непазьбежна прыводзяць Эдуарда Акуліна да Бога. Матывы рэлігійнай духоўнасьці, якія раней зрэдку гучалі ў вершах паэта, чутныя ў зборніку «Радно» ўсё гучней і выразьней. «О, Беларусь — абліччам Божай маці», — прамаўляе паэт, маючы на ўвазе і трагедыйнасьць, і ахвярнасьць, і пакорлівасьць лёсу, і сьціплую прыгажосьць, і беззаганнасьць, і сьвятасьць, якія мы прачытваем у вобразе Божай Маці. У асобе Бога паэта прыцягвае дасканалая чысьціня:

Зьніч алтарны — заўжды жывіць
мне душу чысьцінёю Бога.

*(Агонь, с. 184/3-4)*

Агонь, як сімвал Божай чысьціні, здаўна існуе ў беларускай рэлігійнай традыцыі. На радзіме паэта, на Веткаўшчыне, і сёньня



*Эдуард Акулін з сынам Янам на Чарнобыльскім шляху.*

*Мінск. 2006 г.*




*Эдуард Акулін з сынам Верасам.*

*Вялікія Нямкі. 2007 г.*



Натальля Акуліна,
Вялікія Нямкі.

2014 г.



Эдуард Акулін з жонкай
Натальляй на сяброўскім лецішчы.

Пухаўшчына. 2015 г.

яшчэ існуе адметны старажытны абрад шанаваньня іконы і прыіконнай сьвячы, як сімвала Божага агню, які называецца Сьвяча.

На параўнаньнях з пэўнымі хрысьціянскімі сімваламі, плашчаніцаю, цьвікамі з Крыжа Господняга, якія выклікаюць асацыяцыі вострага болю і непапраўнай страты, пабудаваны верш «Я маці не любіў сваю адмалку»:

І атрымаў я першы ліст ад мамы,
што паўжыцьця дарэмна прачакаў...
Тры словы з плашчаніцы тэлеграмы —
як тры цьвікі — з Хрыстовых сьвежых ран.

*(Я маці не любіў сваю адмалку, с. 193/5-8)*

«Ці страшна душы бяз храма?» — пачынае задумвацца паэт. У сваіх духоўна-рэлігійных развагах і пошуках Эдуард Акулін не зафармалізаваны і не кансерватыўны. Для паэта важней сутнасьць, а не форма біблейскіх загадаў, згодна якіх выбудоўваецца чалавечае жыцьцё:

Нехта на ўсходзе разьліў кінавар...
Буда, Хрыстос ці Вішну?
І старажытны пергамент хмар
думкай біблейскай высьпеў.

З самага дна залатых глыбінь
вынiклі раптам словы:
— Не падмані, не ўкрадзі, не забі...
Тры. І зь мяне дастаткова.

*(Экспрэсія, с. 223/1-8)*

# XIII.

У асобны разьдзел пад назваю «Памяць дзяцінства майго» ў зборніку «Радно» вылучаныя вершы, прысьвечаныя вясковаму і традыцыйнаму сьвету, у якім прайшло маленства паэта. Вершы ў гэтым разьдзеле расшыфроўваюць словы і паняцьці, якія назаўсёды ўрэзаліся ў ягоную дзіцячую памяць. У гэты разьдзел кнігі паэт сабраў 23 вершы. Беручы канкрэтнае слова-рэч, ці абстрактнае слова-зьяву, Эдуард Акулін стварае яркія, запамінальныя малюнкі. Ён шчодра выкарыстоўвае метафары і параўнаньні. Ён замалёўвае гэтыя рэчы ці зьявы, раскрывае іхні глыбінны зьмест ці перадае тыя асацыяцыі, якія ўзьнікаюць у яго пры згадках пра пэўныя словы-залацінкі, словы-ключы да памяці дзяцінства:

раска — прывідны востраў
мрояў раёвых рой

раска — салютаў роскід
вадзяніковы строй
раска — русалчын вэлюм
азёрна-манетны двор
вохрава-акварэльны
люструнак бурштынін-зор.

*(Раска, с. 249/9-16)*

**Паэт эксьпэрыментуе з гукамі, гуляецца са словамі, нанізвае вобразы і выцінае метафары.**

Відавочна, што сам працэс вершаскладаньня прыносіць яму задавальненьне. Праз беларускае слова, якое апісвае нашыя рэчы, нашую прыроду і акаленьне, праз заглыбленьне ў першародны сэнс слова, паэт стварае праўдзівы беларускі сьвет:

Чульлівы рачной пяшчотай
аблашчаны лавай хваль
ён мроіць чаіным лётам
закаханы у чужадаль

*(Човен, с.250/1-4)*

Слоўнае штукарства часам выглядае для паэта ў пэўным сэньсе самамэтаю. Ён здабывае зь беларускай мовы, зь яе выяўленчых багацьцяў, здаецца, усё, што толькі можна здабыць. Ня меньш важныя ў вершах Эдуарда Акуліна і беларуская атмасьфера, сутнасьць і ўнікальнасьць беларускага сьветаўспрыманьня, якое існуе дзякуючы беларускаму слову. Непаўторнасьць і самабытнасьць беларусаў у сьвеце заключаецца ў тым, што мы спасьцігаем гэты сьвет і глядзім на яго праз прызму беларускай душы, праз тыя асацыяцыі, якія, называючы рэчы і зьявы, выклікае беларускае слова. Беларуская мова фармуе наш нацыянальны характар. У вершах Эдуарда Акуліна на падсьвядомым узроўні беларускае слова выказвае нацыянальную сутнасьць беларускага быцьця:

Тут сойм саміны са снамі ў сонме.
Для сома сітнік — рачны асіньнік...
Абкруціць вусам камель у стоме
і сьпіць да ночы — варушыць сітнік.

*(Сітнік, с. 251/5-8)*

Паэт раскрывае перад чытачом уласныя таямніцы спасьцігнутага беларускага сьвету, тое, што ведае толькі ён адзін. Унікальнае сьветаўспрыманьне паэта падкрэсьлівае адметнасьць і каштоўнасьць кожнага чалавека. У кожнага з нас ёсьць свая «памяць дзяцінства», у якой жывуць свае «іскрыпкі» і «журавы»:

То глядзіш улюбёна ў неба.
Ці цалуеш вядром ваду...
Што табе ад жыцьця патрэбна?
Хто тваю зразумее біду?

Вышай стрэх цэлы дзень кружляеш,
толькі хочацца — вышай хмар...

*(Журавель, с. 247/1-6)*

Паэт любуецца і ганарыцца беларускай мовай. Ён раскрывае вядомы яму аднаму сэнс, здавалася б, і знаёмых словаў, такіх як «купіна», «нерат», «лівень», «поўня», і словаў, якія маюць больш вузкае, ня ўсім ужо вядомае значэньне: «загнет», «прымыльнік», «цэбар», «услон», і малавядомых словаў з усходу Беларусі: «дзябла», «пачына», «зугаліна», «путца».

Беларуская народная мова зараз падобная на рэчку пасьля меліярацыі. Дзесьці яна зусім зьнікла, дзесьці яшчэ цячэ, засьмечаная ламаччам русізмаў, а дзе-нідзе яшчэ бруяць яе чыстыя ключы. Эдуард Акулін у гэтым разьдзеле зборніка дае магчымасьць чытачу наталіцца чыстаю, арганічнаю беларускай моваю, паказваючы яе багатыя мастацкія выяўленчыя і сэнсавыя магчымасьці. Шмат з таго, што апісвае паэт у вершах гэтага цыклу, ужо засталося ў мінулым. Мяняецца сьвет, зьнікаюць традыцыйныя рэчы, і што такое, да прыкладу, «дзябла», без дадатковага тлумачэньня неабазнанаму чалавеку і не зразумець. Але сэнс гэтага цыклу вершаў ня толькі ў тым, каб нагадаць беларусам, ужо пераважна гарадскім жыхарам, пра:

Загон прыгонных чыгункоў
патэльняў — чорны парапет
цагляны трон дамавікоў —
стары парэпаны загнет

*(Загнет, с. 260/1-4)*

Галоўная ідэя аўтара мне бачыцца ў тым, каб паслаць яшчэ адзін эстэтычны сігнал у беларускую прастору, які выразна нагадаў бы пра каштоўнасьць нацыянальнага сьветаўспрыманьня, якое выяўляецца ва ўнікальнай і самадастатковай, створанай і культываванай на працягу стагодзьдзяў беларускім народам беларускай мове.

Эдуард Акулін выштукаваў гэтыя вершы, як некалі майстра, ці прырода, ці Бог выштукавалі ўласна гэтыя рэчы — і «човен», і «валун», і «поўню». Ён стварае беларускімі рукамі, беларускімі словамі і вобразамі паўнавартасны беларускі сьвет. Ён стварае яго як памяць пра мінулае, як эстэтычныя карціны для сучасьнікаў і як моўны закадаваны запавет для нашчадкаў.

**Калі ўявіць сабе, што беларуская мова зьнікне, то па вершах Эдуарда Акуліна яе можна будзе аднавіць ва ўсім яе сэнсавым, вобразным і паліфанічным багацьці...**

# XIV.

Эдуард Акулін працягвае ў зборніку «Радно» тэму каханьня. Гэтыя лірычныя вершы таксама вылучаныя ў асобны разьдзел «Эра сноў». Трэба адзначыць, што ў любоўнай лірыцы паэта павялічваецца прысутнасьць эратычных матываў. Нават гульня гучаньня слоў у назьве гэтага разьдзелу зборніка сьведчыць пра тое, што эратычныя матывы ў вершах, прысьвечаных каханьню, займаюць большае месца.

У вершах «Божа, як яна прыгожа...», «Я сумую...», «А помніш апошні з табой наш раман?..», «Ільну няўтольнаю ракой...», «Квадра каханьня» ды іншых паэт стварае цікавыя эскізныя накіды інтымных адносінаў паміж мужчынаю і жанчынаю. Але й у гэтых стасунках для паэта на першае месца выходзіць эстэтыка эратычных узаемаадносінаў, прыгажосьць жаночага цела, якое прыводзіць паэта і ў зьдзіўленьне, і ў захапленьне:

Я сумую па нас былых.
Па разынак ажыўшай плоці,
па абдымках, што п'юць уздых
з языкамі ў агульным роце...

*(Я сумую..., с. 279/5-8)*

Эротыка ў вершах Эдуарда Акуліна часта зьмешаная з іншымі пачуцьцямі. І з сумам, як у вершы «Я сумую...», і з жарснай нянавісьцю:

У смузе прасьцін адлiжнай
ногі — лебедзі ў тумане...
Божа, як я ненавіджу
жарсьці крык яе гартанны.

*(Божа, як яна прыгожа, с. 278/5-8)*

Лірычны герой у каханьні ў паэта часта бескампрамісны і максімалісцкі. Амерыканскія горкі каханьня то ўзносяць яго на вышыні раю, то кідаюць у прорву пекла. Каханьне ўсёпаглынальнае і безразважнае. Каханьне для паэта — гэта атрута, якую спажываюць з асалодаю і беспрымусна:

Каханьне — пакута.
Душою распнутай
між Пеклам і Раем лунаць...

Каханьне — атрута.
Сьвяты і аблудны
я выберу сьмерць, каб кахаць.

*(Каханьне, с. 270/1-6)*





Палкасьць пачуцьця і вастрыня эмоцыяў нярэдка зьмяняюцца на цнатлівыя зрухі закаханага сэрца. Хвалі шчымлівага песімізму і тужлівай настальгіі набягаюць тады на любоўную лірыку паэта. І тады ў вершах Эдуарда Акуліна побач з жарсным каханьнем зьяўляецца самота:

А вочы, нібы абразы,
самотай высьвецяць пад вечар—
паўадзіноты, паўсьлязы
і паўкаханьня нашай стрэчы.

*(Мы не парушылі мяжы, с. 271/5-8)*

Смутак набывае ў паэта адценьне драпежнасьці, бо ж гэта «смутак воўчы», які вельмі блізкі да ўсеабдымнай жарсьці. Але ў адрозьненьне ад яе, ён — неспатольны, бо ў ім няма радасьці і задавальненьня:

Я чакаю, што ты аднойчы
ціха мовіш: — Я зноў твая...
І спатоліш мой смутак воўчы,
ад якога згараю я...

*(Я чакаю..., с. 292/1-4)*

Неспатольна-ваўчыны смутак паступова перацякае ў акамянелую скруху. Плынь каханьня зьмяняецца на застыглую «зашклёную» карціну:

За верасьнёвай цісьнёнай скрухай
сьлязой зашклёны прысьню пагляд...
Шапчу: — Кахаю, — табе на вуха,
нібы замову ад першых здрад...

*(Былое жарсьці вулкан патухлы, с. 275/5-8)*

Вочы каханай нагадваюць паэту халодныя выстылыя зоркі. Каханьне нясе з сабой ня радасьць, а боль:

мне прыгадаўся твой пагляд —
дзьве зоркі выстылых ад болю.

*(Сярод базальтавых прысад, с. 274/3-4)*

Каханьне ў паэта, згодна эпіграфу да верша «Каханьне» — «Кахай і пакутуй», прыносіць яму радасьць і задавальненьне, але й яно часта зьвязанае з драматычнымі пачуцьцямі і эмоцыямі. У вершах пра каханьне ў Эдуарда Акуліна трагедыйнасьць часам пераважвае і самое каханьне:

Не ўяўляю, як буду — ці буду зусім
без цябе, маёй доннай лілеі,
без цябе — як асьлеплы бяз вогнішча дым,
я да ранку дажыць не здолею...

*(Не ўяўляю, як буду цябе забываць..., с. 277/9-12)*

Тым ня меньш, стан закаханасьці бачыцца паэту натуральным для творцы станам, як бачыцца зь вершаў Эдуарда Акуліна, ня простым і не адназначным. Каханьне для паэта — гэта клубок супярэчлівых пачуцьцяў, дзе

ў адное зблытаныя і радасьць, і боль, і спадзеў, і расчараваньне. Стан узвышанай эмацыйнасьці належыць творчай паэтычнай натуры. Вось чаму:

каханьнем выжыве паэт
і будзе вечна жыць каханьнем!

*(Каханьнем скрозь паэт жыве..., с. 297/15-16)*

**Лірычны, пачуцьцёвы бок музы паэта найбольш праяўляецца ў вершах пра каханьне.**

І ў кожным новым зборніку вершаў, і з кожным пражытым годам Эдуард Акулін знаходзіць усё новыя словы, вобразы, разнастайныя паэтычныя выяўленчыя сродкі, каб высьвеціць гэтае вечнае прыроднае пачуцьцё, якое інтэлект чалавека напоўніў эстэтычным падтэкстам. Любоўныя эратычныя вершы паэта не зьяўляюцца дапаможнікам па сэксалогіі. Яны разьвіваюць эстэтычныя пачаткі нашай душы, яны заахвочваюць глядзець на жанчыну ня як на сэксуальны аб'ект, а як на вялікі цуд прыроды і Бога, які ўзбагачае мужчыну і сьвет эмацыйна і духоўна.

# XV.

Эдуард Акулін працягвае працаваць над разнастайнымі вершаванымі формамі. У зборніку «Радно» зьмешчаны цыкл зь пяці баладаў, ёсьць брахікалан — верш, складзены з слоў у адзін склад:

Змрок.
Зор
жвір.
Ноч.
Воч
вір.

*(Брахікалан, с. 190/1-6)*

Ёсьць таўтаграма — верш, у якім усе словы верша пачынаюцца на літару «г»:

Губляюць гоні грэбні-грывы,
галосяць глосамі галінаў.
Гугнявы гром грыміць гняўліва...
Гаротна гронкі гукаў гінуць.

*(Голас галінавых глосаў..., с. 191/1-4)*

У вершы «Батлейка» ўсе 12 радкоў верша пачынаюцца са слова «драўляны» (-ая, -ае, -ыя), гэтае ж слова яшчэ 10 разоў сустракаецца ў сярэдзіне радка:

Драўляныя крокі, драўляныя крыкі.
Драўляныя ясьлі, драўляны мароз.
Драўляныя сьлёзы драўлянай Марыі.
Драўляная Сьмерць і драўляны Хрыстос.

*(Батлейка, с. 222/9-12)*

Выкарыстоўвае паэт і даволі рэдкі ў сучаснай паэзіі вершаваны памер пентаметр:

Адплывалі аблокі за богавы
сьветлыя вочы,
нібы гурма анёлаў —
усьпененай хваляю крыл...

*(Прадчуваньне, с. 199/1-2)*

Зьвяртаючы пастаянную ўвагу на форматворчасьць, Эдуард Акулін паказвае высокі ўзровень паэтычнага майстэрства, працягвае пашыраць абсягі фармальных магчымасьцяў беларускай паэзіі.

У гады стварэньня зборніка «Радно» Эдуард Акулін працягвае працаваць у філіі музея Максіма Багдановіча «Беларускай хатцы». Гэтым можна якраз патлумачыць і зьяўленьне такіх вершаў як «Батлейка» і «У музеі». Адначасова паэт шмат выступае на паэтычных сустрэчах у школах і зь песьнямі на мітынгах. Грамадзянская пазіцыя Эдуарда Акуліна ясная і акрэсьленая. Зборнік «Радно» атрымаўся адным з найбольш сьпелых і цэльных зборнікаў паэта. У ім аб'яднаныя вершы, пакладзеныя ў аснову, у «радно» беларускага чалавечага існаваньня і творчага духу паэта.

Відавочна, што падзеі, якія адбываліся ў краіне, зьнешняя драматычная сітуацыя, зацятая барацьба за нацыянальныя каштоўнасьці: дзяржаўнасьць, культуру, беларускую мову, — мабілізавалі ўнутраныя духоўныя і жыцьцёвыя сілы паэта. У паэзіі Эдуарда Акуліна другой паловы 90-х гадоў усё менш чутныя матывы ўнутранага разладу і духоўнага крызісу. Паэт, можна сказаць, атрымаў моцны ацьвярэзьліваючы штуршок, які прасьніў для яго самога сэнс далейшага існаваньня і змусіў загучаць ягоную музу з новай энергіяй ды імпэтам.

Ад зборніка да зборніка ўдасканальваецца паэтычнае майстэрства Эдуарда Акуліна, трапяткое біцьцё неспакойнай думкі паэта лучыцца з адметнай і дасканалай формаю ягоных вершаў.

**Зь сярэдзіны 90-х гадоў Эдуард Акулін заняў прыкметнае і трывалае месца ў беларускай літаратуры.**

# XVI.

Наступны зборнік вершаў Эдуарда Акуліна «Непрычалены човен» выйшаў у 2003 годзе. Падаецца, што паэт імкнуўся запоўніць пустку пасьля зьнішчанага зборніка «Радно». Але паўтарыць копію «Радна» не атрымалася. «Непрычалены човен» зьявіўся хутчэй ягоным лагічным працягам.

На гэты час прыходзяць значныя і істотныя зьмены ў жыцьці паэта. Прапрацаваўшы 11 гадоў у музеі Максіма Багдановіча, у верасьні 2001 года Эдуард Акулін пераходзіць на літаратурную працу загадчыкам аддзела паэзіі ў часопіс «Полымя». У Саюзе беларускіх пісьменьнікаў у 2001 годзе Эдуарда Акуліна выбіраюць загадчыкам секцыі паэзіі. Праца ў літаратурным часопісе была даўняй мараю Эдуарда Акуліна. Пасада ў часопісе «Полымя» і ў Саюзе беларускіх пісьменьнікаў дазволілі яму шчыльней працаваць зь беларускімі творцамі, актыўна ўдзельнічаць у жывым літаратурным працэсе. Але ідэалогія і тут умяшалася ў ягонае жыцьцё. Улады раздражняла незалежная нацыянальна акрэсьленая пазіцыя беларускіх літаратурных выданьняў. У жніўні 2002 года, прапрацаваўшы ў «Полымі» меньш за год, ён сыходзіць адтуль на знак пратэсту супраць рэарганізацыі працы беларускіх літаратурных часопісаў, якая цалкам зрабіла іх падкантрольнымі выканаўчым уладам.

Такім чынам, перыяд адносна свабоднага разьвіцьця літаратурнага працэсу ў Беларусі, які цягнуўся прыкладна дзесяць гадоў, скончыўся. Паэт пацьвердзіў свой выбар, зроблены яшчэ ў юнацтве. Свабода асобы, свабода творчасьці для яго былі і ёсьць найвышэйшымі каштоўнасьцямі.

У 2002 годзе пачынае выходзіць новы незалежны літаратурны часопіс «Дзеяслоў». Эдуард Акулін працуе ў ім намесьнікам галоўнага рэдактара. Як напіша паэт у сваім эсэ «Не магу жыць бяз крыл», адбыўся «зыход у «дзеяслоўную невядомасьць». Эдуард Акулін сышоў з паняволенага і залежнага часопіса «Полымя». Дзякуючы гэтаму ён захаваў магчымасьць свабодна выказваць у сваіх вершах тыя думкі, пачуцьці, якія ляжалі ў яго на душы. Ён страціў стабільны заробак, але захаваў у сабе творцу.

Разглядаючы вершы з новага зборніка Эдуарда Акуліна «Непрычалены човен», неабходна адзначыць паглыбленьне асноўных



*Зь Міколам Статкевічам на Маршы свабоды.*

*Менск. 17 кастрычніка 1999 г.*




*На адкрыцьці помніка Міхасю Жызьнеўскаму.*

*Гомель. 2014 г.*



Ірына Думанская,
Эдуард Акулін
і Сьвятлана Кіслова.

Музей М. Багдановіча.
2003 г.



З Леанідам
Дранько-Майсюком,
Пятром Васючэнкам
і Васілём Жуковічам.

Лунінец. 2010 г.

матываў у творчасьці паэта на пачатку нова-га тысячагоддзя.

Паэт усё больш задумваецца над прызначэньнем паэтычнага слова. Палярнасьць дапушчэньняў у яго уяўленьні — вялізная. У паэзіі Эдуард Акулін чуе і «Гасподні голас», і «д'яблаў смутак». «Што ёсьць паэзія?» — задаецца пытаньнем паэт:

Зьліцьцё
Красы адвечнай і Паэта?
Ці ваўкалацкі лёс — выцьцё
над перакуленым Сусьветам?

*(Што ёсьць паэзія?, с.304/9-12)*

Паэзія для Паэта — гэта ўвесь букет чалавечых эмоцыяў і пачуцьцяў. З такога разуменьня сутнасьці паэзіі натуральным выглядае пакланеньне паэта Слову. Эдуард Акулін бачыць у слове і сродак: «Слова — мой шлях да Бога» (Трыпціх Слова, с. 309/1), і мэту:

Слова і ёсьць мне Богам —
небам, крыжом, дарогай...

*(Трыпціх Слова, с. 309/5-6)*

Сакралізацыя слова мае біблейскі пачатак. Слова ж зьяўляецца формай існаваньня паэзіі, а паэтычны дар залежыць ад уменьня адчуваць слова і карыстацца ім. Таму для паэта слова мае звышнатуральны зьмест, яно ёсьць сутнасьцю яго існаваньня як творцы:

Слова — мой крыж жыцьцёвы.
Бог уваскрэс у Слове.

*(Трыпціх Слова, с. 309/3-4)*

Слова — гэта найвышэйшая рэлігійная, маральная каштоўнасць, належная толькі чалавечай душы, сьцьвярджае паэт.

Эдуард Акулін яшчэ больш умацоўвае думку пра Боскае наканаваньне і вышэйшае прызначэньне паэтычнага дару:

Паэтам дадзеныя крылы,
іх выбірае зь лепшых Бог.

*(Класіка, с. 338/3-4)*

Магічныя ўласьцівасьці слова распаўсюджваюцца і на іх выкарыстальнікаў-творцаў, сьцьвярджае паэт:

Пакуль паэты пішуць вершы —
паэтам дадзена лятаць!

*(Класіка, с. 338/7-8)*

**Дар паэта
для Эдуарда Акуліна
падобны да сьвятарскага
пакліканьня.**

Адбываецца гэтае служэньне Слову і праз Слова пад апекаю Бога. Праз Слова адбываецца сумоўе паэта – «сьвятара» з Богам:

Я забыў, як маліцца Слову...
Для паэта ж маўчаньне — грэх.
І Гасподзь над душой ахову
адазваў да нябесных стрэх.

*(Як вярнуць?.., с. 344/1-4)*

Больш уважліва Эдуард Акулін спрабуе прыгледзецца да зрухаў сваёй душы. Яго непакоіць штодзённая мітусьня жыцьця, якая затлумляе жыцьцёвы сэнс:

Зьбіраем, будуем, рупімся —
сьпяшаем кудысь пасьпець.
А чым за грахі адкупімся? —
з сабой не захопіш медзь...

*(Пасьпець, с. 307/5-8)*

Паэт, для якога магчымасьць у марах лётацькрыляць ёсьць найдаражэйшай мажлівасьцю, турбуецца за «бяскрыласьць» унутранага сьвету, душы чалавека:

Люстэрка па даўнім звычаі
схавае ад воч радня...
А што як сябе бяскрылаю
убачыць у ім душа?..

*(Пасьпець, с. 307/9-12)*

Паэт бунтуе, супраціўляецца ўнутранаму спусташэньню, абыякавасьці, духоўнай чэрствасьці, якія ідуць нага ў нагу з чалавекам у ягоным паўсядзённым жыцьці:

Марна анёл-ахоўнік
мне надарваў рукаў —
міма царквы праходжу,
часу няма на Храм.

А ў вязьніцы-целе
стала душа старэць.
Б'ецца, як рыба ў пелі,
аб ледзяную цьвердзь.

*(Позна, с. 314/1-8)*

Дакоры сумленьня зьяўляюцца своеасаблівай споведдзю паэта найперш перад сабой, неабходным крокам для наступнага самаачышчэньня. Паэт бязьлітасны ў ацэнцы свайго ўнутранага стану. Гранічная шчырасьць паэта і палохае, і прыцягвае да сябе. Пастаяннае кшталтаваньне душы — ці ж не абавязковая ўмова для разьвіцьця кожнага чалавека, які мае духоўныя і маральныя арыенціры.





# XVII.

Падзеі, непасрэдна зьвязаныя з пісьменьніцкім жыцьцём, — паступовым падзелам пісьменьнікаў на лаяльных да ўлады і тых, хто захаваў незалежную жыцьцёвую і творчую пазіцыю, забраньне пісьменьніцкай маёмасьці, селекцыя пісьменьнікаў на «сваіх» і «чужых» у выдавецтвах і перыядычных выданьнях — амаль ніякім чынам не адбіліся ў паэзіі Эдуарда Акуліна. Адзіны верш у выбраным паэта, які закранае пісьменьніцкія перыпетыі, гэта верш «Выбар», прысьвечаны беларускай лірычнай паэтцы Раісе Баравіковай, якая засталася працаваць у новастворaным падкантрольным уладам холдынгу літаратурных выданьняў галоўнай рэдактаркай часопіса «Маладосьць». Верш гэты зусім не крытычны, не асуджальны, а на дзіва, мяккі, спагадлівы і даравальны:

параненым крыкам — дакор:
— Каханьне альбо Незалежнасьць?

Альбо — і нічога паміж,
і выбар амаль неадольны...
— Каханьне... Каханьне — мой крыж!
Хай іншыя выберуць Волю...

*(Выбар, с. 319,7-12)*

Эдуард Акулін разумее і слабасьць жаночай натуры, якая паддалася маральнаму ціску, і каштоўнасьць творчага дару, які мае ягоная калега. Ён выдатна разумее, хто вінаваты ў гэтай драматычнай сітуацыі, хто паставіў паэтку ў сітуацыю жорсткага і цынічнага выбару:

А лёс нарадзіцца Паэткай —
Галгофа ў юдавым краі.

*(Выбар, с. 319/3-4)*

Цікавае і незвычайнае для паэзіі Эдуарда Акуліна супрацьпастаўленьне ў гэтым вершы Каханьня і Незалежнасьці. Тое, што ў жыцьці і паэзіі Эдуарда Акуліна ішло заўсёды разам, супольна і непарыўна, у жыцьці іншых творцаў, заўважае паэт, мае розную вартасьць.

Але для сябе ён бачыць іншы шлях. Гэты шлях сур'ёзнага клопату і асабістай адказнасьці за ўсю Беларусь, за той і такі народ, якім ён насамрэч ёсьць. Гэты шлях запачаткаваны бацькамі-заснавальнікамі новай беларускай літаратуры Янкам Купалам, Максімам Багдановічам, Алесем Гаруном ды іншымі. Яны не баяліся браць на сябе віну за ўвесь беларускі народ. Яны і словам,

і дзеяй даказвалі сваю адданасьць Бацькаўшчыне. Яны былі творцамі беларускай нацыі і стваральнікамі Беларусі. У сваёй паэзіі яны напоўнілі рэгіянальны этнонім глыбокім нацыянальным, грамадскім, палітычным, культурным і гістарычным зьместам. Пры дапамозе паэтычнага слова і думкі Беларусь з краіны-мары ператваралася ў рэальную зьяву.

Эдуард Акулін працягвае традыцыю сваіх славутых папярэднікаў. Ён гаворыць пра адказнасьць перад продкамі:

Я нясу на плячах сваіх цемру...
Бацька — мне, дзед — яму перадаў.

*(Ношка, с. 316/1-2)*

Паэт глыбока ўсьведамляе сваё месца і сваё прызначэньне ў лёсе народу:

Ты камусьці патрэбны
на бацькоўскай зямлі,
дзе біблейскія вербы
зоры ў кроны ўплялі.

*(Патрэбны, с. 308/1-4)*

**Паэт востра адчувае сваю прыналежнасьць да беларусаў і бачыць свой лёс, сваё быцьцё і як чалавека, і як творцы цалкам залежным ад існаваньня народу.**

Ён піша коратка, ясна і лаканічна:

Няма Народа
і мяне няма...

*(Прарок, с. 326/9-10)*

Радзіма для Эдуарда Акуліна набывае пэўныя рысы сакральнасьці. Ён шукае Беларусь і знаходзіць яе ў беларускім народзе:

у Храме — сваім Народзе —
як спакон — Беларусь жыве!

*(Жыве!, с. 323/3-4)*

Яна — ахвяра больш моцных і бязьлітасных суседзяў. Яна — бедная і ціхмяная, яна — набожная і ўсёдаравальная:

Спакон у славянскім жыце
валтузіліся між сабой
Расія-імператрыца
і польскі галган-кароль.

Пры іх ад цямна да ранку
са сьвечкай на ўсіх вятрах
Радзіма мая — сялянкай
стаяла ў галавах...

*(Спакон, с. 321)*

Яна гэтак жа ахвяруецца дзеля сваіх дзяцей і вымольвае для іх спагадлівы лёс. У сваю чаргу маральная адказнасьць за лёс Бацькаўшчыны ляжыць на ўсіх нас, перакананы паэт:



*Зь Міхасём Скоблам і Леанідам Дранько-Майсюком.*

*Лунінец. 1995 г.*



*З Уладзімірам Някляевым і Леанідам Дранько-Майсюком.*

*Вязынка. 2007 г.*



*Мілюрка Вукадзінавіч,*
*Міраслаў Тадаровіч,*
*Эдуард Акулін.*

*Сербія. 2009 г.*



*На аўтарскай вечарыне ў Таліне.*

*Эстонія. 2013 г.*

Ты камусьці патрэбны.
Ты патрэбны камусь...
Покуль моліцца небу
за цябе Беларусь.

*(Патрэбны, с. 308/9-12)*

Яе лепшыя дзеці, якія набылі сьвятасць, моляцца за яе і аберагаюць яе. Паэт зьнітоўвае панятак Беларусь зь беларускім народам. Без беларусаў няма Беларусі, а без Беларусі беларусы асуджаныя на зьнікненьне. Неабходны ўсячасны і ўсемагчымы клопат пра ду аб сваёй краіне:

Датуль Беларусь ня згіне,
ня кане ў нябыце-сьне, —
пакуль у нябеснай сіні
заступніца Еўфрасіньня
моліцца за яе.

*(Датуль, с. 322)*

Паэт працягвае біць у паэтычны звон у трывозе за тое, што адбываецца ў краіне. Жахлівыя карціны малюе ўяўленьне паэта. Адная дыктатура замяняецца другім безчалавечым ладам:

Над пляцам Волі
ў свастыку зь сярпа
спрабуе маладзік
перарадзіцца.

*(Прарок, с. 326/11-14)*

Ён у адчаі ад грамадзянскай пасіўнасьці беларусаў. Ён зьвяртаецца з гэтым «народным горам» да маральных аўтарытэтаў народу, да Максіма Багдановіча:

Мне прысьніўся Максім Багдановіч —
беларускі Анёл-Страцім
у біблейскім вянку цярновым,
у пражылках густых крыві...

*(Анёл-Страцім, с. 343/1-4)*

і да ідэолага беларускага адраджэньня Янкі Купалы:

Па лістоце апалай
дождж сьляпы церусіў.
Я прыйшоў да Купалы —
дараваньня прасіць.
...
Бо няма Беларусаў —
колькі іх не шукай,
тых, хто пойдзе хаўрусам
бараніць родны Край

ад ганебнага змусу,
ад чужога ярма...
Нас няма, беларусы!
Не было і няма!..

*(Балада сустрэчы з Купалам, с. 345,1-4,9-16)*

Гэтыя сімвалічныя звароты пакліканыя раскалыхаць гонар і годнасьць беларусаў, выклікаюць пачуцьцё нязгоды і крыўды, хвалю грамадскай актыўнасьці, накіраванай на за-

хаваньне духоўных нацыянальных каштоўнасьцяў. Паэт расштурхоўвае беларусаў, заклікае іх да змаганьня за волю і незалежнасьць.

Волю Эдуард Акулін таксама ўводзіць у шэраг асьвечаных сакральных паняцьцяў. Ён параўноўвае волю са сьвятым алтарным агнём:

Тут Зьніч уваскрос —
нашай марай аб Волі,
якой ні разьбіць, ні спыніць, ні стрымаць!

*(Тут Зьніч уваскрос..., с. 320/11-12)*

Паэт не пагаджаецца з тым становішчам, у якім сёньня знаходзяцца беларусы. У «Баладзе пра Краіну-мару» ён называе і пералічвае прыкметы нацыянальнага рэзруху і заняпаду. Паэт задае такія пытаньні, на якія мусіць адказаць кожны зь беларусаў:

Мы, беларусы, — народ аблудны —
сваёй радзінай не ганарымся.

У нашых душах гуляе вецер...
Каму мы служым? Чые мы дзеці?

*(Баладу пра Краіну – мару, с. 347/11-14)*

Тым ня меньш, паэт прадказвае ўрэшце шчасьлівую будучыню для беларусаў. Яна не даецца проста так, задарма. За якую беларусы плацілі, плоцяць і яшчэ будуць плаціць вялікі кошт. Але іншага шляху няма, перакананы паэт:

Мы, беларусы, сваёй крывёю
сабе здабудзем Краіну-мару.

Краіну-мару, дзе мы ўваскрэснем —
як сонца з хмары, як мова — зь песьні.

*(Баладу пра Краіну – мару, с. 348/28-31)*

Дзеля гэтай Краіны-мары выбудаваная логіка жыцьця самога паэта. Краіна-мара — гэта ягоная зорка, якая вядзе паэта па жыцьцёвым шляху, не дае ўпасьці духам і зьняверыцца ў людзях, не дае скарыцца пад цяжарам няўдачаў і паразаў. Ідэальная Беларусь моцна адрозьніваецца ад прыкрай і драматычнай рэчаіснасьці. Але Эдуард Акулін упэўнены — калі ёсьць мара і ахвярнасьць у яе дасягненьні, калі не шкада і «сваёй крыві», тады мара можа спраўдзіцца.

У пошуках Краіны-мары паэт прыходзіць яшчэ да адной важнай для сябе высновы. Уваскрашэньне народу бачыцца яму ў зьнітаваньні з духоўным, рэлігійным уваскрашэньнем:

Як дараваньня прасіць у Бога,
каб Ён вярнуў нам сябе самога.

*(Баладу пра Краіну – мару, с. 347/17-18)*

Шлях, здавалася б, ня новы, і багата хто прайшоў дагэтуль гэтым шляхам у выніку ўласных духоўных і інтэлектуальных пошукаў. Але кожны чалавек, кожны ўсьвядомлены і адухоўлены беларус праходзіць яго самастойна.



*З Леанідам Дранько-Майсюком і Сьвятланай Сямашка ў Цэнтральнай гарадской бібліятэцы імя Пушкіна.*

*Брэст. 2010 г.*



*У гарадской бібліятэцы імя Герцэна.*

*Гомель. 2012 г.*



*Зь Міхасём Скоблам і Андрэем Масквіным.*

*Вейцбарк (Польша). 2003 г.*



*З Вольгай Іпатавай ля магілы яе маці.*

*Гародня. 1996 г.*



# XVIII.

Ёсьць у зборніку «Непрычалены човен» некалькі вершаў-эскізаў, як заўсёды ў паэта, намаляваных імгненна і экспрэсіўна. Лірычныя замалёўкі прыроды перадаюць надзвычай сьветлы і элегічны настрой паэта. Відаць, што ў прыродзе Эдуард Акулін знаходзіць суцяшэньне і супакой ад турботаў і клопатаў штодзённага жыцьця:

Лебедзь — у сінім небе.
Гэта прыйшла зіма.
Белай завеяй вецер
Пух разадзьмуў з крыла...

*(Лебедзь, с. 310/1-4)*

І назва зборніка ўзятая паэтам з такой замалёўкі-экспрэсіі...

Зьмяніліся акцэнты ў любоўнай лірыцы паэта. Зусім зьніклі эратычныя вершы. Каханьне ў вершах гэтага зборніка паказваецца паэтам менш плоцевым і больш пачуцьцёва-рамантычным. Але гэта ўжо не рамантычнае захапленьне маладосьці, а глыбокае пачуцьцё сталага, мудрага чалавека:

Я — серабро. Ты — золата. Наноў
не пераплавіць лёсаў нам ніколі.

*(Прыцягненьне, с. 327/5-6)*

З узростам мяняецца псіхалогія чалавека, зьмяняецца ўспрыняцьце сьвету, зьяўляецца жыцьцёвы вопыт, а часам і стомленасьць ад пражытых гадоў. Чалавек багата ў чым яшчэ той самы, бо застаюцца закладзеныя ў дзяцінстве і юнацтве рысы характару, выхаваньне, адукацыя, але шмат у чым ён ужо іншы. Паэт прыслухоўваецца да зьменаў, якія адбыліся зь ім. Ён зь лёгкай горыччу прызнаецца:

Закахацца, як у юнацтве,
я наўрад ці ўжо змагу...
Бо каханьне лічу за працу,
а калісьці лічыў за цуд!

*(Закахацца, с. 330/9-12)*

Хаця стан закаханасьці ўсё яшчэ апаноўвае паэта. Гэта лёгкае п'янкое веснавое пачуцьцё, якое паэт параўноўвае з «выпадковым матывам», мімаходзь пачутай мелодыяй, якая незнарок заляцела ў сэрца:

Вясновы настрой — яснасловы.
Знаёмку ў кавярні сустрэў...
І нейкі матыў выпадковы
у сэрца няўзнак заляцеў.

*(Здрада, с. 332/1-4)*

Нягледзячы на жыцьцёвы досьвед, паэт, як і раней, у захапленьні ад гэтага пачуцьця. Іранічная гульлівасьць, безразважная закаханасьць гучаць у віршаваных радках:

Хто нас спакусіў —
цяжка сказаць.
Зьмей нам ня схлусіў —
шчасьце кахаць.

*(Рай, с. 334/5-8)*

40 гадоў — гэта той час, калі ўзрост яшчэ не адчуваецца, і запіс у пашпарце з датай нараджэньня не выклікае ў цябе даверу. Пэўна, што маладосьць ужо незваротна мінула, але да старасьці яшчэ так далёка. Здаецца, што ўсё яшчэ наперадзе. Урэшце, мабыць, так яно і ёсьць. Стан адсутнасьці ўзросту паэта, поўнага жыцьцёвых сілаў, жаданьняў, эмоцыяў, памкненьняў, яскрава прысутнічае ў зборніку «Непрычалены човен».

У «Непрычаленым чоўне» адсутнічаюць вершы, напісаныя ў форме класічнага вершаскладаньня. Але ёсьць верш, які паказвае, што Эдуард Акулін працягвае фармальныя паэтычныя пошукі. Толькі гэтыя пошукі датычаць словаўтварэньня:

*Азаімія —*
сноў зазіміны.
*Азаімія —*
сьнегасьпеў.
*Азаімія —*
даль задымлена
і зазімлена неўспадзеў.

*(Азаімія, с.328/7-13)*

Паэт і раней эксперыментаваў з утварэньнем новых словаў. У зборніку «Непрычалены човен» таксама ёсьць некалькі складаных слоўных наватвораў, такіх як: «пералётнасьветныя душы», «жыцьцёзацьменьне», «яснасловы», «тайнадрук», «небаўзьнёслае Слова». Утвораныя яны, звычайна, аб'яднаньнем двух простых словаў у адно складанае. У вершы ж «Азаімія» Эдуард Акулін абыгрывае зусім новае створанае ім слова, якое выклікае ў яго душы шмат асацыяцыяў:

*Азаімія —*
заінелы радок,
што з завейнага вынік ранку.
...
*Азаімія —*
песьня зімняя,
мной прыдуманы вершасьвет.

*(Азаімія, с. 328/3-6,17-19)*

Побач з гэтым словам у вершы яшчэ два складаных словы, якія ўспрымаюцца ўжо як належнае: «сьнегасьпеў» і «вершасьвет». Асацыяцыі ў вершы — вельмі паэтычныя,





багата «зімовых» словаў з гукам «з»: азяблы, заінелы, завейны, зазіміны, зазімлены. Яны ствараюць чысты, марозны, зімовы малюнак. Паэт здолеў перадаць свой узьнёсла-урачысты «зімовы» настрой у вершы «Азаімія». Ён яшчэ раз паказаў высокі ўзровень валоданьня гукам, словам, вобразам, уменьне стварыць тонкую, багатую на пачуцьці, настраёвую карціну прыроды.

З 2000-га года Эдуард Акулін актыўна зьвярнуўся да перакладу ўкраінскай паэзіі на беларускую мову. Асноўная частка перакладаў для задуманай ім анталогіі ўкраінскай паэзіі была зробленая ў наступныя пяць гадоў. Працэс перакладу, перастварэньня ўкраінскага слова і думкі моцна захапіў паэта. Можа таму і прыпыніліся фармальныя практыкаваньні ва ўласнай творчасьці паэта. У працы над перакладамі паэт актыўна працуе са словам і гукам, ён працягвае адточваць уласнае паэтычнае майстэрства.

# XIX.

Шосты паэтычны зборнік Эдуарда Акуліна, вершы зь якога ўвайшлі ў «Выбранае», называецца «Малітва воч». Выйшаў ён пасьля перапынку ў дзевяць гадоў. Я даволі падрабязна разгледзеў яго ў асобнай рэцэнзіі (Народная Воля, № 39, 21.05.2013). Тут жа хацелася б сказаць пра некаторыя тэндэнцыі далейшага разьвіцьця паэтычнага таленту Эдуарда Акуліна, якія праявіліся ў гэтым зборніку.

Значная колькасьць вершаў у зборніку «Малітва воч» мае духоўна-рэлігійны характар. Тэма духоўнасьці, сьвятасьці, матывы здрады, веры маюць сваё разьвіцьцё ў вершах на рэлігійную тэматыку. Гісторыя хрысьціянства, старазапаветныя і евангельскія сюжэты даюць адказы і падказкі на тыя пытаньні, якія ставіць перад сабой паэт. Яны натхняюць Эдуарда Акуліна на глыбокія філасофскія высновы і падсумаваньні.

Хрысьціянства ў творчасьці Эдуарда Акуліна пазбаўленае канфесійнай абмежаванасьці. Ён разумее хрысьціянства як усеагульную, сусьветную рэлігію, якая за тысячу гадоў набыла ў Беларусі глыбокую адметную нацыянальную і культурную афарбоўку. Маці Божая Вострабрамская, сьвятыня беларускіх каталікаў, праваслаўная сьвятая Еўфрасіньня Полацкая, перакладчыцкі, па сутнасьці, рэфарматарскі подзьвіг Франьцішка Скарыны маюць для паэта аднолькавую найвышэйшую духоўную каштоўнасьць. Можна казаць пра ўнікальнасьць рэлігійных поглядаў Эдуарда Акуліна, якія выявіліся ў разуменьні ім хрысьціянства як супольнай, непадзельнай сусьветнай рэлігіі. Эдуард Акулін ахрышчаны ў праваслаўе, але яму аднолькава важныя ўсе праявы хрысьціянскай духоўнасьці на беларускіх землях без канфесійнага адрозьненьня.

Эдуард Акулін успрымае шлях існаваньня хрысьціянства ў беларускай форме, у беларускім аздабленьні як важнейшы фактар захаваньня тоеснасьці беларусаў. Рэлігійная хрысьціянская ідэя ўмацоўвае ў паэта нацыянальную беларускую ідэю, і, наадварот, беларуская ідэя мае духоўны выток у хрысьціянстве.

Пры ўсім пры гэтым Эдуард Акулін застаецца сьвецкім паэтам. У хрысьціянскай рэлігіі ён бачыць найперш маральнасьць, этыку паводзінаў міжчалавечых стасункаў, філасофскую крыніцу, якія неабходныя для існаваньня беларусаў як часткі агульнай хрысьціянскай супольнасьці сусьветнай цывілізацыі.

Моцна працягвае гучаць у паэзіі Эдуарда Акуліна тэма культурнага, духоўнага, нацыянальнага адраджэньня беларускага народу. Клопат і трывога паэта ўсячасныя і ўсеабдымныя. Ён усёй душою перажывае за стан беларускай мовы, культуры. Пазіцыя паэта крыштальна ясная, зразумелая і бескампрамісная. Беларусы мусяць клапаціцца пра сваю нацыянальную самабытнасьць. У сваю чаргу — мова і культура, гэта той чыньнік, які ня дасьць беларусам зьнікнуць, распусьціцца сярод іншых народаў.

У сваіх вершах Эдуард Акулін выступае як захавальнік і апалагет беларускасьці. Ён апелюе да сумленьня беларусаў, распальвае згаслую нацыянальную сьвядомасьць, гучна трубіць у паэтычны горн, папярэджваючы пра падступную небясьпеку для культурнай ідэнтычнасьці беларусаў. Паэт пераадольвае ды ігнаруе тыя праблемы, якія ўзьнікаюць у яго ў сувязі з грамадзянскай пазіцыяй у паўсядзённым жыцьці.

Постаць паэта Эдуарда Акуліна ў грамадскім, культурным, нацыянальным жыцьці Беларусі нагадвае мне знакамітага гарніста ў Кракаве, які адчайна трубіў да апошняга мігу падчас татарскай навалы, аж пакуль страла не прабіла яму горла і не спыніла сігнал трывогі, заклiку і супраціву, зьвернуты да народу. Паэт выдатна разумее, што змаганьне за беларускую культуру, якое апош-




*На аўтарскім канцэрце ў Вейцбарку.*

*Польшча. 2009 г.*

На фестывалі "Белградскія сустрэчы".

Сербія. 2009 г.



нія дзесяцігоддзі ідзе ў краіне, гэта змаганьне за само існаваньне беларускага народу. Нягледзячы на замаскаваныя, часам латэнтныя формы — яно бязьлітаснае і жорсткае, на кану якога стаіць жыцьцё ці сьмерць беларускай цывілізацыі.

Мілан Кундэра ў сваім вядомым эсэ «Трагедыя цэнтральнай Еўропы» піша, што малыя народы, такія як чэхі, славакі, палякі, венгры ў цэнтры Еўропы ў XIX стагоддзі «прайшлі праз экзістэнцыйныя выпрабаваньні, праз выбар паміж існаваньнем і зьнікненьнем, інакш кажучы, паміж захаваньнем самабытнасьці і распушчэньнем у больш шматлікім этнасе». Гэтая дылема стаяла перад беларусамі ва ўсе часы існаваньня нашага народу. Але ніколі яна не стала так востра і жорстка як цяпер.

**Эдуард Акулін у сваім грамадскім жыцьці і ў творчасьці стаіць у першых шэрагах абаронцаў Беларушчыны.**

Вершы пра каханьне, якія ствараюцца паэтам напрацягу ўсёй творчасьці, ёсьць і ў зборніку «Малітва воч». У гэтым зборніку яны становяцца больш сьціплымі і вытрыманымі ў выяўленьні пачуцьцяў. Эдуард Акулін працягвае, як і ў колішнія гады, захапляецца каханьнем, але ў вершах амаль зьнікаюць эратычныя матывы. Іх замяшчае апісаньне каханьня «на адлегласьці».

Жыцьцё паэта, як і кожнага чалавека, мае свае ўзроставыя перыяды. Натуральны працэс жыцьцёвага бегу. Розныя гамы пачуцьцяў выклікае каханьне ў юнацтве, у маладым веку і ў сярэднім узросьце. Яны адбіваюцца ў творчасьці Эдуарда Акуліна натуральным чынам. Каханьне розных гадоў чалавечага жыцьця рознае, як розным бывае мёд напрацягу лета. Але самае істотнае, што каханьне не зьнікае, яно ёсьць, яно працягвае натхняць паэта на шчырыя і хвалюючыя вершы.

Паэтычны талент Эдуарда Акуліна працягвае разьвівацца. Паэт не спыняецца на дасягнутым. Увесь час Эдуард Акулін вядзе інтэлектуальны, філасофскі, духоўны пошук. Зьяўляецца новае дыханьне, распачынаюцца, асэнсоўваюцца і распрацоўваюцца новыя этапы ў разьвіцьці асобы паэта. Выдатнае валоданьне і веданьне беларускай мовы дазваляе паэту выкарыстоўваць яе як дасканалы інструмент для перадачы ўсяго спектру сваіх думак, пачуцьцяў, назіраньняў, тонаў і паўтонаў сваёй душы. І ў той жа час паэт паказвае і выяўляе эстэтычныя глыбіні і мастацкія магчымасьці беларускай мовы, яе самакаштоўнасьць і самадастатковасьць.

Выбранае «Сьвятая ноч» зьявілася юбілейным падсумаваньнем значнай часткі жыцьця і творчасьці Эдуарда Акуліна. Ягоная паэзія надзвычай цесна зьвязаная з грамадзянскай пазіцыяй паэта, якая базуецца на бачаньні незалежнай, дэмакратычнай,

вольнай Беларусі з разьвітай нацыянальнай культурай і высокастатуснай беларускай мовай.

За гэты час багата што зроблена паэтам па евангелізацыі беларускага слова ў нашым грамадстве. Дабраахвотна ўскладзеная ім на сябе місія працягваецца.

Эдуард Акулін зьяўляецца яркім прадстаўніком беларускай нонканфармісцкай паэзіі, таленавітым паэтам з пакаленьня творцаў, якія заявілі пра сябе ў 80-ых гадах XX-га стагоддзя. Яны распачалі новы этап у беларускай літаратуры, канчаткова і рашуча адмовіўшыся ад метаду сацыялістычнага рэалізму ў сваёй творчасьці.

Рупная праца над формай верша і яго гучаньнем ставіць Эдуарда Акуліна ў адзін шэраг з беларускімі паэтамі, якія служылі і служаць паэзіі «чыстай красы», як некалі ахарактарызаваў творчыя пошукі Максіма Багдановіча крытык Антон Луцкевіч.

Няпросты, а часам і драматычны шлях разьвіцьця і самаўдасканаленьня, адсутнасьць самазадаволенасьці і самазаспакаеньня — тая сьцяга, якую абраў Эдуард Акулін у сваёй творчасьці. І ён працягвае ўпарта ісьці па ёй.

*Ліпень 2013 года.*
*Бабруйск, калонія №2*





Новы зборнік вершаў Эдуарда Акуліна «Малітва воч» выйшаў напрыканцы 2012 году напярэдадні 50-годдзя паэта. Гэта яго сёмы па ліку зборнік. Я на зоне. Эмоцыі чалавечага жыцьця, штодзённая руціна засталіся па-за плотам, і маё ўражаньне паэтычнага слова сьвежае і адчувальнае. Вершы Эдуарда Акуліна пакідаюць адбіткі ў маёй памяці, як друкарскі сьвінцовы шрыфт на вільготнай паперы. Ад некаторых я ў захапленьні, яны падаюцца мне хрэстаматыйнымі. Некаторыя я смакую і перачытваю зноў і зноў. Некаторыя вершы нярвуюць мяне, некаторыя радуюць, ды няма такіх, якія пакідалі б абыякавым. Бо ўся тканіна зборніка прасякнутая высокай напругаю душы, нярвовымі ўдарамі сэрца, хвалямі разнастайных пачуцьцяў: і каханьня, і любові, і ярасьці, і дабрыні.

Бясспрэчна, Эдуард Акулін дасягнуў вышэйшага ўзроўню паэтычнага майстэрства, пры якім літаральна ўсё, што ствараецца Майстрам, мае бляск каштоўнага металу. Сапраўдны творца выбудоўвае свой каштоўнасны сьвет, сваю бажніцу згодна з уласнай сістэмай каардынатаў. У ёй ён і архітэктар, і разьбяр, і залатар, і сьвятар. Кожны новы зборнік Эдуарда Акуліна — гэта як новы абшар ягонай паэтычнай галактыкі.





# Вера

Шмат вершаў у зборніку «Малітва воч» маюць рэлігійныя матывы ці наўпрост прысьвечаныя Богу. Сама назва зборніка гаворыць пра гэта. Эдуард Акулін не ўхіляецца ад агульнавядомых біблейскіх сюжэтаў. Зьвяртаньне да іх дае паэту магчымасьць уздымаць і па-свойму перажываць і асьвятляць глыбокія сутнасныя пытаньні, датычныя чалавечага быцьця, пачуцьцяў і эмоцыяў, якія рухаюць чалавечай істотай. Дапамагае яму дзіўная якасьць чалавечага розуму — здольнасьць ацэньваць адну і тую ж падзею пазнаму. Прачытаньне і асэнсаваньне адной і той самай зьявы ў сьвеце адбываецца бясконцую колькасьць разоў. І кожны чалавек знаходзіць для сябе штосьці новае.

У Старым Запавеце дзьве асобы прыцягваюць увагу паэта. Гэта першы забойца сярод людзей Каін, які забіў роднага брата Авеля, і Ной, дзівак, веруючы ў Божае прароцтва насуперак іншым людзям, які загадзя перад патопам пабудаваў карабель і ўратаваў жывы сьвет. Кароткае чатырохрадкоўе ў вершы «Каін» паэт літаральна насыціў безвыходным жахам Каіна, гэтага «акаяннага анёла Любві», учыніўшага недаравальны грэх. Далёкае міфічнае мінулае часта вобразна ці літаральна праектуецца на сучаснасьць. У гэтым — жыцьцяздольнасьць і надзённасьць біблейскіх сюжэтаў.

У вершы «Ерась» паэт накідвае эскіз Сусьвету, які ён уявіў:

У непрагляднай цемрадзі Сусьвету  
жыў-быў Гасподзь і ўсе, хто перад ім:  
філосафы, вандроўнікі, паэты  
і вечны Зьніч, і хуткаплынны дым...

*(Ерась)*

Гасподзь у гэтым сьвеце ўжываецца з паганскім Зьнічом, а перад ім замест анёлаў і арханёлаў знаходзяцца філосафы і паэты.

Эдуард Акулін набліжае Бога да беларускіх рэаліяў, і касмапалітычны Творца Сусьвету пераўвасабляецца ў свойскага Бога, які зьляпіў «беларускі сьвет» («Сьлед»), які «ў Вільню ходзіць» («Харавство»), які праліў над малой радзімаю паэта «біблейскі дождж ад Грамыкаў і да Сьвяцілавіч» («Бесядзь і Сож»). Гэты Бог сьмяротны («Паганіні»). Зь ім можна па-свойску паразмаўляць:

Бог, не суроч  
ня сам сябе,  
ня Вечнасць,  
якой твой лёс належыць,  
запалі  
над Бэтлеемам

зорную лампаду.
Цябе чакае ясельны каўчэг...

*(Сьвятая ноч)*

Кажуць, што адсутнасьць дагматычнага мысьленьня — яўная прыкмета жывой веры. Праўда, у большасьці выпадкаў Бог у паэзіі Эдуарда Акуліна ўсё ж такі, якога ведаюць усе хрысьціяне. І яму моліцца паэт:

О Госпадзь, не пакінь нас!
Не пакінь нас, Госпадзь,
у пустыні бязвер'я,
у аблозе грахоў...

*(Малітвашлях)*

Паэт просіць памаліцца і нашую сяброўку Веру Мікуту, зь якой мы не адзін год працавалі разам у музеі Максіма Багдановіча, а затым яна сышла з музея ў Полацкі жаночы манастыр:

Памаліся за ўсіх нас, Вера,
бо ня помнім — куды ляцім мы.

*(Памаліся...)*

Адзін зь лепшых вершаў на рэлігійныя матывы ў кнізе — верш «Бой з сабой». Верш надзвычай глыбокі, дакладны і ў той жа час метафарычны. Нескканчальнае змаганьне боскага і чалавечага, дабра і зла — сьцьвярджае паэт. Бессэнсоўна спадзявацца на вечнае шчасьце і супакой у гэтым сьвеце. Глыбокі сэнс паводзінаў і ўчынкаў Ісуса Хрыста, які не заўсёды і не адразу быў зразуметы і спасьцігнуты нават Ягонымі вучнямі-апосталамі. Сутнасьць чалавечай натуры пабудаваная на супярэчнасьцях, на вечным пошуку дасканаласьці і ідэалу. І датуль, дакуль будзе жыць чалавецтва, у людскіх душах будзе існаваць бясконцы «бой з сабой».

Шматлікія новазапаветныя сюжэты і персанажы сустракаюцца ў зборніку «Малітва воч». Раздумвае паэт над знакамітым «пацалункам Іуды». Ці быў ён умоўным знакам для захопнікаў Хрыста, ці разьвітальным пацалункам з Хрыстом, прадвызначаным і няўхільным. Можа, у гэтым пацалунку і заключалася місія Іуды. Бо не дарэмна ж перад пацалункам Іуда сказаў: «Радуйся, раві!» (Мц. 25. 49)

Чатырохрадкоўе «Пілат» прасякнутае горыччу, раскаяньнем і віною, а верш «Марыя Магдалена» — бязьмежнай вераю, пакорлівасьцю і супакоем.

Разнастайнымі біблейскімі параўнаньнямі, вобразамі, асацыяцыямі напоўненыя іншыя вершы ў зборніку. Можа, у гэтым праяўляецца неспатольная мара паэта быць бліжэй да Бога, каб «вершы Богу чытаць з амбона» («Мара»)? Боскае — блізкае да ідэальнага. Можа, таму яно так заварожвае паэта? А можа, біблейскія сімвалы і вобразы ўжываюцца паэтам, каб зразумелей, ясьней, звыклей данесьці чытачу тыя думкі і пачуцьці, якія б'юцца і вірують у ягонай мяцежнай і неспакойнай душы?





# Радзіма

Сучаснае жыцьцё зь яго праблемамі і выклікамі не магло прайсьці па-за ўвагаю Эдуарда Акуліна. Паэт засяродзіўся на тых кропках, якія найбольш балючыя, трывожныя і актуальныя для кожнага, хто думае і разважае над тым, што адбываецца ў культурным духоўным сацыяльным жыцьці Беларусі, каго клапоціць і хвалюе будучыня Радзімы. Ён спалучае лірычную танальнасьць вершаў з вострай публіцыстычнасьцю. Занепадае і зьнікае нацыянальная адметнасьць і самабытнасьць беларускага народу, затое квітнее русіфікацыя — шлях да моўнай культурнай духоўнай асіміляцыі беларусаў.

Эдуард Акулін шчыра і адкрыта рэагуе на гэтыя зьявы. Незалежнасьць краіны дала беларусам гістарычны шанц выжыць і захавацца як самабытнаму ўнікальнаму народу, дасьпець да стану еўрапейскай нацыі. Але ж ці змогуць беларусы пасьля столькіх гадоў уціску, утрапеньня і паняверкі, пасьля каласальных ахвяраў і мэтанакіраванага зьнішчэньня ўсяго беларускага ўстаць на ногі, адчуць у сабе годнасьць, гонар і самапавагу? Менавіта таму ў вершах Эдуарда Акуліна часта чутныя трывожныя і драматычныя ноты, гучыць горкая праўда:

Ані сьцягу ў цябе, ні герба...
Як, скажы, мне цябе пазнаць?
Па буслах у глыбокім небе,
па чарнобыльскіх хутарах?..

Нават Бог ад цябе адрокся
і сышоў за Дняпром усьлед...

*(Праклён)*

Славутае мінулае беларусаў і нягеглая сучаснасьць балюча ўспрымаюцца паэтам:

Пагоня б'е ў сэрца Вавелю,
а душы крывавіць нам!

*(У Кракаве)*

Гістарычны шлях беларусаў ацэньваецца Эдуардам Акуліным як шлях стратаў і пакутаў:

Углядаюся ў вір нябёсаў —
колькі там патанула крыл
тых, хто трызьніў аб Беларусі,
тых, хто йшоў за яе на крыж.

*(Крылакрыж)*

Існаваньне нешматлікіх беларускіх асяродкаў падаецца паэту адарваным ад жыцьця большасьці народу, малаўплывальным на пра-

цэсы дэнацыяналізацыі, якія ідуць поўным ходам:

Мы жывем у міфічнай краіне,
Што існуе ў завоблачным сьне.
Беларусь жа сапраўдная гіне,
хоць ахрыпні ад крыку: «Жыве!»

*(Жабракі)*

Паэт непакоіцца і турбуецца за будучыню Беларусі:

Перад лікам
сьвятой бажніцы
кленчу ніцма,
Айца малю:
— Божа літасны,
до гнявіцца...
Жыватворнаю

Плашчаніцай
ахіні
Беларусь
маю.

*(Ніцма)*

Але матывы трывогі непастаянныя, яны зьмяняюцца на заклікі змагацца за Беларусь. Гэтае змаганьне паэт як грамадзянін, як сьвядомы беларус бачыць сваёй галоўнай жыццёвай мэтаю, сваім уласным крэда:

Я на сэрцы выкаваў Пагоню,
і душа зайшлася ад Любві...

*(Жыві!)*

Паэт адчувае сябе самотным. Сапраўдным натхняльным гімнам, прысьвечаным беларусам, неабыякавым да лёсу Айчыны, гатовым многім ахвяраваць дзеля яе, гучыць верш «Жыве Беларусь»:

Дык станем, браты мае й сёстры,
у шчыры і шчыльны хаўрус
і так, як Малітву, — узьнёсла
прамовім: — Жыве Беларусь!

*(Жыве Беларусь!)*

Асобныя радкі паэт прысьвяціў старажытнай сталіцы Беларусі Вільні:

Праходжу пад Вострай Брамай
і чую, як цяжка б'ецца
у лёхах старога храма
твоё залатое сэрца.

*(О Вільня!)*

і скарбонцы беларускага духу Палесьсю:

Падмывае Гарынь-рака
мае сны, дзе начуе Песьня...
Асядлаю вала-быка,
хай зьвязе мяне на Палесьсе.





Толькі там Беларусь жыве.

*(На Палесьсе — усьлед за песьняй...)*

Грамадзянская паэзія Эдуарда Акуліна дакладна адлюстроўвае тыя пачуцьці, якія сёньня перажывае ў сэрцы і душы вялікая грамада беларусаў. Тут і моцная трывога, і горкія песімістычныя пачуцьці, і ноткі расчараваньня, смутак па няспраўджаных марах і спадзяваньнях. Тут і цьвёрдасьць, стойкасьць душы, нежаданьне скарыцца цяжкім абставінам, заклік да аднадумцаў ня падаць духам, не здавацца. Тут і вера ў лепшую будучыню Беларусі і беларускага народу. Паэт называе сьвятыні Беларусі: мова, бел-чырвона-белы сьцяг, герб «Пагоня». Ён ганарыцца нашай славутай гісторыяй і знакамітымі гістарычнымі асобамі. Нават змрочныя па настрої вершы-папярэджаньні, вершы-трэнасы выклікаюць пры прачытаньні эмоцыі супраціву і нязгоды зь існуючым станам спраў.

Для выражэньня сваіх пачуцьцяў і перакананьняў паэт знаходзіць трапныя вобразы, сімвалы і метафары. Грамадзянская актуальнасьць ягоных вершаў апранутая ў бездакорную вершаваную форму. Ён здольны ў сканцэнтраваным выглядзе, у лаканічнай вершаванай страфе выказаць тое, з чым мы штодзённа жывем, пра што ўсячасна думаем. Ён здольны ўсхваляваць душу чалавека, які задумваецца над лёсам Беларусі. І ў гэтым сіла і моц паэтычнага таленту творцы. Эдуард Акулін зьяўляецца адным з найбольш лірычных пачуцьцёвых і адначасова адным з найбольш яркіх публіцыстычных і грамадзянскіх паэтаў у нашай літаратуры. У гэтым мне бачыцца пераемнасьць паэзіі Эдуарда Акуліна з творчасьцю любімага многімі класіка беларускай паэзіі Максіма Багдановіча. Паэт не хавае, а ганарыцца гэтай пераемнасьцю. І ў сваіх інтэрв'ю, і ў паэтычнай творчасьці ён гаворыць пра Максіма Багдановіча як пра свайго духоўнага, эстэтычнага і паэтычнага настаўніка.

# Паэзія

Максім Багдановіч пастаянна прысутнічае ў паэзіі Эдуарда Акуліна. І радком эпіграфа ў вершах «Было» і «Ткачы», і асобнымі радкамі: «Я хацеў бы спаткацца з вамі» ў вершы «Я хацеў бы...», разгорнутымі Эдуардам Акуліным у арыгінальныя вершы. І вобразамі Пагоні і Страцім-лебедзя, і згадкамі пра Багдановіцкую «Венеру», і наўпрост згадкамі пра Максіма Багдановіча ў вершах «Сердалікавы ранак», «Жыві», «О Вільня!» ды іншых.

Нельга не згадаць яшчэ аднаго творцу, які часта прысутнічае ў ягонай паэзіі. Гэта паэт, зямляк і сябра Эдуарда Акуліна зь юнацкіх гадоў Анатоль Сыс. У некаторых вершах паэта, такіх, як «Жыві», «Дар», «Жыве Бела-

русь», можна заўважыць перагукваньне з вершаванымі вобразамі з паэзіі Анатоля Сыса. Зьяўляецца адчуваньне, што ідзе размова сяброў і аднадумцаў, паэтаў зь ім зразумелымі асацыяцыямі і пэўнымі сэнсавымі кропкамі, зьвязваецца нябачнае паэтычнае і духоўнае нітво. І хоць Анатоль Сыс, на вялікі жаль, ужо пайшоў з гэтага жыцьця, але ён жыве ў думках і вершах Эдуарда Акуліна, і размова зь ім, няспынны дыялог працягваецца.

Ёсьць у зборніку тры вершы, непасрэдна прысьвечаныя Анатолю Сысу. Гэта «Лён» (так, дарэчы, называецца адная з паэтычных кніг Анатоля, вось і яшчэ адная нітка-асацыяцыя), «Вошы, або Маналог Анатоля Сыса» і «Над магілай Анатоля Сыса». Цяжка прыгадаць у нашай літаратуры падобную духоўную і паэтычную повязь. Эдуард Акулін і Анатоль Сыс — паэты аднаго пакаленьня, вестуны і прарокі новага беларускага адраджэньня, новай беларускай вясны другой паловы 80-х — пачатку 90-х гадоў. Вясны, якую яны клікалі, якая імкліва прыйшла, запаліла душы многіх беларусаў надзеяй і аптымізмам. А потым вярнуліся замаразкі. Але дух паэзіі, сістэма духоўных каштоўнасьцяў у іх роднасныя. Эдуард Акулін вобразна піша пра гэта:

Мы з Сысом у нябёсным полі  
разам жалі блакітны лён.

*(Лён)*

Пэўна, што гэта нашае беларускае духоўнае поле. А лён — гэта плён іхняй паэтычнай працы.

І Эдуард Акулін, і Анатоль Сыс — гэта паэты адной, наскрозь беларускай высокамастацкай школы, якія абапіраюцца на лепшыя традыцыі беларускай паэзіі, закладзенай Янкам Купалам і Максімам Багдановічам.

Любоў да вялікай радзімы, да Беларусі, натуральна, падмацоўваецца ў Эдуарда Акуліна да радзімы малой, да пракаветнага радзіміцкага краю, Веткаўшчыны. Там «закахаўся ў Бесядзь Сож», там «калыска дзяцінства» паэта родная хата, дзе ён у маленстве засыпеў яшчэ жыцьцё сваіх бацькоў і бабуляў па спрадвечных сялянскіх канонах:

На самоце ў бацькоўскай хаце  
усю ноч не магу заснуць,  
то згадаю, як ткала маці,  
то бабуляў, што жыта жнуць...

*(Дома)*

Нашае пакаленьне сёньняшніх пяцідзесяцігадовых, у асноўным — дзеці дзяцей вайны. Нашыя бацькі дзецьмі перажылі вайну, пасьляваенны голад і нястачу. Ім пашанцавала, яны выжылі, не памерлі ад хваробаў і голаду, не згарэлі ў спаленых вёсках. Але гэтыя страшэнныя нягоды, што выпалі на іхную долю, пагана паўплывалі на іхні лёс. Мала хто з іх здолеў вывучыцца, раскрыць свае здольнасьці. Ды і іхняе зямное жыцьцё скончылася раней, чым хацелася б. Паэт адчувае сябе зьвенчаком у ланцугу пакаленьняў свайго роду:

Маці мая Марыя,  
бацька, бабуля, дзед  
мне падарылі крылы,  
каб я ляцеў наўсьлед...

*(Чарада)*

Тэмай для паэтычнага роздуму Эдуарда Акуліна зьяўляецца тэма значэньня паэтычнага слова, ролі паэта ў жыцьці народу. Пісалі пра гэта і згаданыя мной класікі, і Анатоль Сыс. Эдуард Акулін, паэт з арыгінальным мысьленьнем і талентам бліскучага валоданьня беларускім словам, мае што сказаць свайго, перажытага і абдуманага ім асабіста. Сам працэс творчасьці бачыцца паэту чымсьці незямным, ня маючым нічога агульнага з бытавымі рэаліямі жыцьця:

У імгненьне паўночнай вусьцішы,  
калі зь неба анёл глядзіць,  
адпускаю душу-распусьніцу  
мілажаласьціну прасіць...

Словаблудная, несуцешная  
будзе плакаць душа і пець,  
і у рай — на сьвятло бязьмежнае —  
за анёлам усьлед ляцець.

*(Усьлед)*

І мары Эдуарда Акуліна максімалісцкапаэтычныя:

Прачынацца у іншым сьвеце —  
хоць на поўні — там лепш за ўсё...

*(Мара)*

Адзін з выдатнейшых вершаў на гэтую тэму — верш «Ткачы». Паэт пераасэнсоўвае вядомы вобраз зь верша Максіма Багдановіча — «Слуцкіх ткачых». І вось ткачы-паэты, «пакліканыя Голасам з вышынь, на месячным разьвесьненым утоку ткуць словы». Робяць яны гэта дзеля таго, «хто клікаў». Такім чынам праца паэта-ткача — гэта пакліканьне звыш, сьцьвярджае Эдуард Акулін. Паэтычная творчасьць — гэта цяжкі духоўны занятак, і ў творцы-ткача, вобразна піша паэт, ад такой працы «параненыя рукі». Гэтыя творчыя пакуты наканаваныя сапраўднаму творцу. Гэта крыж, які ён дабраахвотна нясе праз усё сваё жыцьцё:

Ды ні адзін прымусіць зь іх ня змог  
душу адмовіцца ад рабскае прынукі...

У выніку «тчэцца боль», і нават «тчэцца Бог». Такім чынам, гаворыць паэт, вуснамі творцы прамаўляе сам Бог. Варта згадаць, што некалі такую ж ролю пры славянскіх багах адыгрывалі паганскія вешчуны.

Па-іншаму, але з тым самым адценьнем трагічнасьці і ахвярнасьці бачыцца роля паэта ў вершы «Паэзія»:

Ім пёры анёлы
з аблокаў скубуць.
Яны тыя пёры
макаюць у кроў...

*(Паэзія)*

І хоць паэт далей не тлумачыць, чыя гэта кроў, але ж мы можам здагадацца, што гэта сімвалічная кроў творцы.

Над лёсам паэта, творцы разважае Эдуард Акулін у вершах, прысьвечаных Анатолю Сысу і Максімільяну Валошыну. Паэту «Гасподзь даў крылы», упэўнены Эдуард Акулін у вершы «Дар». Ад Госпада паэт атрымаў «пяро жар-птушкі» — паэтычны дар, і «Слова». Сама ж паэзія — гэта і «луста хлеба», і «келіх неба». Ёй, паэзіі, моліцца паэт, «пакуль будзе шлях мой віцца» («Малітва»).
Натхненьнем, вечным рухавіком паэзіі Эдуард Акулін бачыць Хараство. Пра гэта раздумвае паэт у вершы «Хараство».
Да паэзіі слова паэту блізкая паэзія гукаў і фарбаў. Таму ў зборніку ёсьць вершы, прысьвечаныя творцам-кампазітарам Шапэну, Вердзі, Паганіні, мастаку Ван Гогу.

# Каханьне

Паэтычная муза Эдуарда Акуліна заўсёды мела найперш лірычны, пачуцьцёвы склад. І тэмы каханьня, асабістых пачуцьцяў заўсёды займалі ў ягонай паэзіі важнае, калі не асноўнае месца. Эдуарда Акуліна без перабольшваньня можна называць паэтам пачуцьцяў і каханьня. У зборніку «Малітва воч» любоўная лірыка складае значную частку твораў паэта.

Тэма каханьня зьяўляецца трэцяю кропкаю апоры, на якой трымаецца паэтычны сьвет Эдуарда Акуліна. Мяжа паміж асобаю паэта і лірычным героем у яго творчасьці надзвычай тонкая. Захапленьне жаноцкай прыгажосьцю, дзіўным складаным эмацыйным сьветам узаемаадносінаў мужчыны і жанчыны цікавяць і хвалююць яго.

«Божа, навошта ты яе стварыў?» — ускліквае асьлеплены жаночай прыгажосьцю паэт. Бо каханьне да жанчынаў — гэта ж «біблейскі грэх» («Грэх»). Менавіта там, у раі, упершыню адчулі гэтае пачуцьцё Адам і Ева. І гэты «грэх» запачаткаваў чалавечы род. У раі знаходзіцца выток чалавечага каханьня. Таму для паэта ад жаночых словаў «пяшчотна Эдэм зьвінеў» («Грэх»). Паэт — сьпявак каханьня — заўсёды робіць выбар на карысьць пачуцьця:

Стаючы паміж дзьвюх дарогаў,
выбіраю ня рай, а грэх.

*(Дараваньне)*

Бязгрэшнае райскае жыцьцё — не для чалавечай натуры — перакананы паэт:

Я хацеў бы... Хачу нямнога —
Вас на рай абмяняць у Бога.

*(Я хацеў бы...)*

І гэта варты абмен, мяркуе паэт, бо жаночая прыгажосьць — гэта Боскі дар:

Прыгожая жанчына — гэта
нам рай дараваны зямны.

*(Прыгожая)*

А каханьне для паэта — гэта «пачуцьцё па дарозе ў рай»...

Каханьне да жанчыны можа быць надзвычай розным, пераконваемся мы, чытаючы вершы Эдуарда Акуліна. Яно можа быць прасякнутае невытлумачальным смуткам:

Як жа мне нестае тваіх —
воч — нявыплаканых нябёсаў.

*(Нестае)*

Ці чыста платанічным пачуцьцём:

Мы кахаем з табой
на адлегласьці.

*(На адлегласьці)*

Яно бывае настальгічным:

Я думаў — каханьне памерла,
яно ж затаіла дыханьне...

*(Настальгія)*

Яно можа быць ахутана журбой:

Прынікаючы да нічога,
у сьляпой, як сусьвет, журбе
я прашу дараваньня ў Бога, —
я прашу даравацць цябе...

*(Дараваньне)*

Яно бывае ахопленае самотаю:

На ускраіне небакраю
не карай мяне нематой...
Залатая мая, сьвятая,
ля самоты маёй пастой...

*(Залатая мая)*

Часта каханьне існуе ў паэта як сьветлае высакароднае пачуцьцё. Яно ўздымае чала-

века над зямлёю, адрывае яго ад дробязнасьці і паўсядзённасьці і робіць яго лепшым. Паэт прыслухоўваецца да тонкіх гукаў сваёй душы:

І я адчуў, як ува мне
настрой прачнуўся элегічны.

*(Ластаўка)*

Ён хмялее ад каханьня, як ад віна:

п'ю чысты твой голас крынічны.
Ня п'ю, а па кроплі смакую.

*(Каханьне)*

Ён не хавае свайго шчырага захапленьня ад каханай:

Ты ўся сатканая зь лілей,
ты ўся сатканая з туману...

*(Было...)*

І для сваёй каханай ён гатовы на любыя ўчынкі:

Апускаю руку ў Бесядзь,
каб дастаць для цябе месяц...

*(Месяц)*

Але каханьне — гэта яшчэ і покліч крыві, пажада і шал. І яно ахоплівае, залівае з ног да галавы:

Бы сэрца маё апаліў
сам д'ябал атручаным трункам.

*(Здрада?..)*

Гэтае каханьне пракаветнае і ўсепаглынальнае. Яно нерацыянальнае і нелагічнае:

Я хацеў бы, згубіўшы галаў,
заблудзіцца ў начным бары,
каб на золку Ваш сонны голас,
як у птушкі, сарваўся ў крык...

*(Я хацеў бы...)*

Там, дзе пануе каханьне, усё іншае губляе сэнс, гаворыць паэт. І тады жанчына асацыюецца ў яго ці зь мяккаю глінаю:

ляпі зь мяне, што хочаш...
Я — гліна паслухмяная твая.

*(Нота до)*

Ці з музычным інструментам:

Лютня — гэта я.

*(Нота до)*

Вусны твае —
гусьлі мае...

*(Гусьлі)*





Пэўна, што ўважліва і ўнікліва чытаючы зборнік «Малітва воч», можна знайсьці яшчэ багата тэмаў і падтэмаў, якія апаноўваюць і забіраюць у палон. Мяне, напрыклад, зацікавіла загадка пастаяннага звароту паэта да ўлюбёнай для яго лічбы сорак. Вядома, што яе магічнасьць ідзе са старажытных часоў. Яна існуе ў памінальным абрадзе беларусаў, якія, як іншыя славяне, памінаюць памерлага на саракавы дзень, калі лічыцца, што душа нябожчыка адлятае з родных мясьцінаў. Гэтая лічба калісьці была і мерай адліку. Адсюль засталося выслоўе: сорак саракоў, ды ёсьць і яшчэ багата прыкладаў. Эдуарда Акуліна відавочна прыцягвае гэтая лічба:

Песьню песьняў табе складаў я
сорак доўгіх, халодных зім.

*(Дарога ў рай)*

І наступныя радкі:

Углядаюся ў вочы Бога
сорак летаў і сорак зім.

*(Крылакрыж)*

Гэтая лічба вядомая і з Старога Запавету. Менавіта столькі гадоў некалі Майсей вадзіў яўрэяў пры ўцёках зь Егіпту, пакуль яны не знайшлі Абетаваную зямлю. Гэты саракагадовы шлях зьдзяйсьняе і паэт:

Паміж Верай і Богам —
шлях у сорак гадоў...

*(Малітвашлях)*

Варта прыгадаць, што ў вершах Анатоля Сыса часта згадваецца магічная лічба «сем». Адзін з мацнейшых бакоў паэзіі Эдуарда Акуліна — яе надзвычайная вобразнасьць і метафарычнасьць. Мала хто ў беларускай паэзіі, дый ня толькі, можа параўнацца зь ім у майстэрстве стварэньня паэтычнага вобразу і метафары. Ён вырошчвае, даглядае і пестуе дасканалую метафару. І яна зьзяе ў ягоных вершах залатымі самародкамі. Вось некаторыя, якія ўразілі мяне. У вершы «Ной» старазапаветны Ной «Сорак раз пасылаў сякеру / У сваты да сырых камлёў». Закаханы паэт «З келіха сонца адпіў / Са смакам твайго пацалунка...» (Здрада?..). Стары сад бачыцца паэту натоўпам пілігрымаў:

Сьляпым паглядам молячы абсягі,
карэньнямі абмацваючы дол,
брыдуць скрозь восень яблыні-бадзягі,
сузор'і яблык сеючы наўкол.

*(Зьдзічэлы сад)*

Спыняюся, каб і чытачу засталася радасьць паэтычных адкрыцьцяў у вершах паэта.

У вершаскладаньні Эдуард Акулін зьяўляецца прыхільнікам рыфмаванай паэзіі. Рыфма ў яго вершах вельмі разнастайная, паэт рэдка зьвяртаецца да верлібру. Ён актыўна і вір-

туозна выкарыстоўвае ўвесь набор паэтычных прыёмаў, напрацаваных беларускай і сусьветнай паэзіяй. Паэтычная тканіна Эдуарда Акуліна надзвычай поліфанічная і складаная. Ён напоўніцу скарыстоўвае лексічнае і гукавое багацьце беларускай мовы, эксьпэрыментуе і разьвівае яе. Адным з новых для сябе прыёмаў, якім у вершах часта карыстаецца паэт, зьяўляецца выкарыстаньне неалагізмаў, утварэньне паэтам новых складаных словаў. Так зьявіліся паэтычныя неалагізмы: вершагрэшнік, мілажаласьціна, славабог, крылакрыж, малітвашлях. А вось прыметнік «небаверны» так і просіцца для шырэйшага ўжываньня. Ужывае паэт і неалагізм, прыдуманы паэтам Леанідам Дранько-Майсюком, называючы сотавы тэлефон адным словам: «далькажык».

Асобны разьдзел у зборніку «Малітва воч» склалі пераклады Эдуарда Акуліна з украінскай мовы. Паэт даўно займаецца перакладамі з украінскай паэзіі. 18 перакладзеных вершаў васямнаццаці ўкраінскіх паэтаў прадстаўлены ў зборніку. Чытаюцца гэтыя пераклады як аўтарскія ўласныя творы. Калі ўсё ж настане час выданьня анталогіі ўкраінскай паэзіі «Украінскі майдан», падрыхтаваны Эдуардам Акулінам, зь якой узяты і гэтыя вершы, вельмі пажадана, каб яна была дзьвюхмоўнаю. Дзеля таго, каб можна было чытаць і параўноўваць арыгіналы з перакладамі. Я мяркую, што ў такім выпадку чытач атрымае асалоду ад спазнаньня працэсу перастварэньня вершаў з украінскай мовы на беларускую.

Пры прачытаньні перакладаў заўважна, што агульныя гістарычныя лёсы, агульныя перамогі і паразы, стагоддзі жыцьця ў адной супольнай дзяржаве, нягледзячы на адметнасьці нашых культураў, ствараюць грунт для агульных настрояў і рэфлексіяў у беларускай і ўкраінскай паэзіі.

Эдуард Акулін — надзвычай цэнтрычны паэт. У яго — свая Радзіма, свая мова, сваё каханьне, свае багі, свае вершадзеці. Але ягонае «сваё» аказваецца блізкім, родным і зразумелым для многіх іншых людзей. А праз гэта становіцца каштоўным набыткам нашай беларускай сутнасьці, нашай агульнай нацыянальнай культуры.

*03.02.2013,*
*Бабруйск, калонія №2*





Хачу зрабіць нататкі пра Едруся Акуліна, выбітнага беларускага паэта, барда, майго сябра з сямнаццаці гадоў. Тры дзесяцігоддзі мы зь ім, можна сказаць, разам ідзем па жыцьці, то набліжаючыся, то аддаляючыся, але ніколі не пакідаючы, не губляючы, не забываючыся і не выдаляючы адзін аднаго з свайго жыцьця.

Мы разам вучыліся пяць гадоў у адной групе ў гомельскім унівэрсітэце. Падчас вучобы два гады жылі ў інтэрнаце на вуліцы Кірава на адным паверсе, а затым яшчэ два гады ў інтэрнаце на вуліцы Савецкай у адным блоку. Два гады пражылі разам у адным пакоі, а затым, калі Едрусь ажаніўся, на апошнім курсе два месяцы жылі ў суседніх пакоях. Мы разам езьдзілі ў будатрады ў Хойніцкі раён і на Пскоўшчыну, адбывалі практыку ў піянэрскім лагеры ў Клёнках, пад Гомелем, разам гралі ў музычным гурце «Баскі», хадзілі на ўнівэрсітэцкае літаратурнае аб'яднаньне «Крынічка», абедалі ў студэнцкай сталоўцы, таньчылі на дыскатэках у інтэрнаце і ўнівэрсітэце, езьдзілі на археалагічныя раскопкі ў Мір і адпачываць у Крым. Мы езьдзілі ў родную вёску Едруся, у Вялікія Нямкі на Веткаўшчыне, пад расейскую мяжу, мы разам пачалі размаўляць па-беларуску, абодва спрабавалі пісаць — Едрусь вершы, а я — прозу. Пазьней, ужо жывучы ў Менску, мы восем гадоў разам працавалі ў музеі Максіма Багдановіча, разам удзельнічалі ў мітынгах і дэманстрацыях у абарону незалежнасьці і дэмакратыі ў Беларусі. Таму, пішучы пра сябра, я буду пісаць і пра сябе.

Я мяркую, што ўвесь час сумовячыся, размаўляючы, чытаючы, робячы разам нейкія справы, прыходзячы да сур'ёзных у нашым жыцьці супольных высноваў, мы моцна ўплывалі адзін на аднаго, на рысы свайго характару, на паводзіны і жыцьцёвыя погляды. Ні з кім, як зь Едрусем, мне не было так па-свойску, па-сяброўску, так спакойна і душэўна ўтульна, хаця ў нас даволі розныя характары. Эдуард Акулін — рэзкі, узрыўны і безапеляцыйны ў ацэнках і ўчынках, я, падаецца, больш разважлівы і стрыманы, але больш захаплялны, рызыкоўны і апантаны, калі ўжо што бяру ў галаву, то газую да плешкі.

Было ў нас і багата падобнага, што прыцягвала адзін да аднаго. Што гэта — захапленьне прыгожым пісьменствам? Беларускай мовай? Музыкай, песьнямі і больш ахопна — Беларушчынай? Жаданьне вырасьці творчымі асобамі? Разуменьне адзін аднога? Псіхалагічная сумяшчальнасьць? Так, усё так. І што, мабыць, самае істотнае, што не дало распасьціся сяброўству, гэта тое, што мы ніколі не падстаўлялі і не падводзілі адзін аднаго...

Я з розных нагодаў, час ад часу, але заўсёды, згадваю наш рок-гурт «Баскі». Так ганарліва мы называлі сваю студэнцкую рок-банду. Усё ў ім было навырост. Усё ў спадзяваньні. І самае першае, што я згадваю пра «Баскаў», гэта страшэнны грукат, дзынканьне гітараў і завываньне мікрафону, які пастаянна фаніў ад калонак. У падсоб-

*З Алесем Бяляцкім.*

*Гомель. 1980 г.*

ным памяшканьні, дзе была скінутая ўніверсітэцкая студэнцкая апаратура, і дзе мы зьбіраліся на рэпетыцыі, была высокая, на два паверхі столь. Рэха ад нашых музычных практыкаваньняў адбівалася ад голых бетонных сьценаў, ад столі і біла па вушах так, што часта нашыя ў асноўным бяскрыўдныя лірычныя кампазіцыі з элементамі хардроку пераўтвараліся ў сапраўдны цяжкі метал. Вось там, на нашых рэпетыцыях, мы і былі праўдзівым рок-гуртом.

Пачалася нашая музычная гісторыя ў 1981-м годзе. Нашая беларускасьць, якая праразалася, як зубкі ў малога дзіцяці, патрабавала



*Па дарозе на лекцыі з Алесем Бяляцкім.*

*Гомель. 1981г.*

выйсця, і музыка была такім натуральным рэчышчам-формай, а беларускія тэксты — зьместам. І Едрусь Акулін, і я, жывучы ва ўніверсітэцкім інтэрнаце на вуліцы Кірава, брынькалі на гітарах. У кожнага з нас была свая гітара. Я брыньчэў яшчэ класа зь сёмага, перапяваў, як багата хто тады, розны вулічны шансон і сам спрабаваў складаць нейкія лірычна-сентыментальныя тэксты на павольныя, цягуча-сумныя, баладнага кшталту мелодыі.

У будатрадзе, у які мы езьдзілі пасьля першага курсу ў Хойніцкі раён, у вёску Бабчын, будаваць цагляныя хаты, на гітары грала некалькі чалавек. Кожны сьпяваў нешта сваё, пачутае і ўзятае з сваіх кампаніяў. Мы пераймалі адзін у аднаго тое, што нам падабалася, а пазьней часта сьпявалі і разам, і паасобку. Ізноў жа, у асноўным гэта былі лірычна-сентыментальныя балады. Тады мы адчулі, наколькі, здавалася б, простыя тэксты і няхітрыя мелодыі, аб'яднаныя і атрымаўшыя эмоцыю голаса, моц сьпеву, маглі зайграць, заблішчэць і паўплываць на пачуцьці кожнага чалавека. Далучыўся да нас у сьпевах і студэнт-гісторык Сяргей Скачынскі, які жыў у інтэрнаце ў адным пакоі зь Едрусем. Мы разам былі ў будатрадзе. Затым мы часта сьпявалі ў іхнім ці ў маім пакоі ўтрох пад дзьве або пад тры гітары.

Едрусь, колькі я яго памятаю, заўсёды любіў сьпяваць. Мяне гэтая ягоная здольнасьць заўсёды ўражвала крыху пазьней, праз год, калі на 4-ым курсе, з восені 82-га году,







*Эдуард Акулін з бацькам. Вялікія Нямкі.1963 г.*

мы пачалі жыць разам у адным пакоі ў інтэрнаце кватэрнага тыпу на вуліцы Савецкай. Мы не пасьпявалі яшчэ прачнуцца, уставалі, апраналіся, у пакоі жылі мы ўтрох, яшчэ з адным студэнтам-эканамістам Валодзем, калекім ад поліяміеліту, якім ён перахварэў у дзяцінстве, а Едрусь ужо пачынаў сьпяваць. Ён штосьці напяваў, спрабуючы голас, пускаў розныя трэлі і рулады, выглядаў вельмі задаволеным і вясёлым, і хоцькі-няхоцькі ўздымаў з самага ранку і нам настрой. Я ж зазвычай прачынаўся крыху млявым, недаспаным і негаваркім. Але сьпевы Едруся былі як асьвяжальны глыток ранішняй кавы.

У маім жыцьці быў яшчэ адзін чалавек, які любіў сьпяваць і заўсёды сьпяваў, нават яшчэ болей за Едруся. Гэта была мая маці. Яна сьпявала ўдома, гатуючы, вяжучы, робячы іншую хатнюю работу. Яна сьпявала і сьпявала сама сабе, напявала па куплету, па прыпеву з народных песень, пачутых у дзяцінстве і юнацтве, з усяго, што чула і схапіла з радыё і кружэлак ў 50-60-я гады.

У Едрусевым жыцьці быў свой прыклад стаўленьня да музыкі. Ягоны бацька скончыў музычную вучэльню і быў адметным музыкам-баяністам, знаным на ўсю акругу. І хоць ён вельмі рана пайшоў з жыцьця, але ягоная любоў да музыкі і здольнасьці перадаліся Едрусю.

Я яшчэ хачу на трохі вярнуцца ў наш студэнцкі інтэрнат на вуліцы Кірава. Ён мне нечым нагадвае казарму, у якой я зараз жыву. Такія ж агульныя прыбіральні, пакоі, у якіх месьціліся па чатыры студэнты, агульная варыўня і агульны душ на першым паверсе (вось гэтых выгодаў зараз у мяне няма,

у ядальню і ў лазьню мы ходзім строем). Убогае жытло, якое нам з Едрусем, першы курс прабадзяўшыся па кватэрах і хатах, здавалася зручным і ўтульным.

Жыцьцё там было вясёлае і нават, можна сказаць, разьняволенае. Інтэрнат быў у асноўным дзявочым царствам. Калі на факультэтах матэматыкі, эканомікі, на гістарычным факультэце нашага ўніверсітэту хлопцаў і дзяўчатаў было прыкладна пароўну, то на біялагічным ужо было больш дзяўчатаў, а на філалагічных, беларуска-рускім і рускім аддзяленьнях, нераўнавага была проста вялізнай. На нашым курсе з ста студэнтаўфілолагаў хлопцаў не было і дваццаці чалавек. У нашай групе была 21 дзяўчына і 4 хлопцы. Але пры ўсім гэтым дзявоцкім кветніку, які квітнеў вакол нас, мы не распусьнічалі. Былі нейкія лёгкія і нядоўгія захапленьні, але да распусты справа не даходзіла...

У інтэрнаце, каб знайсьці сэксу, ня трэба было далёка хадзіць. До было ўвечары, пасьля заняткаў выйсьці з пакою, дзе я жыў, як можна было ўбачыць грузнаватую, цыцкастую дзяўчыну-матэматыцу, якая часта стаяла ў адчыненым прыёме дзьвярэй свайго пакою, адной рукою падпёршыся ўбок, а другой упёршыся ў дзьвярны касяк. Яна зазыўна пасьміхалася, падмышкі на яе брунатнай вадалазцы былі цёмныя ад поту. Дзяўчынаў такога кшталту я бачыў ужо значна пазьней і ў большай колькасьці на вуліцах Жэневы і Бруселю.



*З Анатолем Сысом
і Алесем Бяляцкім.*

*Бабчын. 1980 г.*

Але нам такія стасункі з дзяўчатамі былі нецікавымі і непатрэбнымі. Мы былі больш духоўна настроеныя, хаця не цураліся дзявочых кампаніяў, хадзілі ў дзявочыя пакоі вячэраць, піць гарбату, гаманіць, граць на гітары і сьпяваць. Весялей было зь дзяўчынамі разумнымі і інтэлектуальна разьвітымі. Нашымі сяброўкамі былі, і ня раз паілі нас гарбатай і Воля, і Ліля, маладзейшыя за нас на курс, першая зь якіх стала паэткай



*З Алесем Бяляцкім.
Будатрад " Пунсовыя ветразі".*

*Бабчын. 1980 г.*

Вольгай Куртаніч, а другая — мовазнаўцай Ліляй Плыгаўкай. Вось у гэтым вясёлым інтэрнацкім балагане мы пражылі два гады. Там жа і нарадзілася думка стварэньня беларускамоўнага студэнцкага рок-гурта.

Утварэньне «Баскаў», як можна зразумець, мела арганічны падмурак, але справа можа б і не дайшла да арганізацыі гурта, каб ня гэтае заклятае для нас беларускае пытаньне.





«Баскі» — адпачатку былі спланаваным беларускім праектам.

У верасьні 81-га году, прыйшоўшы на трэці курс, мы зь Едрусем сьвядома пачалі размаўляць па-беларуску. Яму было прасьцей, ён вярнуўся да мовы, роднай яму зь дзяцінства, дадаўшы да яе набыты запас літаратурных словаў, мне — складаней, бо ўсе свае дзевятнаццаць гадоў я быў прадуктам русіфікацыі і размаўляў па-расейску. Але дзесьці ўжо праз месяц асноўныя праблемы ў маўленьні я пераадолеў.

Хутка з намі заразмаўлялі і нашыя сябры, знаёмыя, студэнты. І калі нашыя сябры былі ў асноўным двухмоўныя, дык мы па-беларуску гаварылі паўсюль — і ў інтэрнаце, і зь дзяўчатамі, і на рускамоўных лекцыях, розных псіхалогіях і педагогіках, і нават на лекцыях па рускай літаратуры. Мы зьбеларусіліся канчаткова і беспаваротна. Мне неўтаймавана хацелася ўплываць на іншых людзей, папулярызаваць беларускую мову, уздымаць нацыянальную сьвядомасьць. Да гэтага натуральнага асьветніцтва, адраджэнскага шляху падахвочвалі і наладжаныя мной кантакты зь сьведамымі беларускімі студэнтамі-менчукамі Вінцуком Вячоркам ды іншымі.

Мне тады ўяўлялася, што мы, як актыўныя атамы, піхаючы, расштурхоўваючы іншых, перадаючы ім свой беларускі станоўчы зарад, непазьбежна выклічам ланцуговую рэакцыю, якая прывядзе да ўтварэньня моцнай


*У будатрадзе "Пунсовыя ветразі".*

*Хойнікі. 1980 г.*

беларускай сьведамай інтэлігенцыі, а тая, у сваю чаргу, усьвядоміць шырокія масы простага народу. Я любіў марыць, што вось за сваё жыцьцё я загітую, пераканаю, напрыклад, сорак чалавек размаўляць паўсюдна па-беларуску, а тыя, у сваю чаргу, загітуюць іншых, няхай па два дзясяткі, а трэцція — чацьвёртых, хай па дзясятку, а чацьвёртыя, якіх будзе ўжо восем тысячаў, хоць па пяць чалавек пятых, а сорак тысячаў пятых загітуюць па два чалавекі шостых, і вось, гадоў праз сорак ад мяне аднога зьявяцца — восемдзясят тысячаў сьведамых беларусаў! На гэта ня шкода было пакласьці сваё жыцьцё.

Апроч «вярбоўкі» актывістаў, неабыякавых да беларушчыны, я разумеў, што былі неабходныя ідэі, якія б паказвалі і падавалі беларушчыну і найперш беларускую мову ў выгодным і прывабным сьвятле. Слава і ўплыў «Песьняроў» ужо міналі. У 70-я яны вывелі беларускую песьню зь вёскі на гарадскія вуліцы. Але прыйшлі 80-я, рок-гурт, які сьпяваў бы па-беларуску, падаваўся такой выдатнай задумкай. Ня дзіва, што пры нашым захапленьні сьпевамі пад гітару, гэтая ідэя была прагавораная ў нашых зь Едрусем размовах.

Я ня памятаю дакладна, хто першым загаварыў пра гэта, мне здаецца, што — я, але гэта мог быць і Едрусь. Я зь нехацьцю ўжываю гэтыя словы — «вярбоўка», папулярызацыя, але такая была савецкая рэчаіснасьць, пры якой мэтанакіравана, згодна з «навукаю», зьнішчалася ўсё беларускае, нацыянальнае. І хоць на лекцыях, ва ўнівэрсітэце, і ва ўсіх газетах і па тэлевізіі бясконца казалася і сьцьвярджалася пра ўтварэньне і разьвіцьцё новай гістарычнай супольнасьці, да якой мы ішлі, якую мы будавалі і ў якую мусілі пераўтварыцца — пра савецкі народ, але мы не хацелі такой будучыні. Мы адчувалі, разумелі і ўсьведамлялі, што гэта — грандыёзны падман.


*З сябрамі літаратурнага гуртка "Крынічка".*

*ГДУ. 1981 г.*


*З першакурсьнікамі.*

*Гомель. 1983 г.*

Яго сутнасьць сфармуляваў чэшскі пісьменьнік Мілаш Кундэра, эсэ якога даслалі мне сюды, на зону. Ён лічыў, што камунізм быў прыстасаваны Расіяй для «зьдзяйсьненьня цэнтрабежных тэндэнцыяў ды імперскіх пажадаў», што Расія была «нацэленая на пераўтварэньне ўсіх нацыяў, якія ўваходзілі ў імперыю (украінцаў, беларусаў, армянаў, латышоў, літоўцаў і астатніх) у адзіны рускі народ (ці, як выказваюцца ў эпоху агульнапрынятых моўных містыфікацыяў, у «адзіны савецкі народ»).

Мы дайшлі да гэтых жа высноваў самі, самастойна, адчуваючы тую несправядлівасьць, якая рабілася з нашым народам, зь яго мовою і культураю, сваёй скурай. Гэтак жа ж, як Мілаш Кундэра, мы выдатна разумелі, хоць тады і не чыталі яго, што «руская мова душыць мовы іншых нацыяў савецкай імперыі», бо «савецкая бюракратыя — глыбока пазанацыянальная, антынацыянальная, мае патрэбу ў інструменьце для ўніфікацыі краіны». Мілаш Кундэра не любіў Расію за тое, што ў 1968 годзе, «акупаваўшы Чэхаславакію, Расія зрабіла ўсё для таго, каб зьнішчыць чэшскую культуру». Як жа мы мусілі ставіцца да рускай культуры, калі знаходзіліся ў горне ўсіх гэтых савецкіх эксперыментаў. І які ж юначы запал і безагляднасьць мы мусілі мець, адважыўшыся стаць у супраціў гэтаму вялізнаму савецкаму монстру.

Я знарок спыняюся на ідэалагічнай аснове стварэньня «Баскаў», каб паказаць, што яна насамрэч была. Але ідэалогія ідэалогіяй, а ў жыцьці ўсё было значна весялей. Сярод нашых аднакурсьнікаў апынуўся вельмі неблагі бубнач — Толік Кавалёў. Ён быў гомельскім хлопцам, жыў на Аэрадроме, пабеларуску размаўляў толькі з намі. Удома ён меў ударную ўстаноўку, заліхвацкі грукаў на бубнах і біў у латунныя талеркі.

І ўсё неяк разам супала: і нашае жаданьне граць, і некалькі песень было, якія напісаў Едрусь, і падабраўся склад музыкаў зь сяброў-аднакурсьнікаў. Едрусь быў лідарам нашага музычнага гурта, ён меў найлепшы голас, пісаў музыку і тэксты, ён граў на рытм-гітары. Я, скончыўшы чатыры класы музычнай школы па домры, меў добра распрацаваныя пальцы і мог бы ўзяцца і за сола-гітару. Але я пасьля музыкалкі добра ўяўляў сабе той аб'ём практыкаваньняў, які трэба было выканаць, каб выйсьці на больш-меньш прыстойны ўзровень, таму спыніўся на бас-гітары. З басовымі партыямі мне, граючым некалі даволі складаныя творы на маленькай домры, было прасьцей. Толік Кавалёў граў на бубнах, а Сяржуку Скачынскаму засталася сола-гітара. Так мы і разьмеркаваліся.

Назву гурта мы склалі з першых літараў сваіх прозьвішчаў: Бяляцкі-Акулін-Скачынскі-Кавалёў. Вось і атрымалася — «Баскі». Вызіраў з гэтага назову і поўны грамадска-палітычны падтэкст. На другім краі Эўропы жылі гэтыя баскі — народ без сваёй дзяржавы, які тым ня меньш, як мог змагаўся за сваю незалежнасьць ды імкнуўся захаваць сваю нацыянальную адметнасьць. Іхняя баскская барацьба патаемна перагукалася з нашымі памкненьнямі. Мы хацелі, каб і ў нас узьнялася хоць якая хваля барацьбы за нашую беларускую незалежнасьць. Вось так і ўзьніклі «Баскі».

Моцна аблегчыла нашае жыцьцё тое, што факультэтнае начальства ня ўбачыла ў нашай музычнай ініцыятыве ніякай крамолы і дазволіла рэпэтаваць на ўнівэрсітэцкіх інструментах. На іх раней граў унівэрсітэцкі музычны ВІА «Радзімічы», які быў досыць вядомы ў 70-я. Напачатку 80-х «Радзімічы» перажывалі ня лепшыя часы.

Мы па некалькі разоў на тыдзень зьбіраліся на рэпэтыцыі ў сваёй музычнай каморы і грымелі, дзынькалі, пішчэлі і равелі, выціскаючы з гітараў ўсё, што дазваляў узровень нашай музычнай падрыхтоўкі і сьціплаватыя інструменты. На рэпэтыцыях мы развучвалі тагачасныя музычныя хіты. На жаль, гэта не была ангельскамоўныя рок-класіка бітлоў, ролінгаў ды іншых высакаякасных гуртоў. У гэтай музыцы няблага разьбіраўся Толік Кавалёў. А я палюбіў іхнюю музыку ўжо пазьней. Мы ж развучвалі ўласна баскаўскія кампа-


*Алесь Бяляцкі. Гомель. 1983 г.*

зіцыі ды перасьпеўвалі папулярныя на той час расейскія гурты: «Машыну часу», песьні Уладзіміра Кузьміна, Юрыя Антонава, гралі таксама вулічны шансон. Чужыя песьні мы трактавалі як рэпетытарскія, навучальныя, найбольшую ж асалоду атрымлівалі пры падрыхтоўцы сваіх песень.

Праз пару месяцаў рэпетыцыяў з какафоніі гукаў і бязладнага музычнага вэрхалу ўрэшце пачало вымалёўвацца штосьці больш-меньш зладжанае, рытмічнае і падобнае на музыку. Да ўсіх музычных хітрасьцяў і тонкасьцяў мы даходзілі самі, бо ніхто з нас раней ні ў якіх гуртах ня граў. Мы купілі пару педальных «прымочак» на гітары і гучаньне іх стала больш багатым і разнастайным. Шляхам спробаў і памылак мы зрытмавалі граньне бубнаў і бас-гітары. Я трымаўся за рытм бубнаў, як п'яны за плот, але часам забываўся, выпільваючы які-небудзь пасаж і спрабаваў браць на сябе ролю сола-гітары. Бубнач Толік Кавалёў злаваўся на мяне за свавольства і абурана кідаў палачкі. Рэпетуючы, здавалася, што мы ўпадалі ў нейкі музычны транс і трох-чатырохгадзінныя зборкі праляталі на адным уздыху. Дзясяткі разоў мы прайгравалі адныя і тыя ж фразы, шліфавалі іх, дабіваліся лепшай якасьці, імкнуліся граць зладжана і ў такт.

Толькі так!
Свой трымай кірунак!
Толькі так!
Ў гэтым наш ратунак!
Толькі так! —

гарлаў Едрусь так, што жылы выступалі на шыі і твар ягоны чырванеў ад натугі. А мы дапамагалі, падпяваючы яму: «Толькі так!»


*З Сяргеем Скачынскім.*

*Гомель. 1983 г.*


*“Баскі”. (Сяргей Скачынскі, Алесь Бяляцкі, Анатоль Кавалёў і Эдуард Акулін).*

*1981 г.*

Гэта была сапраўдная рокавая кампазіцыя, нашая каронная візітоўка.

Але большасьць песень, якія пісаў Едрусь, былі лірычнымі і спакойнымі:

Дыктуе лёс няўмольны
І мы з табой няздольны
Час спыніць.

Гэта была чыстая баладная лірыка. Недахоп уласных рокавых кампазіцыяў мы кампенсавалі, перасьпеўваючы па-беларуску «Машыну часу»:

Вось, новы паварот,
Што ён нам нясе,
Прорву або ўзьлёт,
І не разьбярэш,
Пакуль не павярнеш
За паварот.

Так мы гралі і гралі на рэпетыцыях, гадзінамі, забываючыся і на палудні і на вячэры. Урэшце мы адчулі, што можам паказацца на людзях.

Увесну 82-га году надарылася нагода першы раз выйсьці на публіку. І было гэта, ня цяжка здагадацца, вясельле. Жаніўся Валодзя Папружны, аднагрупнік і зямляк нашага сола-гітарыста Сяргея Скачынскага, зь якім яны жылі ў інтэрнаце ў адным пакоі. У тым жа пакоі жыў і Едрусь Акулін. Натуральна, што я быў у іх частым госьцем.

Папружны паступіў вучыцца ўжо пасьля войска і быў старэйшым за нас на тры гады. Ён трымаўся сам па сабе, у яго былі ўжо ўстойлівыя, дакладныя меркаваньні, уяўленьні і паводзіны, сфармаваныя ў сям'і і ў войску. Ён любіў парадак, заўсёды трымаўся з саліднасьцю, заўсёды хадзіў прычасаны, у чыстым адзеньні і вычышчаных туфлях. У інтэрнацкім пакоі 19-гадовым маладзёнам ён асабліва разгуляцца не даваў. Я зь ім толькі прыязна вітаўся, як і з усімі, а хлопцы, Едрусь і Сяргей, жывучы разам, часам і елі супольна, ды й увогуле, як суседзі па пакоі, мелі больш частыя і цесныя стасункі.

Дык вось гэты Валодзя жаніўся і папрасіў-запрасіў нас зграць у яго на вясельлі. Такім чынам паехалі мы ў траўні 82-га ў Лоеў, упершыню граць на людзях, паказваць, на што мы здольныя.

Лоеў — невялікае беларускае палескае мястэчка, якое стаіць на сутоку шырокіх тут Сожа і Дняпра ды малога Вітача, на землях, спрадвек заселеных славянамі, Лоеў — брама ў землі дрыгавічоў, крывічоў, радзімічаў і севяранаў. У свой час як ключ замыкаў гэтыя водныя шляхі Лоеўскі замак. Праз Лоеўскія брады ў сярэднявеччы ўрываліся на беларускія землі крымскія татары, а пазь-

ней — узбунтаваныя казакі. Тут яны былі і разьбітыя беларускім ліцьвінскім войскам. Лоеў быў апошнім на паўднёвы ўсход зь беларускіх замкаў, якія некалі як перліны былі нанізаныя на суворую сінюю нітку Дняпра: Лоеў, Холмеч, Рэчыца, Стрэчын, Жлобін, Быхаў, Магілёў, Ворша — тыя паселішчы з замкамі на Дняпры, якія я згадваю па памяці. Захаваўся зь іх толькі замак у Быхаве, ад астатніх засталіся адно замчышчы. Скрозь па Дняпры, які даваў і працу, і ежу, тысячагоддзямі тут жылі людзі.

Вось там, у Лоеве, на хатнім двары была змайстраваная з рэек і брусоў вялікая альтанка, абцягнутая тоўстым поліэтэленам. Запрошаныя на вясельле госьці сядзелі і ў хаце, у якой былі расчыненыя і дзьверы, і вокны, і ў гэтай альтанцы, на лавах, вакол вялікага агульнага стала. Мы гралі побач, у двары, дзе таньчылі і весяліліся госьці.

Мы гралі, былі занятыя і заклапочаныя і якасьцю музыкі, і сьпевамі, мы хваляваліся, бо ж выступалі ўпершыню. Падвыпіўшыя госьці былі задаволеныя і непатрабавальныя. Жывы музычны гурт, ды яшчэ з Гомеля, быў для лоеўцаў шыкоўным упрыгожваньнем вясельля. Мы адыгралі свой «джэнтэльменскі набор» — расейскія хіты і свае беларускія кампазіцыі. Вясельныя госьці радасна таньчылі. Зямля была яшчэ набрынялая вільгацьцю і гойдаўся пад нагамі ў танцораў, мягка ўгінаўся чорны, вільготны дол.

Увечары нас, крыху стомленых, але задаволеных што не падвялі яшчэ болей за гасьцей, замяніў нейкі дзядзька-баяніст, а яго ў сваю чаргу — магнітафон. Мы здолелі самі пад'есьці і агледзецца. А госьці разгуляліся ва ўсю. Аднекуль зьявілася абраджаная ў кажух жанчына з намазанымі сажай вусамі, з падвязанаю чырвонаю моркваю паміж ног. Пасыпаліся вясельныя вострыя жарты, датычныя жаніха і нявесты, загучалі прыпеўкі, такія, што ад сьмеху аж сьлёзы каціліся з вачэй. А потым на жэрдцы высока была ўзьнятая абезгалоўленая кура. Жанчыны штосьці сьпявалі, вясёлае і распуснае, трэсьлі гэтай жэрдкаю, варушылася цельца куры з крывавай шыяй. Цьмяна блішчэла ў зыходзячым сьвятле сонца зьліплае ад крыві перье.

Гэта была крывавая ахвяра, мабыць, старым славянскім багам, каб шлюб удаўся. Такія паганскія танцы і крывавы абрад я ўбачыў упершыню.

Падчас танцаў пад магнітафон я пазнаёміўся з адной дзяўчынай у крэмавай сукенцы з кароткім рукавом, з коратка падстрыжанымі кучаравымі чорнымі валасамі. Мы таньчылі некалькі разоў пад павольную музыку. Як толькі гучаў павольны танец, я шукаў вачамі яе ў натоўпе, падыходзіў і запрашаў. Яна ўсьмешліва пагаджалася, і цяпер ужо пад нашымі нагамі мякка калывалася зямля. Позна ўвечары, калі госьці паступова пачалі разыходзіцца, я павёў праводзіць яе дахаты. Яе клікалі Наталя, ёй было 18 гадоў, яна была стрыечнай сястрой маладога, таму і прыйшла на вясельле. Яна вучылася ў лоеўскай педвучэльні на настаўніцу малодшых класаў. Мы прагулялі па ціхіх цёмных лоеўскіх вулічках і працалаваліся ўсю ноч. Наталя была ціхай і маўклівай, усё больш пасьміхалася, гаварыў пераважна я і пра штосьці ў яе распытваў. Тады яна адказвала на мае пытаньні. Урэшце пад раніцу, разьвітаўшыся зь ёй і дамовіўшыся сустрэцца ўдзень, зь сьветлым і легкім настроем я заваліўся спаць у бацькоўскай хаце маладой на вызначаным мне месцы.



*Алесь Бяляцкі з будучай жонкай Натальляй.*

*Гомель. 1984 г.*

Назаўтра мы ўжо ня гралі. Разам з гасьцямі, якія ізноў напоўнілі хату і двор, мы селі за стол. Неўзабаве прыйшла гэтая маладзенькая чарнявенькая і кучаравенькая сваячка маладога. Зранку яна спадабалася мне яшчэ болей. У яе былі выразныя рысы твару, роўны авал тварыка, які звужаўся да падбародка, і вельмі далікатная скура. Я чытаў некалі перад гэтай сустрэчаю зь ёй вершы персідскіх паэтаў. Там яны параўноўвалі аблічча персідскіх прыгажуняў з пяшчотным і далікатным персікам. Калі я паглядаў на сваю новую знаёмую, дык разумеў, што вось менавіта пра такіх персіянак і пісалася ў іхніх рубаі.

Пасьля ранішняга застольля мы схадзілі з упадабанай мною дзяўчынай на недалёкі бераг Дняпра. Яна паказала мне веснавы разьліў. Дняпро ўразіў. Мы стаялі на дваццаціметровай строме берагу, каля ніткі старых акопаў, якія цягнуліся ўздоўж. Наколькі бачылі вочы, уся бяскрайняя прастора ўнізе была залітая вадою. Ярка сьвяціла травеньскае сонца. Дзьмуў, насычаны веснавой вільгацьцю, сьвежай травой і рачнымі пахамі, цёплы вятрыска. Дзесьці далёка-далёка, кіламетрах у дваццаці, за морам вады зь зеленкаватымі купамі залітых разьлівам дрэваў, шэрай ніткай цямнеўся лес.

Наваколльле, прастора вады, пахі, прыгожая дзяўчына побач — адчуваньне шчасьця на-

поўніла мяне. Мы пацалаваліся на гэтым высокім беразе Дняпра яшчэ можа разы з два. Пасьля начных пацалункаў яшчэ смылелі вусны. Затым вярнуліся на вясельле і проста трымаліся астатнія гадзіны перад абедам побач і разам. Дзесьці ў абед трэба было разьвітвацца і ад'язджаць. Пад'ехаў аўтобус, мы загрузілі свае інструменты, у пасажырку селі таксама тыя з гасьцей, каму трэба было дабрацца да Рэчыцы, праз якую мы мусілі праехаць, і да Гомеля. Праз шыбу я махаў дзяўчыне, зь якой пазнаёміўся, таньчыў і цалаваўся ўсю ноч. Яна пасьміхалася мне ў адказ. І ў мяне было адчуваньне, што я губляю штосьці такое, што я не павінен згубіць. Былі ў мяне знаёмыя дзяўчынкі і дагэтуль. Але вось такое адчуваньне зьявілася ўпершыню.

Вось так адбыўся першы музычны выступ «Баскаў» на людзях. Я б не апісваў так падрабязна сваё мімалётнае і кароткае спатканьне з лоеўскай чарнявай прыгажуняй-«персіянкай» Наталяй, якое было лёгкім фліртам, калі б не атрымалася так, што праз пяць гадоў яна стала маёй жонкаю.

Мы працягвалі зрэдку граць на вясельлях у сваіх сяброў, а аднойчы паехалі даваць танцы ў Вялікія Нямкі, на радзіму да Едруся Акуліна. У вясковым клубе была свая апаратура, а штосьці мы прывезьлі самі. У клуб сабралася ўся навакольная моладзь зь Нямкоў і суседніх вёсак. Адыгралі мы з посьпехам, па некалькі разоў паўтараючы некаторыя свае беларускамоўныя кампазіцыі, пад якія моладзь таньчыла асабліва заўзята. У Вялікія Нямкі пасьля таго мы наязджалі шмат разоў…

Ладзілі танцы мы таксама ў клубе ў вёсцы Астрагляды ў Хойніцкім раёне, дзе жыла бабуля Сяржука Скачынскага, нашага сола-гітарыста. А затым гралі на ягоным вясельлі ў вёсцы Стаўбун Веткаўскага раёну. За жонку ён узяў дзяўчыну з нашай групы, Галю Панкову, русакосую і галасістую аматарку пасьпяваць разам з намі, у аўдыторыі падчас перапынкаў паміж лекцыямі, беларускія народныя песьні. Яны пазнаёміліся і ўпадабалі адзін аднаго ўсё ў тым жа інтэрнаце на Кірава, дзе жыла і Галя.

Але яшчэ перад гэтым, увосень 82-га году, ужо ў кастрычніку, маючы вольны ад занятказ тыдзень, мы ўтрох — я, Едрусь і Сяржук Сканчынскі езьдзілі адпачываць дзікунамі ў Крым. Праезд у агульным вагоне з Гомеля да Сімферопалю па студэнцкім білеце са зьніжкаю напалову каштаваў пяць рублёў. Атрымаўшы 40-рублёвыя стыпенды, заплаціўшы зь іх па 10 рублёў за праезд тудысюды, з астатнімі грашыма, з намётам і спальнікамі мы паехалі ў Крым. Мы дабраліся да Алушты, адышлі ад гораду па ўзьбярэжжы кіламетры з тры і паставілі сярод ляску з невысокай крымскай хвоі недалёка ад берага мора намёт. У першую ноч было ветрана. Устурбавана, як магутная жывёла шумела-ўздыхала мора, і мне здавалася, што вось-вось наш намёт разам з намі зьліжа высокі і грозны марскі вал. Бераг дрыжэў і калаціўся ад націску мора. Неяк перанача-

*Малюнак Э. Акуліна, зроблены ў Алушце. 1982 г.*

валі мы, штораз прачынаючыся і падхопліваючыся. А потым наступіла раніца. Было ціха, сонечна і зусім цёпла. Гэткая ж цёплая, летняя была і вада.

Мы адцягнулі намёт далей ад берагу, распалілі вагеньчык, зварылі бульбы, якую прывезьлі з сабой, пад'елі і пайшлі з Едрусем у горад купіць віна і харчоў. На ўзьбярэжнай Алушты стаялі аўтаматы з газіроўкай. Мы падышлі да аднаго, агледзелі яго, аказалася, што за манетку ў дваццаць капеек ён налівае шклянку маладога вінаграднага віна. Гэта быў вінны аўтамат. Мы выпілі па маліноўскім, віно было лёгкае, сьвежае і спатольнае. Мы паўтарылі і захмялелыя крыху зайшлі ў бліжэйшую лаўку, купілі штосьці зь ежы і пляшку марачнага мацаванага «Какуру», даражэйшага за сухое віно і яшчэ адную трохгадовага масандраўскага «Партвейну», а таксама штосьці яшчэ з больш паэтычнай назваю, але таксама марачнага і салодкага. Пасьля нашага заўсёднага беларускага яблычнага «чарнільца» ці ўкраінскага «Білого міцного», якое закаркоўвалася бляшаным коркам, як піва, ці азербайджанскага «Агдаму», якое чамусьці называлася «вінаградным партвейнам», а было насамрэч брыдкай барматухаю, масандраўскія віны падаліся нам напоем старых грэцкіх багоў.

Наступныя некалькі дзён мы толькі тое рабілі, што не рабілі нічога. Мы хадзілі ў Алушту папіць «газіроўкі» і закупіць марачнага віна. Кожны дзень бралі штосьці іншае — і «Мадэру», і «Херэс», і нейкія «Даліны»

і «Ночы», адзіны «Какур» заставаўся нязьменным ўлюбёнцам. Песьня гурта «Дыялог» — «Люблю волчек — забаву детства», загучала па-іншаму: «Люблю «Какур» — забаву дзецтва».

Перайначваць вядомыя песьні на свой капыл — была нашай заўсёднай забаваю. Затым мы гатавалі ежу, купаліся, апаляліся пад ласкавым восеньскім сонцам. Яшчэ браўся загар, і мы хутка падсмажыліся, лежачы на дзікіх і пустых камянях. Мы былі адныя. Мы адлівалі ў бляшаныя кубкі з пляшкі кожны сабе віна, распаўзаліся, як цюлені, на цёплыя камяні і паціху цмакталі вадкі п'янкі вінаград. Нават размаўляць у такія хвіліны нам не хацелася, бо знаходзіліся мы ў стане, блізкім да нірваны.

Бераг, аб які плёхалі марскія хвалі, быў камяністы. Некалькі вялікіх скальных камянёў тырчэлі з вады. Адная ўпадзінка на такім камяні нагадвала адшліфаваную вадой каменную ванну. Мы ўпадабалі залазіць туды па адным і чакаць, пакуль марская хваля не пераскочыць празь бераг каменнага ложа і не абдасьць ляжачага там важкай марской плюхай вады і пены. Купальшчыка гойдала туды-сюды. Астатнія паглядалі ды сьмяяліся. Вада выливалася праз шчыліны прыроднай ванны. Мора гулялася з намі.

Аднаго ранку мы бачылі адзінокага дэльфіна, які рытмічна нырцаваў на даляглядзе. Яшчэ ў іншы дзень уся вада, у якую мы скокнулі ўсе разам, была поўная матавых медузаў. Мора нагадвала густы суп з клёцкамі. Медузы нас не паабстрыкалі, але мы павыскоквалі з вады, як ашпараныя. А цёмначы, па беразе пачыналі бегаць-шуршэць маленькія, з савецкі жалезны рубель, крабікі. Увечары сонца хутка заходзіла за высокі схіл гары і станавілася па-восеньску цёмна. Паўднёвая цемрадзь, як сажа, ахутвала бераг. Толькі зьлёгку блішчэла мора і ўдалечыні сьвяцілі-ся ціхія таямнічыя агні караблёў. Усё было так дзіўна, так прыгожа, так непадобна на сьціплыя краявіды нашай Гомельшчыны. Вадкае настоенае пахкае масандраўскае віно разбавіла нашую цягучую беларускую кроў. Хацелася запомніць і мора, і пахі пухнатай крымскай хвоі, і гучны строкат цыкадаў, запомніць так, каб не забыцца да апошняй секунды, да апошняга ўздыху такога доўгага яшчэ і радасна-цікавага жыцьця.

Аднаго разу ўдзень мы ўскараскаліся на гару. Схіл яе да мора быў стромым, і мы зь цяжкасьцю прабіраліся праз чорналесьсе. На самай вяршыні мы ўбачылі невялікія, можа, зь дзесяць капцоў, могілкі. Адваротны бок гары быў больш схілы, але ўсё роўна апошнія метраў сто ўзносіліся рэзка ўгару. Відаць, калі сюды некалі ўзьнімалі труну, дык даводзілася весь гэты адрэзак апошняга шляху несьці яе на руках. Прысады з высокіх цёмных кіпарысаў пазначалі нітку старой, зарослай зараз хмызьняком дарогі. Зь нейкай тугой і сумам паглядалі мы на высокі мармуровы крыж, які стаяў на магіле сямнаццацігадовай дзяўчыны. Думалася, што як гэта няслушна і несправядліва — памерці ў сямнаццаць гадоў! Кожны з нас міжволі прымерваў яе нядоўгае жыцьцё да свайго. Як гэта магчыма, памерці такой маладой, калі вакол гэткі чароўны, напоўнены жыцьцём сьвет, калі ўсё, усё яшчэ наперадзе, калі ты заглядаеш сабе ўсярэдзіну і адчуваеш, як ты напоўнены яшчэ неакрэсьленымі і няўцямнымі марамі і задумамі, калі ты, як клён у сакавіку, напоўнены салодкім сокам жыцьця і вось-вось гатовы распусьціць свае зялёныя шаты... Верад жыцьця бурлеў ў нашых жылах, і кожная клетачка цела была напоўненая нязгасальным імпэтам.

І хоць мы гэта ведалі ня горш, а, можа, і лепш за іншых сваіх аднагодкаў, бо багата чыталі, але нам у той момант і ў голаў не прыходзіла, што ў гэтым самым, нашым 20-м стагодзьдзі, калі мы нарадзіліся, вырасьлі і жылі, на гэтай самай еўрапейскай зямлі загінулі, памерлі, былі забітыя розным чынам дзясяткі мільёнаў такіх самых маладзёнаў, як мы, і што яшчэ не нарадзіўшыся, мы ўжо прайшлі жорсткае сіта адбору, бо вынішчаліся без разбору тры папярэдніх пакаленьні нашых бацькоў, дзядоў і прадзедаў.

Ніжэй пад могілкамі віднеліся раскладзеныя вялікія вінаграднікі. Мы зьбеглі ўдол. На карычневай, сухой, камяністай зямлі расьлі падвязаныя на шпалеры вінаградныя лозы, а на іх віселі сьпелыя гронкі зялёна-шызага вінаграду. Мы паздымалі майкі і нарвалі ў іх, няхай нам даруе тутэйшы калгас, перасьпелых ужо вінаградных гронак. Вінаградзіны былі цёплыя і мелі п'янкі салодкі водар. Вінаград — дзіця лазы і сонца, блаславёны Богам, ты маеш сонечны смак, а калі дарасьлееш, пераўвасабляешся ў віно. Мы елі тады яго кілаграмамі, і нам усё было мала і мала. Сіняе мора, мора зеленкаватае, чорнае і празрыстае, няўлоўнае ў колеры, як беларускае неба, для нас, беларускіх хлапцоў, звыклых да зялёных лясоў і жоўтых палёў, было адным вялікім дзівам, якое зьмяніла звыклы сьвет. Мора ўяўлялася мне адбіткам перакуленага неба, а, можа, наадварот — неба было адбіткам гэтай вечна рухомай істоты, якая жыла сваім жыцьцём. Мора, як прыгожая жанчына, дазваляла нам любавацца сабой.

Аднойчы мы схавалі намёт ды іншыя транты ў гушчары кустоўя і паехалі ў Ялту. Хто быў у Сімферопалі і дабіраўся ў Ялту, памятае гэты дзіўны тралейбусны маршрут, некалькі дзясяткаў кіламетраў на тралейбусе, праз Алушту і Гурзуф, усё вышэй і вышэй, на Ангарскі перавал, дзе ўжо закладае вушы, а для нас, палешукоў, звыклых да роўных, як стол краявідаў, ужо так высока, што аж займае дых, а затым у дол, каля Масандры, да старажытнай ялцінскай бухты, у якой амфітэатрам раскінулася невялікая Ялта, надзвычайна прыгожы горад. Быўшы ў Крыме, мы проста не маглі не пабываць у Максіма Багдановіча.

Мы шукалі магілу Максіма напачатку самастойна, не знайшлі, затым распыталіся ў нейкага дзядзькі, які працаваў там, ён ведаў, дзе пахаваны Максім, і як арыеньцір указаў нам магілкі сясьцёр Антона Чэхава, да якіх вялі ўказальнікі і помнік пісьменьні-

ку Бірукову. Хоць пра такога пісьменьніка мы і ня ведалі, але ягоны надмагільны помнік, сапраўды, быў бачны здалёк.

На магіле ў Максіма стаяла шэрая ад часу стэла, выраблена з пяшчаніку. Мы збольшага прыбралі магілку, зграблі лісьце, паадкалупвалі з помніка зялёныя бляшкі лішаёў. Стэла была невялікай, але выразнай. Як пісаў Максім Багдановіч пра сябе пры жыцьці: «Я непрыкметны, шэры чалавек», вось такі яму і помнік паставілі. Напачатку помнік быў, мабыць, сьветла-шэрага ці жаўтаватага колеру, а потым ён набыў шэры цёмны колер зямлі. Нас уразіла гэтая прастата і беднасьць, гэты мінімалізм, убогасьць месца пахаваньня беларускага генія. Максім Багдановіч быў для нас паэтам нумар адзін. І ён жа памёр, страшэнна таленавіты, будучы не на багата старэйшым за нас. Скрозь на могілках стаялі цёмна-зялёныя стромкія кіпарысы. Яны былі як сімвалы жалобы, як вечныя ахоўнікі на гэтым могілках. Едрусь напісаў пра нашыя пошукі зямнога прыстанішча Максіма верш:

Не да магіл Бірукова і Чэхава,
а да тваёй
сіратліва-сьціплай
прыехалі мы сюды...
Прывіталіся.
Беларускіх рук сьляды —
кветкі зь лета
захаваліся...

*(На могілках у Ялце)*

Пасьля паездкі ў Крым Едрусь напісаў яшчэ некалькі вершаў пра нашую вандроўку, пра Максіма Багдановіча, але яны не ўвайшлі ні ў першы ягоны зборнік, ні ў нядаўна выдадзены том выбраных вершаў «Сьвятая ноч». Мабыць, ён палічыў іх нясьпелымі і недасканалымі. Але яшчэ хоць адзін зь іх я працытую:

М.Багдановічу

*Невыплаканая скрипка*
*В красный легла футляр.*

*А.Вознесенский*

Крымскае неба навісла
Просіньню на кіпарысы,
Шум мора.
Яшчэ ўчора
Алеі адчувалі яго крокі.
Воблакі
Плылі над яго галавой.
Імгненьне стой.
Свой лёс знаў сам.
Нам — гора.
Яшчэ ўчора —
жывы пясьняр...
Сёньня:
Нявыплаканая скрыпка
У чырвоны лягла футляр.

Вось так мы разам вучыліся, адпачывалі, рэпетавалі і зрэдку выступалі 82-гі і 83-ці гады.





Быў у нас і выступ ва ўнівэрсітэцкай зале. Гэта быў даволі вялікі зборны канцэрт. Мы мелі адыграць там тры кампазіцыі. Адная справа грымець і гарлаць у сваёй каморы, іншая — на сцэне паказаць вынік нашых рэпетыцыяў.

Згралі мы, як на маю памяць, слабенька. Самі былі вінаватымі, бо дагэтуль аніразу не рэпеталі ў вялікай зале. Да ўсяго, за пультам, які рэгуляваў зладжанасьць і якасьць гучаньня нашых электрагітараў і мікрафонаў, сядзеў хлопец, які ніколі з намі раней не працаваў і быў зусім не зацікаўлены ў нашым выступе...

І вось мы граем, сьпяваем, мы зь Едрусем выйшлі ў нашых кашулях-вышыванках, а я з жахам ня чую гуку гітараў ў вялікай праcторнай зале, мне здаецца, што мы вывяргаем нейкую какафонію незьвязаных гукаў. Я азіраюся на хлапцоў і бачу, што і яны разгубленыя і прыгаломшаныя, але ж не спыніцца, нічога не паправіць і не пачаць наноў. У мяне было адчуваньне поўнага правалу. Галоўным жаданьнем было дайграць хоць бы як і выляцець са сцэны. І толькі на апошняй трэцяй кампазіцыі мы неяк пачулі і інструменты, і сябе, крыху супакоіліся, і яна атрымалася больш-меньш зладжанай...

Гэты выступ быў як вядро халоднай вады на нашыя галовы. Мы ўжо мелі шэсьць-сем уласных кампазіцыяў, кожны з нас падцягнуўся ў граньні на сваіх інструментах, няблага гучалі і рытм-гітара, і бас-гітара, і бубны, а вось захапляюча шчымлівай сола-гітары, якая б забірала на сябе ўвагу, вяла, дзе патрэбна, мелодыю, разбаўляла, дзе неабходна, варыяцыямі і прыгожымі мастацкімі ўстаўкамі асноўны рытм і канву кампазіцыяў, ужо ня кажучы пра імправізацыі, гэтага ў нас не было і нават не вымалёўвалася.

Мы вырашылі падмацаваць адсутнасьць добрай сола-гітары электраарганам і павесілі ў навучальным корпусе на дошцы аб'яваў абвестку, дзе запрашалі клавішніка з музычнай адукацыяй далучыцца да «Баскаў». Абвестка правісела некалькі дзён, ахвочага не знайшлося. На свабодзе, перад пасадкаю, я перабіраў свае старыя паперы і сярод іх знайшоў гэтую абвестку, адную зь нямногіх памятак, якая захавалася пра існаваньне «Баскаў». Ляжыць у мяне яшчэ камплект струнаў для бас-гітары, падараваны мне на дзень нараджэньня «Баскамі» зь віншавальным подпісам ды пару аматарскіх здымкаў, на якіх мы стаім з гітарамі на ганку клуба ў Стаўбуне, хіба што і ўсё.

Новага музыку-арганіста мы не знайшлі, і гэтым пазначыўся надыход творчага крызісу. Тым ня меньш, мы працягвалі граць і рэпетаваць у старым складзе.

На пятым курсе Едрусь ажаніўся. За жонку ён ўзяў сваю аднакласьніцу, дзяўчыну з суседняй вёскі, якая таксама вучылася на нашым факультэце, але на рускім аддзяленьні, Натальлю Карнеенку. Некаторыя лекцыі чыталіся для ўсіх філолагаў, «рускіх» і «бе-

ларусаў», таму мы часта сядзелі ў вялікіх аўдыторыях усім беларуска-рускім кагалам. Натальля была адна з самых прыгожых філалагіняў і першым каханьнем Едруся. У іх было каханьне яшчэ ў школе, юнацкае захапленьне, ці, больш дакладна, хутчэй гэта была ўзаемная сімпатыя і зацікаўленасьць адно ў адным. Тут, ва ўнівэрсітэце, каханьне між імі ўспыхнула з новай сілай і горача запалала. На пятым курсе Едрусь паведаміў, што яны бяруць шлюб. А ён жа быў маім лепшым сябрам! У нечым яны былі вельмі рознымі, а ў нечым вельмі дапаўняльнымі. Бо прайсьці болей за трыццаць гадоў разам па жыцьці — гэта ня ў лаўку па хлеб схадзіць.



*Эдуард Акулін з жонкай Натальляй.*

*Гомель. 1984 г.*

На іхнім вясельлі я быў у Едруся за дружку, за шафера. Інакш і быць не магло. Вясельле было студэнцкім. Мы выкуплялі нявесту ў яе сябровак у інтэрнаце, сыпалі дробязь і металічныя рублі на падлогу ў студэнцкім пакоі. Жонка Едруся Натальля, дарэчы, была на тым пасьпяховым выступе «Баскаў» у Вялікіх Нямках. Яна прыходзіла на танцы з сваімі сяброўкамі. Можа, слава гэтага выступу, якая зьзяла тады над нашымі галовамі ў Нямках, а асабліва над галавой Едруся, неяк і паспрыяла іхняму шлюбу. А чым мы маглі яшчэ прывабіць сваіх дзяўчынаў апроч сумніўных творчых перспэктываў ды вось такой, хуткабежнай музычнай славы, якая разьвейвалася як туман.

Урэшце, гэта быў толькі пачатак, пачатак нашага жыцьця, пачатак нашых здольнасьцяў, якія, мы чацьвёра верылі, яшчэ вырастуць, і ўвасобяцца, і зайграюць яркім сьвятлом на ўсю Беларусь. Мы самаўпэўнена верылі, што мы будзем адныя з арыгінальнейшых і таленавіцейшых. Мы былі безаглядна перакананыя, што ўсё найлепшае ў нашым жыцьці яшчэ наперадзе. Мы імкнуліся да неакрэсьлена высокіх мэтаў, не зусім разумеючы, не задумваючыся над тым, што шлях да гэтай мэты і ёсьць самім нашым жыцьцём.

Нябачныя палескія чараўніцы-паркі сучылі з сувою жыцьця ніткі нашых лёсаў. Выглядала так, што пасьля заканчэньня вучобы «Баскі» мусілі разьехацца ў розныя канцы Гомельшчыны. Мы пралічвалі ўсе магчымыя варыянты для захаваньня нашага гурта, і нічога не атрымлівалася. Бо тады трэба было б разабрацца з разьмеркаваньнем. Трэба было прасіцца і знайсьці працу ў Гомелі. Трэба было ўсім нам чатыром адкасіць ад войска. І рабіць усё гэта адначасова. Гэта быў толькі



*Вясельле Эдуарда Акуліна.*

*Гомель. 4 лютага 1984 г.*



*На выступе ў Інстытуце павышэньня кваліфікацыі.*

*Гомель. 2013 г.*



*На выступе ў Княгінінскай СШ.*

*Мядзельшчына. 2010 г.*

відавочны парог праблемаў, створаных тагачасным савецкім жыцьцём. Пераадоленьне іх зусім не забясьпечвала посьпех у творчым лёсе «Баскаў». У нас не было ні сувязяў, ані блату, ані ўплывовых бацькоў. Таму з «Баскамі» даводзілася разьвітацца.

Надышло разьмеркаваньне. Мы разьехаліся па розных раёнах. Я — у самы далёкі, Лельчыцкі, Едрусь — у Рэчыцкі, Толік Кавалёў — у Жлобінскі, Сяргей Скачынскі — у Веткаўскі. Быў 1984-ы год. Усе нашыя раёны, апроч Жлобінскага, неўзабаве былі засыпаныя радыяцыяй. Толіку Кавалёву, мабыць, па «міліцэйскім блаце», ягоны бацька, маёр міліцыі, дапамог у службе ў войску ў менскім міліцэйскім палку, і ён два месяцы праслужыў у чарнобыльскай зоне, штосьці ахоўваў менавіта тады, калі там бушавала радыяцыя. Затым ён вярнуўся ў сваю школу на Жлобіншчыне і працуе там вось ужо амаль трыццаць гадоў. У яго ёсьць свая ўдарная ўстаноўка, але я ня ведаю, ці грае ён зараз калі-небудзь.

Сяргей Скачынскі ўсё жыцьцё жыве ў адным з найбольш радыяцыйных раёнаў — Веткаўскім, дзе большасьць вёсак пераселеныя, а хаты разбураныя і закапаныя ў ямах.

Я ж, адпрацаваўшы ў вясковай школе першую чвэрць, паступіў у асьпірантуру Інстытута літаратуры Акадэміі навук і пераехаў жыць у Менск. Неўзабаве туды завочна паступіў і Едрусь. Затым, пасьля асьпірантуры, я стаў дырэктарам Літаратурнага музею Максіма Багдановіча. Шэсць гадоў адпрацаваўшы ў вёсцы, у Менск пераехаў і Едрусь. Затым мы разам адпрацавалі ў музеі восем гадоў.

Так скончылася невялікая гісторыя беларускамоўнага гурта «Баскі». Непрацяглая і някідкая, яна, тым ня менш, моцна паўплывала на нашыя асабістыя лёсы. Едрусь Акулін, адзіны з нас, хто не закінуў музыку. Ён працягвае сьпяваць сам і выдаў некалькі песенных бардаўскіх альбомаў. Зь песьняю Едрусь ідзе па жыцьці, і ягоныя песьні дапаўняюць ягоную паэтычную творчасьць. Едрусь багата выступае: і ў школьных класах, і ў студэнцкіх залах, а раней на мітынгах, дзе яго слухаюць сотні і тысячы людзей. Ён змушае іхнія душы адгукацца на ягоныя лірычныя песьні пра каханьне і пра Беларусь.

Разам з жыцьцём «Баскаў» скончылася мая музычная «кар'ера». Пасьля «Баскаў» я ні разу ня ўзяў у рукі бас-гітару. Зьявіліся іншыя беларускія праекты, якімі я больш-меньш пасьпяхова займаюся ўсё жыцьцё. Але «Баскі» нікуды не сышлі. У маім жыцьці і жыцьці маіх сябрукоў ад іх назаўсёды засталося штосьці важнае ды істотнае. Так што пакуль будзем жыць мы — будуць жыць і «Баскі». Мы проста ня граем. Але «Баскі» — FOREVER!

*Бабруйск, калонія №2*
*20 кастрычніка 2013 г.*




*З сябрам дзяцінства Валодзем Барысавым.*

*Вялікія Нямкі. 1981 г.*

# “НАБЯГАЕ ЯНО...”

Улетку 1983 года, пасьля чацьвёртага курсу, мы зь Едрусем езьдзілі на археалагічныя раскопкі ў Міскі замак. Замак яшчэ не кранала рука рэстаўратара, і ён стаяў з абгарэлай правай і трэснутай левай вежамі, з абваленым усярэдзіне левым палацам, як велічны воін пасьля цяжкай бойкі стагоддзяў. Экскурсіяў амаль не было. Усё было сапраўдным, без сучасных падробак і бетоннай пліткі.

Кіраваў раскопкамі Ігар Чарняўскі. Асноўнай працоўнай сілай на раскопках былі студэнты-гісторыкі з Гародні. Вось тады мы пазнаёміліся з выдатнымі ў будучымі гісторыкамі Генадзем Семенчуком і Андрэем Мяцельскім. Агітавалі іх за беларушчыну, за мову, але й самі літаральна датыкаліся да нашай старой гісторыі, адкопвалі гліняны посуд, кафлю, шкло, зь якога пілі князі і шляхта.

Падчас раскопак мы багата сьпявалі, аблазілі ўвесь мірскі замак, самое мястэчка, каталіцкія, праваслаўныя, татарскія і яўрэйскія могілкі, езьдзілі ў недалёкія Нясьвіж і Наваградак, яшчэ бліжэйшыя Ішкалдзь і Паланэчку, дзе засталіся старадаўнія памяткі нашай гісторыі — замкі, палацы і бажніцы. Адтуль пасьля вечаровых сьпевак прывезьлі мы зь Едрусем народную песьню «Валы» (Валы мае половыя...), песьню Майстроўні, якую мы потым хвацка ва ўвесь голас расьпявалі ва ўніверсітэцкіх аўдыторыях на перапынках паміж парамі.

Я ж езьдзіў на раскопкі ў Мірскі замак за лета перад гэтым, у 82 годзе, дзе мы капалі разам з Вінцуком Вячоркам ды іншымі майстроўцамі. Там Вінцук загітаваў мяне ўвайсьці ў падпольную беларускую арганізацыю, так званы «міктарат», які апроч легальнай культурніцкай работы планаваў і зьдзяйсьняў яшчэ і нелегальную незалежніцкую дзейнасьць. Мы размаўлялі, якім чынам будзем пашыраць свае шэрагі, як шукаць прыхільнікаў беларушчыны, як праводзіць беларускую агітацыю сярод моладзі.

Раскопкі на той час былі такім месцам, куды зьязджалася моладзь з розных гарадоў, розных навучальных установаў, маладзёны, настроеная патрыятычна, прабеларускі. Удзень мы працавалі, па вечарох гаманілі пра сапраўдную гісторыю Беларусі, а самае галоўнае — упэўніваліся, што мы, з розных гарадоў і ўніверсітэтаў, не самотныя, што мы думаем і жывем у адным тоне, на адной хвалі. А тых, хто быў яшчэ «недапечаны», «дапякалі» там жа ж, на месцы. Таму і ў наступным 83-м годзе мы зь Едрусем ехалі на раскопкі, ведаючы куды і дзеля чаго мы едзем.

У выніку нашых раскопак, нашых вандровак па навакольных гарадах і мястэчках Едрусь натхніўся і напісаў быў нізку вершаў па матывах гэтых выцечак.

Вершы «Мірскі замак», «На кургане Адама Міцкевіча», «На могілках» з гэтай нізкі зьявіліся ў першым зборніку *«Лес дзённага асьвятленьня»*. А вершы «Нясьвіжскі замак», «Мір», «Ішкалдзь» «Ля барэльефа Яна Чачота» — у наступным зборніку *«Пяшчота ліўня»*. Барэльеф Яну Чачоту, дарэчы знаходзіцца ў навагрудскім фарным касьцёле Перамяненьня Пана, дзе некалі хрысьцілі Адама Міцкевіча.

Вершы гэтыя прыгожыя, якасныя, як на дваццаць аўтарскіх гадоў, і з адпаведным патрыятычным зьместам.

«Замак Мірскі, ты, як нацыя,
Трапіў у рэанімацыю...»

— гэтак напісаць у 1983 годзе было вельмі і вельмі сьмела. Але так мы меркавалі, гэта было цалкам сугучна нашым думкам, да такіх прыйшлі мы высноваў,назіраючы за тым, што робіцца зь беларускай мовай і культурай у савецкай Беларусі . Вось гэтак мы і ўяўлялі беларусаў у СССР — цяжка хворым народам, на мяжы паміраньня, у «рэанімацыі». Мы ж рыхтавалі сябе на «рэаніматараў».

З гэтай паездкі на раскопкі ў Мір згадваецца і сьмешнае. З намі на раскопках працавала дзяўчына-школьніца зь Міра. Была яна прыгожанькая, чарнявенькая, тоненькая старшакласьніца. Едрусь хацеў пазнаёміцца зь ёй бліжэй, але ж ня толькі ён адзін паклаў на яе вока. Урэшце, цалавалася яна ці не зь Генадзем Семенчуком.

Аднойчы мы надта жадалі паглядзець футбол, а тэлевізара на раскопках не было, дык дамовіліся з гэтай дзяўчынай, што яна пусьціць нас да сябе на прагляд гэтага матчу. Прыйшлі мы да яе ў хату ці не ўчатырох. І мы зь Едрусем былі там. Глядзелі сабе глядзелі тэлевізар, мірна сабе сядзелі, аж пакуль не прыйшла дахаты бабуля гэтай дзяўчыны. Яна неміралюбна і падазрона паставілася да нас, хадзіла, бурчэла штосьці сабе пад нос.

Урэшце набралася сьмеласьці і злосьці і выгнала нас, такіх «жаніхоў», з гэтай хаты з трэскам. Памятаю, як мы вярталіся ў замак і рагаталі. Вось дык паглядзелі футбол...

* * *

У чэрвені 1984 года мы зь Едрусем Акуліным скончылі ўнівэрсітэт. А ў ліпені, зусім нечакана для нас памірае Уладзімір Караткевіч. Тады ён нам уяўляўся клясікам беларускай літаратуры, непараўнальна старэйшым за нас. А зараз ужо і мы дажылі да ягонага веку і я з прыкрасьцю думаю, няўжо сёньняшняя моладзь пагладае зараз на нас як на людзей з іншага стагодзьдзя, якое ўжо беззваротна мінула?

Мы з захапленьнем чыталі ягоныя творы. Уладзімір Караткевіч быў нашым духоўным бацькам, які ўзьняў нашую нацыянальную годнасьць і праз беларускую гісторыю выхаваў у нас беларусаў. Таму ў вершы «Памяці Уладзіміра Караткевіча», напісаным неўзабаве пасьля ягонай сьмерці, Едрусь піша:

«Гэта памяці нашай спраты
хтось нарэшце разрынуць здужаў»...

Так тады скончылася зямное жыцьцё Уладзіміра Сымонавіча Караткевіча, а нашае яшчэ толькі набірала свой бег.

* * *

Верш «Начное возера» падаецца мне адным з найбольш дасканалых і канцэптуальных вершаў Едруся Акуліна. Як я яго памятаю, ён доўга і ўвесь час шукаў вобраз абсалютнай дасканаласьці, у жанчыне, у прыродзе, і ўбачыў яго ў двух лебядзях, якія сьпяць адзін ля аднаго на люстры возера, абвіўшыся шыямі. Белыя лілеі, срэбная поўня дадаюць карціну поўнай ідыліі.

Вобраз прыгожы і ў нечым такі наіўны, народны, як на набіваных кілімах, якія прадаваліся цыганамі і віселі ў кожнай вясковай хаце. Штосьці падобнае маляваў і Язэп Драздовіч. Цяжкае беларускае жыцьцё, увогуле, беспрытульнае жыцьцё чалавечае няспынна штурхае нашыя мары да пошуку райскіх куткоў. У «Начным возеры» Едрусь Акулін намаляваў словамі свой райскі куток.

Акрэсьленасьць цёмных ліній.
Завершанасьць белых лілій.
Срэбнае зерне поўні
лебедзям не зьдзяўбаць...
У пяшчоце, абвіўшы шыі,
яны сьпяць.





* * *

«Акраверш» у зборніку *«Лес дзённага асьвятленьня»* складаецца з шасьці радкоў. Загалоўныя літары радкоў, калі чытаць з гары да долу, складаюць імя: НАТАША. Прысьвечаны ён Наталі Карнеенцы, аднакласніцы, дзяўчыне, зь якой Едрусь Акулін сябраваў, якую кахаў і зь якой ён ажаніўся. Вясельле ў іх было ў 1984 годзе. Мы тады вучыліся на пятым курсе і я быў у Едруся за дружку. Вобраз Наталі, жонкі, будзе яшчэ неаднойчы сустракацца ў вершах Едруся. Калі я пісаў «Сьцягу паэта», я наўмысна прапусьціў гэтую відавочную тэму ўзаемінаў Паэта і Жонкі. Дзеля далікатнасьці, бо патлумачыць чаму паэт напісаў такі радок, чаму выказаў такое пачуцьцё, і што гэта — праўда ці ўява — цяжка. Ніхто лепей за самога паэта не патлумачыць гэтыя вершы.

І нават у гэтым першым выдрукаваным вершы, прысьвечаным свайму першаму каханьню, і, як аказалася, каханьню на ўсё жыцьцё, паэт піша:

Шумяць лістоў апалых хвалі,
Асуджана па іх іду я.

Чаму: асуджана? Ці такое моцнае было гэтае юнацкае каханьне? Ці ён ужо тады прадчуваў іхні доўгі сумесны шлях? Сваю «асуджанасьць» да яго на ўсё жыцьцё?

Хачу сказаць, што тады, у студэнцкія гады, гэта было сапраўднае каханьне. Вельмі бурлівае і экспрэсіўнае. Едрусь і Наталя то зьбягаліся, то разьбягаліся. То сварыліся, то мірыліся. Мне здаецца, у кожнага зь іх былі ўжо складзеныя цвёрдыя ўяўленьні пра жыцьцё і пра сьвет. Таму спроба даказаць сваю праўду адзін адному сканчалася нічым.

Прычым, перыяды сяброўства ў іх у тыя студэнцкія гады, як я памятаю, былі непрацяглымі, а потым доўгія месяцы яны толькі назіралі адзін за другім, бо вучыліся ў паралельных групах. Часам мне здавалася, што сувязі ўжо паміж імі амаль не было, кожны жыў паасобку і сваімі інтарэсамі ды захапленьнямі, а потым зноўку невядомыя сілы кідалі іх адзін аднаму насустрач у абдымкі. Яны былі як вада і полымя. І таму навіну ад Едруся пра жаніцьбу я ўспрыняў напачатку зь недаверам, а потым хутка зразумеў, што гэта — наканаванасьць, лёс, сапраўды вось гэтая «асуджанасьць». І паэт, любімец дзяўчатак на філфаку, узьвёў сваю жонку на п'едэстал пастаяннай увагі і ўласнага клопату. У вершы «Натальлі» са зборніка *«Крыло анёла»* Едрусь Акулін піша:

Пражылі мы ні мала ні многа:
Першы сын, першы подых завей...
Аб табе мае боль і трывога,
Мая любая, аб табе.

А ў папярэднім зборніку *«Пяшчота лўня»*, у вершы «Жонцы» Едрусь напіша:

Ты звадкі усе і спрэчкі
Забудзь, а ў душы пакінь —
Ня цьмяны пялёстак сьвечкі,
А сьветлы букет вяргінь.

Гэты «сьветлы букет вяргінь» для сваёй каханай дзяўчыны, а потым і жонкі Наталі Едрусь Акулін пранёс праз усё жыцьцё.

* * *

Некаторыя вершы ў паэтычных зборніках Едруся Акуліна зьяўляюцца адначасова і тэкстамі песень. Са зборніка *«Пяшчота ліўня»* — гэта верш «Перад Грунвальдскай бітвай», які часта гучаў як песьня на мітынгах у першай палове 90-х гадоў. Ды і сам верш «Пяшчота ліўня», які даў назву зборніку, таксама быў пакладзены Едрусем Акулінам на музыку і багата разоў быў прасьпяваны.

Гэтыя дзьве тэмы — патрыятычная і лірычная, пра Беларусь і пра каханьне — асноўныя ў песьнях Едруся Акуліна. Сьпяваць пра што-небудзь іншае ён ня хоча...

Такімі песеннымі тэкстамі ёсьць і вершы са зборніка *«Крыло анёла»* — «Міньён памяці» і «На беразе», «Надзея» — вершы пра каханьне. Таксама як і верш «Францішку Багушэвічу». Ён ужо пра Беларусь:

Якая за праўду плата,
Ці можаш, Мацей, сказаць?
А хіба бывае праўда
У краі, дзе душы сьпяць?

Часам Едрусь, калі на ягоных выступах быў я, замяняў у слупках «Мацей» на «Алесь». Тады атрымлівалася, што ён зьвяртаўся да мяне.

Едрусь за ўсе гады выступаў і сьпяваньня даў бясконцую колькасьць канцэртаў, іхні лік ідзе ўжо на тысячы. Неблагія мелодыі, высокай якасьці вершы, якія я не адважваюся назваць, як гэта часта робяць у песьнях, тэкстамі, даюць жаданы вынік. Песьні Едруся Акуліна выклікаюць высокае суперажываньне слухачоў. Паэзія бярэ іх у палон. Я багата разоў слухаў, як сьпявае Едрусь Акулін, і кожны раз адчуваў непераможны эфект паэтычнага песеннага слова на сабе.

* * *

Працуючы разам у музеі Максіма Багдановіча, мы добра ведалі і разумелі, якую працу мы робім. Мы прапагандавалі беларушчыну, мы былі асьветнікамі, мы будзілі ў людзях любоў да беларускага слова. Грошы ў музеі плацілі невялікія, але мы любілі сваю працу і рабілі не за грошы. У мяне ў тыя гады было дакладнае адчуваньне, што я знаходжуся на сваім месцы і займаюся тым, для чаго рыхтаваўся ў студэнцкія і асьпіранцкія гады, тым, чым і павінен быў бы займацца. Едрусь шукаў сябе, праз нейкі час



*У музеі "Ромуліна".*

*Сербія. 2009 г.*



*З жонкай Натальляй*
*на Купальлі ў Строчыцах.*

*1999 г.*




*Эдуард Акулін і Сяргей Законнікаў.*

*Ворша.*
*2009 г.*



*З Алай Петрушкевіч і Леанідам Дранько-Майсюком.*

*Гародня.*
*2014 г.*



*На юбілейнай вечарыне ў Палацы мастацтва.*

*Мінск. 7 студзеня 2013 г.*





пайшоў працаваць адначасова намесьнікам рэдактара ў часопіс «Першацьвет», затым сышоў адтуль. Мне здаецца, лепшага месца для творчасьці і працы чым у філіі музея Максіма Багдановіча «Беларускай хатцы», дзе Едрусь Акулін быў загадчыкам, яму так і не ўдалося знайсьці.

«Беларуская хатка» — унікальная памятка беларускага нацыянальнага жыцьця падчас першай сусьветнай вайны. Там арэндаваў пакоі Зьмітрок Бядуля зь сёстрамі. У яго ў адным з пакойчыкаў некалькі месяцаў у падсуседзях пражыў і Максім Багдановіч, які напісаў там паэму «Страцім лебедзь» і верш «Пагоня». Хатку цудам адваявалі і захавалі, зрабіўшы філію музея Максіма Багдановіча.

Там, у «Беларускай хатцы», на пачатку 90-х праходзіла багата розных беларускіх імпрэзаў, зьбіраўся Сойм Беларускага народнага фронту, праводзілі свае першыя службы беларускія грэка-каталікі. Там ладзіліся паэтычныя вечарыны, там у 90-я гады Едрусем Акуліным было напісана шмат уласных вершаў і песень.

* * *

У 1986 годзе, калі адбылася чарнобыльская катастрофа, я служыў у войску, на Урале. Едрусь з жонкай Наталяй ды сынам Янкам жылі ў вёсцы Дуброва Рэчыцкага раёну. Гэта пра яе напісаў Едрусь Акулін верш «Вёска Дуброва»:

Зялёная, зялёная Дуброва.
Лісток дубовы падае ў Сусьвет...

Я пару разоў прыязджаў да іх у госьці яшчэ перад войскам, а затым і пасьля войска, калі вучыўся ў асьпірантуры ў Менску. Спачатку яны жылі ў старой хатцы каля школы, якую ім выдзелілі як маладым настаўнікам. Хата была без усялякіх умоваў, з печчу, якая дыміла. Мала ў ёй было прыемнага. Праз пару гадоў ім выдзелілі адносна новы цагляны дом, які стаяў проста на ўзьлеску, на краю вёскі. У ім было некалькі пакояў і ў параўнаньні са старой хаткай гэта ўжо была цывілізацыя.

Калі пыхнуў і зачадзіў Чарнобыль, я быў у войску, а Едрусь пісаў мне лісты. Што мяне зьдзівіла, калі я зараз перачытваў іх, дык гэта тое, наколькі дакладна ён адчуваў і ацэньваў небясьпеку катастрофы, ня гледзячы на тое, што дзяржава ўтойвала ад людзей праўдзівую інфармацыю. Людзі ня мелі дакладных зьвестак, але самі здагадваліся, дадумваліся і прыходзілі да слушных высноваў.

1 чэрвеня 1986 года Едрусь Акулін пісаў: «У Віцебску я мала быў, усяго тры дні, а потым мы «ратаваліся» ў Маскве. Жылі там 5 тыдняў. Ссумаваўся ўканец па Радзіме — вяртаўся ў нашыя радыяактыўныя мясьціны са сьлязьмі замілаваньня на збалелай душы».

28 верасьня 1986 года ён піша: «Але ўсё роўна — настрой ня той. Праклятая радыяцыя

дамоклавым мячом вісіць над душою. Непакой не пакідае ні на дзень, і ў першу чаргу за Янку, гэтую бязгрэшнасьць і бязкрыўднасьць. Верагоднасьць захворваньня ў дзетак у 10-15 разоў вышэй чым у нас, у дарослых. У Сьвяцілавічах — вайсковая частка (1500 чалавек) робяць дэзактывацыю мясцовасьці. Я там цяпер часта бываю і на свае вочы бачу зьмены — зьдзіраюць скуру з дарог, валяць дрэвы, капаюць канавы. На зямлі радыяцыя — 1 рэнген. Калі не паменшае за зіму на 40%, будуць высяляць людзей. У Нямках — зацішней, але такое суседства не радуе. У нас у Дуброве ў паветры 0,05 рэнген, на зямлі — 0.15».

І вёска Дуброва, дзе настаўнічаў Едрусь Акулін, і вёска Вялікіяя Нямкі на Веткаўшчыне, на ягонай радзіме, апынуліся зацярушанымі радыёнуклідамі. І ў адной, і ў другой вёсцы быў высокі радыяцыйны фон. Ды іхнім жыхарам, у тым ліку і Едрусю Акуліну ды ягонай сям'і, плацілі сімвалічную надбаўку за жыццё ў забруджанай радыяцыяй зоне, так званыя «грабавыя». Ня столькі тых грошай, капейкі, колькі дакладнае пацьверджаньне таго, што бясьпечна там жыць нельга. А печкі ж у хатах тапіліся дровамі зь лесу. А гароднiна бралася з прысядзібных градак. А малако ж куплялася і пілося ад вясковых кароў...

Вось жа пра гэтыя «грабавыя» верш Едруся «Трыццаць манет за здраду» са зборніка *«Пяшчота ліўня»*:

Трыццаць рублёў — ня болей.
Трыццаць — ня меньш за іх.
Столькі каштуе доля
палешукоў маіх...

Вершы, дзе Едрусь Акулін піша пра Чарнобыльскую катастрофу, «Ад чаго ты самотны, бусел», «Дым Айчыны», «Журавіны бяруць жанчыны», «Зона адчужэньня» ды іншыя — гэта не тэарэтычнае ўсьведамленьне аддалёнага гора. Гэтая «бяда — як разьлітая ртуць», якая пракацілася па ягоных родных мясьцінах, па ўласным жыцьці, па штодзённым побыце сябе, сям'і, сваіх родных ды земякоў. Чарнобыльскія вершы Едруся Акуліна — пра нябачную небясьпеку, якая зьявілася нечакана — ды на ўсё жыцьцё, на пакаленьні, і зараз была і ёсьць разам з намі кожную хвіліну.

* * *

Сярод твораў Едруся Акуліна заўважаюцца вершы, напісаныя ў класічных формах. Асабліва багата іх ёсьць у зборніку *«Крыло анёла»*. Туюгі, віланэль, рытурнэлі, элегія, канцона, газэля, ронда, трыялет ды іншыя. І гэта недарэмна. Захапленьне класічнымі формамі верша прыйшло да нас хіба што ад паэзіі Максіма Багдановіча. Ягоныя санеты, трыялеты, тэрцыны, ронда ў студэнцкія гады мы вучылі на памяць і бясконца цытавалі паўсюль, дзе толькі маглі. Асабліва часта чытаўся на розныя лады трыялет «Мне доў-



*З малодшым братам Алегам і яго сям'ёй.*

*Гомель. 2014 г.*



*Зь Леанідам Дранько-Майсюком і Людмілай Несьцяровіч.*

*Вязынка. 2007 г.*

гае растаньне з вамі чарней ад вашых чорных кос». Санеты Янкі Купалы запомніліся ня так, можа таму, што іх зацёрлі ў навучальнай праграме ды ягоных зборніках іншымі, больш актуальнымі з пункту погляду сацыялістычнага рэалізму вершамі.

Пад уплывам багдановіцкага санету быў і наш сябра Анатоль Сыс. На другім курсе ён напісаў курсавую працу «Рытміка М. Багдановіча («Вянок»)». Адзін сказ з гэтай працы стаў крылатым выразам сярод нас. «У чым жа соль санета? Лепш Багдановіча наконт гэтага не сказаў ніхто» — пісаў у курсавой працы Анатоль Сыс. «Толік, дык у чым жа соль санету?» — сьмеючыся пытаўся хто-небудзь з нас. «Ды пайшлі вы!» — рагатаў у адказ Анатоль. У 1979 годзе Анатоль Сыс напісаў вянок санетаў «Лірычны маналог душы», дадаўшы да назвы падзагаловак: «Са спадчыны Максіма». Былі ў яго і асобныя санеты і трыялеты. Далей у класічную форматворчасьць Анатоль Сыс не пайшоў. Хаця шраг ягоных вершаў менскага перыяду жыцьця



*На вечарыне-прэзентацыі кнігі Анатоля Сыса “Лён”.*

*“Беларуская хатка”. 2006 г.*



*Зь Генадзем Бураўкіным, Міхасём Скоблам, Алесем Бакачом і Іванам Чыгрынам.*

*“Беларуская хатка”. 1995 г.*



*З Анатолем Сысом, Алесем Бяляцкім і Уладзімірам Някляевым.*

*Гомель. 1981 г.*

напісаныя на ўзор старых беларускіх замоваў.

Я ж у студэнцкія гады, урэшце як і зараз, быў у захапленьні ад цьвёрдых класічных формаў і вечна падсоўваў Едрусю пачытаць што-небудзь такое з рускай паэзіі. Асабліва ўражваў мяне, як майстар класічнага верша, Валеры Брусаў. Я пераконваў Едруся: пішы! Пішы і ты, калі дадзена табе такое майстэрства валоданьня словам і музычны слых.

Я ўгаворваў яго скласьці такі своеасаблівы падручнік класічнага вершаскладаньня, дзе б на кожную вядомую класічную форму, быў бы адмыслова напісаны верш. І з калоніі пісаў яму пра гэта. Падручніка Едрусь не напісаў, сказаў, што ўжо прафесар Усевалад Рагойша ўклаў такі зь вершаў розных беларускіх паэтаў. А вось мне шкада. Шкада, бо я перакананы, што ў Едруся гэта атрымалася б ці не найлепш.

* * *

Верш «Зайздрасьць» прысьвечаны могілкам у вёсцы Гарошкаў, радзіме Анатоля Сыса:

Ах, якія могілкі прыгожыя
На радзіме Толіка Сыса!
Дзе бярозай стала ледзь ня кожная,
У Дняпро схаваная душа...

З пачатку дзевяностых Анатоль усё болей і болей часу імкнуўся праводзіць у вёсцы. На зіму прыязджаў у Менск, а на лета зьязджаў у Гарошкаў. Ня ведаю, калі Едрусь Акулін упершыню пабываў у Гарошкаве, але засаджаныя высокімі стройнымі бярозамі гарошкаўскія могілкі ён не прапусьціў.

Першы ж свой зборнік паэт назваў «Лес дзённага асьвятленьня» — паэтычны вобраз бярозавага гаю, які рос (а можа і зараз расьце) непадалёк ад радзіннай вёскі Едруся Акуліна Вялікія Нямкі. Вось так усё у гэтым вершы зьвязалася ў адное — і захапленьне бярозавым гаем, і сувязь з роднымі і крэўнымі, якія адышлі ў нябыт, і шчымлівая любоў да роднай зямлі.

На жаль, верш апынуўся ў нечым прарочым. Пройдзе яшчэ зь дзесяць гадоў і на гэтых могілках будзе пахаваны побач са сваімі бацькамі і роднымі Анатоль Сыс. Добра, што месца там сапраўды прыгожае, але балюча, што так рана. Праз дзесяць гадоў, у кастрычніку 2015-га году, вось ужо каля ягонай магілы, аднафамілец і паэт Сяржук Сыс, бацькоўская хата якога ў суседняй Засьпе, прачытае:

На гары — бярозы на вятры,
На гары — вясковая гамонка...

Падаецца, што гэтым могілкам будзе прысьвечаны яшчэ не адзін верш.



*Ля магілы Анатоля Сыса зь яго ным братам Віктарам. Гарошкаў.*

*2007 г.*



*Ля помніка Анатлю Сысу.*

*Гарошкаў. 2012 г.*




*Ля магіл Івана і Антона Луцкевічаў.*

*Вільня. 2011 г.*

* * *

У 1995 годзе прайшоў рэферэндум супраць бел-чырвона-белага сьцягу, герба Пагоня, супраць дзяржаўнасьці беларускай мовы. Новая ўлада мяла па-новаму, больш жорстка і нахабна. Пад націскам уладаў большасьць беларусаў па розных прычынах падтрымала вяртаньне да «савецкай Беларусі».

Чаму так адбылося? Было тут і расчараваньне ў зьменах, якія не прыносілі паляпшэньня жыцьця людзей, і супрацьбеларуская прапаганда, якая падтрымлівалася антыбеларускімі ўладамі на дзяржаўным узроўні, і адсутнасьць нацыянальнай гістарычнай памяці пасьля камуністычнага панаваньня. Камуністы пасьпелі зрабіць зь беларусаў ці ня самы савецкі народ. Кола гісторыі адкацілася назад. Пасьля некалькіх гадоў уздыму і разьвіцьця беларушчыны пайшоў імклівы адкат.

Мы гэта ўспрымалі як асабістую трагедыю. Здавалася, што валіцца ўсё, у што верылі яшчэ ад самага студэнцтва і што намагаліся адрадзіць і пабудаваць усё сваё сьвядомае жыцьцё. Вось таму і напісаў Едрусь такія радкі:

О Беларусь — абліччам Божай Маці —
Сыноў сваіх, што прадалі Агмень,
Дзе моц бярэш, каб гнеўна не праклясьці,
Дзе сьлёз бярэш, каб бласлаўляць з калень.

У цяню ад чарнобыльскага крыжа
іудаў крык параніў цішыню...
Даруй, Радзіма, слова «ненавіджу»,
Што сёньня прамаўляю ўпершыню.

* * *

Мабыць ёсьць нейкая заканамернасьць, што ў сапраўдных творцаў заўсёды яркія, індывідуальныя характары, інакш бы яны ня спраўдзіліся як творцы. Гэта як дадзенае, як сьцігмат ці крыж, якія яны цягнуць на працягу жыцьця. Едрусь Акулін асабліва не раскрывае рысы свайго характару ў вершах. Але вось гэтае чатырохрадкоўе зь верша «Спаліць масты» са зборніку *«Радно»* менавіта пра гэта:

Палю масты, але з адной умовай,
Як ведаю, што болей не вярнуся...
Палю датла, а толькі на палову —
Наўрад ці і з гадамі навучуся.

У «Радне» ёсьць яшчэ адзін верш — «Экспрэсія», які таксама дадае штосьці вельмі істотнае для разуменьня характару Эдуарда Акуліна. Можа быць самае істотнае, што ён вызначыў для сябе ў гэтым жыцьці як маральную каштоўнасьць:

З самага дна залатых глыбінь
выніклі раптам словы:
— Не падмані, не ўкрадзі, не забі...
Тры. І зь мяне дастаткова.

Едрусь Акулін не бярэ на сябе багата абяцаньняў. Ён імкнецца ў жыцьці трымацца хоць бы за тры. І калі трэцяя каштоўнасьць мала ў каго выклікае пярэчаньняў, прынамсі сам забойцам наўрад ці хто хоча быць, дык першыя дзьве — вох якія нялёгкія да выкананьня для большасьці людзей. За тое, каб мець гэтыя каштоўнасьці пры сабе, часам паэту прыходзілася дорага плаціць...

* * *

Пісаць пра вершы, прысьвечаныя табе, не зусім ёмка, і я зусім не хачу выхваляцца. Так склалася, што Анатоль Сыс прысьвяціў адзін са сваіх вершаў «сябрам аднакашнікам Алесю Бяляцкаму і Едрусю Акуліну». І гэты верш, і гэтае прысьвячэньне ўпершыню я прачытаў ужо пасьля сьмерці Анатоля Сыса. Некалькі вершаў Едрусь Акулін прысьвяціў Анатолю Сысу і мне, а гэтую кніжку я прысьвячаю Едрусю Акуліну і Анатолю Сысу. Прысьвячэньне гэтае, як і іншыя, зьявілася не па замове і сьведчаць хутчэй пра тое, што мы адзін для аднаго штосьці значылі і яшчэ значым у гэтым жыцьці.

Верш «Пілігрым» Едруся Акуліна са зборніка *«Радно»* мае прысьвячэньне *Алесю Бяляцкаму*.

У выбраным Едруся Акуліна, у *«Сьвятой ночы»*, ёсьць яшчэ адзін верш «ахвяраваны» мне: «Лён». Перачытваю зараз гэтыя вершы і спрабую знайсьці тое, што падштурхнула Едруся зрабіць такое прысьвячэньне.

У «Пілігрыме» Едрусь Акулін спрабуе прадказаць свой лёс, што яму мроіцца і бачыцца там, наперадзе. І ёсьць ў яго прадчуваньне сур'ёзных выпрабаваньняў і ўласных пакутаў за Беларусь:

Раскрэсы маёй Беларусі
я ў рукі вазьму заміж крыжа,
і рушу насустрач Галгофе...

Верш напісаны ад ягонага імя і пра сябе, але вось чамусьці прысьвяціў ён яго мне, у нейкім сэньсе прадказаўшы і мой лёс. Сур'ёзныя выпрабаваньні, ня самыя сур'ёзныя, але, усё ж тры гады турмы чакалі мяне наперадзе. Верш называецца «Пілігрым». І хоць люблю я ў жыцьці быць у шумлівых і вясёлых кампаніях, усё ж кожны з нас — самотны пілігрым, і пакладаемся мы найперш на самых сябе.

Другі верш — «Лён», у якім апісваецца сон паэта, сустрэча ў сьне з нашым сябрам Анатолем Сысам. Можа быць таму і быў далучаны ў прысьвячэньні да гэтага містычнага верша-сна-сустрэчы і я. Як успамін пра нашыя маладыя студэнцкія гады, багата часу зь якіх мы правялі разам. Анатоля ўжо няма, а мы яшчэ жывем.

Ёсьць яшчэ тры вершы, прысьвечаныя Едрусем мне і напісаныя ў гады маладосьці. Зь першага было ў памяці толькі «крыло анёла». Сапраўды, гэтае выразанае з дрэва крыло вісела над маім студэнцкім ложкам разам зь іншымі сімвалічнымі для мяне прадметамі — падковаю і саматканым ільняным ручніком. Адтуль яно і патрапіла ў верш. А можа быць потым, у 1995 годзе, і ў назву зборніка *«Крыло анёла»*. Едрусь не друкаваў гэты верш і ня мог прыгадаць яго. Перабіраючы зараз ягоныя лісты да мяне і некаторыя рукапісы, я знайшоў гэты верш. Вось жа яшчэ у 1983 годзе Едрусь Акулін пісаў:

Надломленыя лёсы
і жыцьці ў паняверцы.
Балюча невыносна
І толькі вера ў сэрцах.
Ачахлі без Пагоні
Пабегі душ і гоняў.
Гады, стагоддзі — міма...
Як быццам Беларусь
Адкрытая нанова:
Падкова і рушнік,
Анёла скрыдла, мова.

Згадаць Пагоню ў вершы ў 83-м годзе — было і надзвычай сьмела, і ясна паказвала ў які бок ішло нашае грамадзянскае разьвіцьцё. Добра мы ведалі, што такое для Беларусі Пагоня і што такое — Жыве Беларусь! Зь Менску прывозіў я фотастужкі з негатывамі беларускага самвыдату і заходнебеларускіх часопісаў міжваеннай пары і затым па начох раздрукоўваў іх у ваньне . На віленскім часопісе «Шлях моладзі» стаяла графічная выява Пагоні, узятая ў кола. Я выдрукаваў яе на фотапаперы, выразаў, і мы зь Едрусем уштукавалі Пагоню ў папулярныя на той час круглыя пластмасавыя значкі, дзе звычайна месьціліся фотаздымкі вядомых сусьветных музыкаў і рок-гуртоў. Насілі Пагоню мы на адвароце штрыфеляў пінджакоў. Затым Едрусь прапанаваў зьменшыць выяву, і Пагоня была ўштукаваная ў меньшыя па памеры значкі, так было прыгажэй. Пагоня заўсёды была з намі. Можна сабе толькі ўявіць, што было б, калі б у той час гэты верш патрапіў у лапы КДБ.

Верш «Сябру» ў зборніку *«Пяшчота ліўня»*, таксама быў прысьвечаны мне. У наступным зборніку вершаў Едруся *«Крыло анёла»* гэты самы верш мае прысьвячэньне: «А.Б.». Ёсьць у яго і канкрэтная прывязка. У 1985 годзе ўвесну з асьпірантуры Інстытута літаратуры акадэміі навук мяне забіраюць у войска. У гэты час Едрусь настаўнічае ў вёсцы Дуброва, для мяне ж пачынаецца вайсковая высылка зь Беларусі на Урал на паўтары гады, ці ня самы тужлівы перыяд у маім жыцьці. Гэты новы жыцьцёвы этап і натхніў Едруся на сьветлы і настальгічны твор.

Яшчэ адзін верш, прысьвечаны Едрусем Акуліным мне, застаўся толькі ў рукапісным сшытку вершаў паэта, які нейкім чынам захаваўся ў мяне. Калі я паказаў яго зараз Едрусю, дык той сам зьдзівіўся, бо зусім ня памятаў пра яго. Вось жа ён, верш, напісаны Едрусем Акуліным у 19 гадоў:

*А.В.Бяляцкаму*

Пакідаючы не шкадуюць,
пакідаючых забываюць,
пакідаючы ахвяруюць
усім што ёсьць
і чаго ня маюць.
Пакідаючы не даруюць,
прарастае аднойчы сьлед.
Пакідаючы не шкадую
ні жыцьцё,
ні халодны сьвет.

*24.08.82 г.*

36 гадоў мы ідзём па жыцьці то разам, то аддаляючыся, то набліжаючыся. І гэтыя вершы з прысьвячэньнямі — вехі на нашых жыцьцёвых шляхах.

* * *

Верш Эдуарда Акуліна «Яно» са зборніка *«Радно»* прысьвечаны Максіму Багдановічу. Чаму ён так называецца? Ёсьць у Максіма Багдановіча верш «Набягае яно». Дзіўны твор і з пэўным сакрэтам. Пачынаецца ён як містычны твор, напоўнены ўнутранымі страхамі і таямніцамі:

Набягае яно
Вечарамі, начамі,
Адчыняе вакно
І шамрэе кустамі.

А затым у наступных двух чатырохрадкоўях паэт нечакана пераключаецца на звычайны любоўны сюжэт:

І гавора адну
Старадаўнюю казку —
Аб любоў і вясну
І жаночую ласку.

прычым трэці слупок напісаны яшчэ да ўсяго ў народным стылі :

Сэрца сьніць аб красу —
Аб сьлядочак дзявочы,
Залатую касу,
Сіняватыя вочы.

А вось у апошнім чатырохрадкоўі нечакана ізноў зьяўляецца Яно, закальцоўваючы містычны сюжэт:

Як забудуся сном
Ў сіняватыя ночы, —
Прылятаеш ты ў дом,
Пазіраеш у вочы...

Для мяне гэты твор як бы складзены з двух выпадкова зьвязаных вершаў. Відавочна, што гэтыя таямнічыя «сіняватыя ночы» зусім не такія, як тыя дэталёва прамаляваныя «сіняватыя вочы». Хаця можа быць праз злучэньне рэальнага і містычнага Максім Багдановіч хацеў перадаць тое, што містыка знаходзіцца зусім побач з кожным чалавекам і з рэальным жыцьцём.



Едрусь Акулін таксама пераасэнсаваў гэтае багдановіцкае Яно:

Я помню, што гэта ўжо калісь было.
Каляды, Завейная шчырасьць.
Сумёт за балоньнем — узьнятым крылом
Луг-лебедзя, гнанага ў вырай.

...

І раптам зь нябыту ўзьнікла Яно
паўночнай парой сяродзім'я.
Валошка, што ўмерзла ў ваконнае шкло —
Пагляд твой расстайны, Максіме.

«Яно» ў Едруся Акуліна — ці ня дух Максіма, які прысутнічае марозным узорам-валошкаю на зімовай ваконнай шыбе. Дзе ж Едрусь мог убачыць-уявіць гэты «расстайны пагляд» Максіма Багдановіча? Штосьці мне падказвае, што — у «Беларускай хатцы». Дзе ж яшчэ?..

* * *

Напачатку 90-х гадоў дыскутавалася ў розных колах магчымасьць перавезьці парэшткі Максіма Багдановіча зь Ялты ў Менск. Хтосьці выступаў — за, а нехта — супраць. Мы, працаўнікі музея Максіма Багдановіча багата разоў абмяркоўвалі гэтую ідэю і з розных прычынаў былі ад яе не ў захапленьні. Аргументы былі розныя: ці не зсунуліся горныя пароды пасьля 8-бальнага землятрусу, які адбыўся ў Ялце ў верасьні 1927 году, і ці дакладна Максім ляжыць там, дзе стаіць помнік на ягонай магіле, ці адпавядае гэта праваслаўным звычаям, ці не разбурыць звычайная эксгумацыя жыцьцёвую легенду паэта, якая мела такі трагічны і ў нечым кранальны, прыгожы канец.

Мяне ж найболей турбавала атмасьфера, якая была на той час у Беларусі. З аднаго боку радаваў і захапляў шырокі нацыянальны ўздым, у якім і мы тады бралі ўдзел. Вярталася зь нябыту тая мара-Беларусь, пра якую некалі пісаў Максім Багдановіч. З другога боку, нікога зь дзяржаўных установаў, па вялікім рахунку, пытаньне перавозу парэштакўаў вялікага паэта, апроч міністэрства культуры, не турбавала. Я хваляваўся, што гэтая вялікая для Беларусі справа будзе змазаная, праведзеная дзеля птушачкі і не атрымае адпаведнага рэзанансу ў грамадскай сьвядомасьці. Рана было яшчэ перавозіць Максіма ў Беларусь. Вось жа тады я выступаў супраць перапахаваньня Максіма Багдановіча на радзіме.

Затым палітычная сітуацыя ў Беларусі зьмянілася. Да ўлады прыйшоў чалавек, для якога беларуская культура амаль не існавала. Ён выкарыстаў давер народу да сябе і адмовіўся ад нацыянальнай асновы ў разьвіцьці краіны і замацаваў свой разбуральны трыумф ганебнымі рэферэндумамі.

Едрусь Акулін вобразна пераасэнсаваў гэта і пераплавіў калізію пераносу праха Мак-

сіма Багдановіча ў вершы «Максім, не вяртайся...», абвастрыўшы тую праблему, якая калісьці турбавала нас:

Ад хросных пакутаў, ад зьдзеку і гвалту,
Як Нёман спрадвечны, зьмялеў радавод...
Максім, не вяртайся з далёкае Ялты —
Цябе не пазнае тутэйшы народ.

Бо й сёньня сьляпы ён,
зь нішчымнай душою,
Як колісь, калі ты пра гэта казаў...
Яму не патрэбны ні слава Пагоні,
Ні бел-чырван-белы крывіцкі штандар....

Цяпер разумею Чарнобыля кару...
Хоць вый ваўкалакам, хоць каняй крычы —
Валошку тваю, Беларусь — нашу мару,
Вось-вось янычарскія скосяць мячы...

Максім Багдановіч напісаў верш «Пагоня», увязваючы Пагоню з адраджэньнем беларускага народу і беларускасьці, у той час як Пагоню сьцягнулі пад'ёмным кранам зь Вярхоўнага Савету, садралі яе з вайсковых і міліцэйскіх кукардаў, вырвалі з сэрца беларусаў, замяніўшы на постсавецкі жалобны вянок.

Дык куды ж тут вяртацца Максіму. Рана...

* * *

Пра тое ж фактычна напісаў Едрусь Акулін у вершы «Ні сьпякотным поўднем лета», прысьвечаны Максіму Багдановічу:

— Сьпі, Страціме, на чужыне
Не дай Бог табе юдолі
Счужанець у роднай гліне.

* * *

У вершы «Згадка» са зборніка *«Радно»* ёсьць такія радкі:

Раптам успомніцца мне Дараганава,
ліпень ахрыплы ад шоргату кос
і туманы, што над Пціччу тарпанамі
нізка ляцяць, не зьбіваючы рос.

Вёска Дараганава ў Асіповіцкім раёне. Адтуль родам беларуская паэтка Галіна Тварановіч. Галіна сваю другую кніжку вершаў назвала *«Верасы Дараганава»*.

Маё сонца бавіць
Кароткую летнюю ноч
Толькі ў верасах
Пад Дараганавым.

Так напісала Галіна пра сваю родную вёску.

Там напачатку 90-х я купіў старую хаціну, давёў яе да ладу. Там я зь сям'ёй праводзіў летнія, а часам і восеньскія месяцы ў 90-х гадах, адпачываў, зьбіраў грыбы. Лес пачынаўся праз пыльную вулічную дарогу, недалёка цякла Пціч. Часам на падворак запаўзалі вужы.

Мы часта прыязджалі сюды сем'ямі, а часам і толькі зь Едрусем , хадзілі ў грыбы, на рыбалку, размаўлялі ўвечары пра літаратуру, пра Беларусь і пра жыццё, проста сьмяяліся і жартавалі. А на памяць пра адну з такіх паездак застаўся верш.

* * *

У вершы «Купаньне» са зборніка *«Радно»* ёсьць такія радкі:

Уплялася ў промні сонцу
Чаратамі Бесядзь.

Бесядзь, рэчка зь мяккай назваю, цячэ адразу за агародамі роднай хаты паэта. Вялікія Нямкі стаяць на высокім беразе Бесядзі. На гомельшчыне, перад упадзеньнем у Сож, Бесядзь шырэйшая і сьмялейшая чым на магілёўшчыне. Бесядзь Едруся Акуліна — гэта ня Бесядзь Алеся Пісьмянкова. Тут, каля Вялікіх Нямкоў яна разыходзіцца на мноства рукавоў і заток. Уся шырокая пойма ракі парэзаная стужкамі вады. Далекавата, на другім беразе ракі, віднеюцца Малыя Нямкі. Увесну ж усе раўчукі і рэчышчы, ямкі і затокі ў пойме зьліваюцца ў адное шырокае люстра вады. Прыгожа...

Едрусь добра плавае і яшчэ лепей нырае. Як ён распавядаў, у дзяцінстве гадзінамі ныраў, лазіў па падводных норах, выпорваў адтуль тлустых ментузоў і кусачых ракаў. «Балада пра затопленае вядро» з гэтага ж зборніка — таксама пра Бесядзь, пра дзяцінства, рыбалку і вір-жарало, які ледзь не забраў жыццё ў падлетка.

Бесядзь была сьведкаю першага юнацкага каханьня паэта. У вершы «Першы пацалунак» з кнігі *«Радно»* Едрусь згадвае:

Каханая, нам — па шаснаццаць год,
І першы пацалунак толькі сьніцца...
На Бесядзі шалее крыгаход,
А ў небе ружавее Мілавіца.

Вершы «Човен», «Сітнік», «Нерат», «Дзябла», «Пачына» з цыклу вершаў «Памяць дзяцінства майго» — усе яны зьвязаныя з вадой, з ракой. Зь Бесяддзю.

Каля Бесядзі прайшло дзяцінства і раньняе юнацтва Едруся Акуліна. Рака дзяцінства. Казачная рака дзяцінства. Неад'емная ягоная частка. Як неба, як сонца, як лес. Яшчэ багата разоў Бесядзь будзе згадвацца ў вершах паэта. Падсушаная меліярацыяй, падтручаная калгаснай хіміяй, пацярушаная ра-

дыяцыяй, Бесядзь, як тая беларуская мова, усё ж не здаецца, мкне наперад, прабіваецца да жыцьця.

* * *

Сялява — так называецца возера ў Крупскім раёне Мінскай вобласьці. Там, у мястэчку Халапенічы нарадзіўся бацька Максіма Багдановіча Адам Багдановіч. Культурніцкі дзяяч Анатоль Белы дабіўся ўстаноўкі помніка-бюста Адаму Багдановічу ў Халапенічах. Музей Максіма Багдановіча, у якім тады мы працавалі, падтрымаў гэтую ініцыятыву лістамі і зваротамі, і ўлады Крупскага раёну пагадзіліся на гэты помнік. У 1998 годзе помнік быў адчынены.

У адзін зь дзевяностых палавінных гадоў, у дзень музея, 18 траўня, мы ў музеі зарэндавалі аўтобус і ўсім калектывам паехалі на Сяляву, на маёўку. Было выдатнае надвор'е і ўжо цёплая вада. Андрэй Аляхновіч, на той час настаўнік гісторыі крупскай школы, правёў нас па касе, схаванай пад вадой, на высьпу, што стаіць пасярод возера. Ён распавёў нам, што тут, на высьпе, застаўся культурны слой пасьля паселішча чалавека ў жалезным веку. У камяках чорнай зямлі знайшліся кавалкі сьпеклага шлаку ад балотнай руды і некалькі гліняных аскепкаў. Мы паплавалі, перакусілі і крыху выпілі, пасьпявалі, як гэта вялося ў музеі, беларускія народныя песьні, і зачараваныя Сялявай паехалі дадому. Затым Едрусь ня раз прыязджаў адпачываць на возера зь сям'ёй. Вось такая перадгісторыя ў верша Едруся Акуліна «Сялява» з гэтага ж зборніка паэзіі *«Радно»*:

У кальчузе са срэбных хваль
амазонкай былое славы
разьлілася за сінедаль
філіялам нябёс — Сялява.



*Зь сябрамі дзяцінства.*
*Вялікія Нямкі. 1980 г.*



*З настаўнікам ронай мовы Пятром Паўлавічам Раманавым.*
*Вялікія Нямкі. 1976 г.*



*З бабуляй Тацьцянйа і прабабуляй Вольгай.*
*Вялікія Нямкі. 1981 г.*

* * *

Верш «Гліняная імша» са зборніка *«Радно»* мае прысьвячэньне: «сьветлай памяці прабабулі Вольгі». Я добра памятаю яе, калі мы, бьўшы студэнтамі, неаднойчы прыязджалі ў госьці на радзіму да Едруся, у Вялікія Нямкі. Дзьве Едрусевыя бабулі — Тацяна і Вольга сустракалі і частавалі нас. І потым, калі Едрусь настаўнічаў у Дуброве ў Рэчыцкім раёне, бабуля Вольга жыла разам зь імі і даглядала зусім малога яшчэ тады сына Едруся і Наталлі Янку. Праўда, невядома хто яшчэ каго даглядаў, ці то трохгадовы Янка бабулю, ці то ледзь не стогадовая і малавідушчая бабуля Вольга свайго прапраўнука.

У маёй памяці яна заўсёды была вельмі старэнькай. Адпачатку, як я яе толькі ўбачыў, ёй было ўжо болей за 80, а потым і болей за 90 гадоў. Маленькая, худзенькая, з тонкімі цёмнымі, высахлымі рукамі, на якіх былі бачныя ўсе сінія жылкі, у акулярах з тоўстым шклом, заўсёды падвязаная хусткаю ў кветкі пад барадой, яна была бадзёрай і настроенай жыць. Заўсёды штосьці імкнулася зрабіць, цікавілася Едрусевымі справамі, распытвала яго пра розныя падзеі, сама штосьці распавядала пра хатнія клопаты. І хоць сілаў было не багата, было такое, што падала і не магла сама ўзьняцца, яна не паддавалася, працягвала і працягвала жыць. Я добра памятаю бабулю Вольгу маленькую, кволень-

кую і расчырванелую пасьля лазьні. Скура на яе твары была як тонкая папіросная папера. Мне аж боязка было за яе.

Яшчэ ў адным вершы «Мая бабуля Волька» ў зборніку *«Крыло»* Едрусь піша пра сваю прабабулю:

Мая бабуля Волька
вяршыць жыцьцёвы стог.
Ня няньчылася доля,
быў літасьцівы Бог...

І ёсьць у гэтым вершы яшчэ такія радкі:

«Бяз страху перад ветрам
лісток жыцьця дрыжыць».

Мне здаецца, вось так дакладна і жыла бабуля Вольга, нічога не баючыся і не пераймаючыся, столькі, колькі Бог адпускае жыткі асобна кожнаму чалавеку.

Мова ў бабулі Вольгі была чысьцюткая, яшчэ тая, беларуская, радзіміцкая, нямкоўская зь 19-га стагоддзя, зь мяккім, нязвыклым для майго вуха «рь» нават у тых словах, дзе ў рускай мове яно цьвёрдае. Не дарэмна ж нямкоўскіх дражнілі гэтак: «Рябая карёва ўсе хряпкі пахряпала». І з напеўнай незабыўнай мелёдыкай.

Я ведаю, як мелядычна размаўлялі-сьпявалі людзі ў вёсцы маёй мамы на Нараўляншчыне. Я яшчэ засьпеў пачуць гэтую танальную адметнасьць беларускай мовы. Але сам ужо не навучыўся, ды й чую, як у вёсках размаўляюць-сьпяваюць усё радзей і радзей.

З дзьвума бабулямі, бабуляй Тацянай і прабабуляй Вольгай, Едрусь і вырас у Вялікіх Нямках, будучы ад малых гадоў адзіным мужчынам у хаце. Бабуля Вольга ўмела шаптаць. Шаптала ў глечык, здымала сполахі, іншыя хваробы. Пра гэта і ёсьць верш «Гліняная імша»:

Я з таемных тваіх маленьняў,
я з глінянай тваёй імшы
скраў пярынку твайго агменю,
скраў сьвятлінку тваёй душы...

Ад пужаньня, уроку-ўлёку...
Беражы мяне, беражы.

* * *

Верш «Батлейка» Едруся Акуліна, здаецца, парыпвае, патрэсквае, бы проста зроблены з дрэва . У дванаццаці радках верша прыметнік «драўляны» паўтараецца аж 22 разы. Такі «драўляны» верш. Чаму так? Але ж каму, як ня Едрусю лепей ведаць батлейку, народны лялечны тэатр. Ён увіхаўся каля яе, паказваў жартаўлівы сьпектакль, складзены са старых беларускіх шкалярскіх інтэрмедыяў наведнікам «Беларускай хаткі» болей за дзесяць гадоў. Вадзіў Мужыка і Бабу, Чорта, Цыгана і Габрэя, Цара Ірада, дзіцятка Ісуса, Анёлаў і Стражнікаў, размаўляў на розныя галасы і сьпяваў. Драўляныя лялькі ў ягоных руках і біліся, і цалаваліся, і таньчылі. Едрусь быў сапраўдным чалавекам-тэатрам, і ўсё гэта вакол драўлянай скрыні старажытнай батлейкі.

Батлейку ў музей Максіма Багдановіча вырабілі дакладна такую, якую некалі ў дзевятнаццатым стагоддзі цягалі батлейшчыкі па шляхох ды гасьцінцах магілёўшчыны, пакуль яна не патрапіла ў этнаграфічны музей Пецярбургу. Два яе ярусы-паверхі перадавалі пабудову сьвету — неба і зямлю, яна зачынялася ваканіцамі, а на гары срабрылася віфліемская зорка. Гітара ў руках у Едруся набліжала старую беларускую батлейку да сучаснасьці.

Калі мы, працаўнікі музея Багдановіча, ў 1991-м годзе адчынялі філію музея «Беларускую хатку», дзе на пераломе 1916-17-х гадоў жыў Максім Багдановіч, мы адразу планавалі, што там мусіць працаваць народны тэатр-батлейка. Найбольшая экскурсійная зала ў Хатцы адразу рабілася і як зала для паказу батлейкі. Батлеечная скрыня стаяла на невялікім узвышшы за нізкай загародкай, упрыгожанай бліскучымі латуннымі шарамі. У зале месьціўся шэраг дубовых разных лаваў, на сьценах віселі таксама разныя вітрыны-аканіцы.

Музей бачыўся нам жывым і прыцягальным цэнтрам беларускай культуры. Першым навуковым супрацоўнікам, экскурсаводам і батлейшчыкам у Хатцы быў Сяржук Вітушка, вядомы лідар легендарнай менскай Талакі. У 1990 годзе Едрусь Акулін пераехаў з рэчыцкай Дубровы ў Менск. На маю прапанову ўзначаліць філію музея Максіма Багдановіча «Беларускую хатку» ён пагадзіўся і амаль год яны прапрацавалі разам. Неўзабаве Сяржук пераехаў на жыхарства ў Вільню. Такім чынам, на адзінаццаць гадоў «Беларуская хатка» атрымала дбайнага гаспадара, выдатнага экскурсавода, штукара-батлейшчыка, арганізатара беларускага культурнага жыцьця і — паэта, які ўдыхнуў у яе душу. «Беларуская хатка» стала сапраўдным беларускім цэнтрам, літаральнай Беларускай хатаю. У гэтым цэнтры было некалькі сваіх галоўных вузлоў, адным зь якіх і была батлейка.

Я багата разоў глядзеў батлейку, якую паказваў Едрусь Акулін. І кожны раз гэта было весела і цікава, мудра і саркастычна, захапляльна і таленавіта. Беларуская мова зьвінела зь ягоных вуснаў на ўсе галасы. Мяне захапляла ягонае ўменьне пераўтварацца і аддаваць усю энергію гледачам. Часам было так, што ён праводзіў па шэсьць экскурсіяў і батлеечных паказаў на дзень. Гэта была сапраўдная культурніцкая самаахвярная праца.

Напачатку 90-х, калі музейшчыкам плацілі зусім мала, я часам жартаваў і казаў Едрусю: «З тваім талентам мы не прападзем. Калі зусім ужо плаціць перастануць і есьці ня будзе чаго, змайструем тады сабе батлейку, такую, як гэтую, і пойдзем вандраваць па Еўропе. Ты будзеш граць, а я лялькі вадзіць. Батлейка пракорміць».

Гэтыя рызыкоўныя мары ня спраўдзіліся. Мы ўжо даўно не працуем у музеі Максіма Багдановіча і батлейку там зараз не паказваюць. Можа яшчэ будуць... Але ў гэтым вершы яна засталася назаўсёды такой, якой была ў Едрусевым ды і ў нашым жыцьці:

Драўляныя крокі, драўляныя крыкі,
Драўляныя ясьлі, драўляны мароз,
Драўляныя сьлёзы драўлянай Марыі,
Драўляная Сьмерць і драўляны Хрыстос...

* * *

Верш «Ці страшна?» са зборніка *«Радно»*, нягледзячы на тое, што мае яснае прысьвячэньне, зьяўляецца для мяне адным з самых няясных вершаў Едруся Акуліна. І тым ня меньш, адным з самых цікавых і прыцягальных, як галаваломка, зразумелая мусі быць толькі самому аўтару. Нелагічныя пытаньні, няясныя адказы, містычны настрой і прараkаваньне сабе ды іншым ціхім голасам. А верш ёсьць, верш, напоўнены паэзіяй, дзе ўжо і сэнс ня так істотны, а нават і словы. Там, як у замове, у прароцтве, існуе штосьці іншае, схаванае ў падтэксьце і думках, якіх не разгадаць нікому:

Ці страшна хадзіць па паветры?
Апоўнач вакно — магілай...
— Калі ты ў хаўрусе зь ветрам,
ня надта, бо маеш крылы...

* * *

Верш «У музеі» са зборніка *«Радно»* Едруся Акуліна пэўна што навеяны ягоным быцьцём у музеі, у «Беларускай хатцы». Едрусь быў загадчыкам філіі, ягоная жонка Наталля — навуковай супрацоўніцай, яны напару вадзілі экскурсіі і паказвалі батлейку, ды наглядчыца-пенсіянерка. Вось і ўвесь штат філіі музея Максіма Багдановіча «Беларуская хатка». Завозныя і людныя дні часам зьмяняліся на ціхія і спакойныя. Бывала так, што часам Едрусь сядзеў у «Беларускай хатцы» адзін. Ня самыя кепскія гадзіны як для паэта. Пра гэта і верш:

Музыка музейнае цішы.
Смутак безнадзейнае душы.
З адзінотай келіх на дваіх...

А вось далей у вершы ідзе пра тое, што можна было адчуць у гэтым будынку ў адзіноце. Я таксама адчуваў гэта некалькі разоў, калі начаваў у Хатцы і вартаваў экспазіцыю, бо адключалася сігналізацыя, а пакінуць Хатку на волю лёсу было страшна:

Дзе такі прывідны навакольны сьвет.
Дзе такі ўяўны незямны паэт.
Дзе ў пакоі цьмяным чуецца ўздых...

Гэта радкі — пра мемарыяльны пакой Максіма Багдановіча. Мы аднавілі яго па ўспамі-



*Эдуард Акулін
ля роднай хаты.*

*Вялікія Нямкі.
2009 г.*

*На рацэ Бесядзі.*

*Вялікія Нямкі.*
*2012 г.*



*З Нілам Гілевічам*
*і Анатолем Вярцінскім.*

*9 студзеня 2015 г.*

нах Зьмітрака Бядулі, які насамрэч і прытуліў Максіма Багдановіча, сам зь сёстрамі здымаючы палову дому. Што аднавілі, а што і даўявілі. Бліскучая Вера Мікута, душа музею, кепска бачыла, але добра ўяўляла як і што магло і павінна было быць. Пакой атрымаўся змрачнаваты, аскетычны, але загадкавы, насычаны прадчуваньнем няяснага гора і ахвярнасьцю, такі, як быццам бы Максім Багдановіч толькі як зьехаў у Ялту, думаючы, што лекавацца, а атрымалася — назусім. Цёмнавішнёвыя масьніцы, занавешанае вакно з чорнай шыбаю, вузкі жалезны ложак, столік зь лекамі і «Вянком», белыя сьцены, адчуваньне холаду і бяды. Тут Максім Багдановіч хварэў, слабеў, тэмпературыў і керхаў крывёй, тут ім былі напісаныя і выбітны «Страцім-лебедзь» і няўміручая «Пагоня».

Вусьцішна было ў адзіноце ў Хатцы. Ня дзіва, што Едрусь Акулін адчуваў прысутнасьць Максіма Багдановіча. Паэты заставаліся сам на сам, у адных сьценах, у адной прасторы, падзеленыя толькі часам, які мае ўласьцівасьць сьціскацца, і больш нікога.

Дзе ўсё ахутаў дзьмухаўцовы дым...

* * *

У 2000 годзе дырэктар друкарні, дзе друкаваўся новы зборнік Едруся Акуліна *«Радно»*, паведаміў яму, што зборнік не аддасьць, грошы верне, а наклад зборніка зьнішчыць. Прычынаю гэтага быў, як сказаў пераляканы дырэктар, верш, прысьвечаны Нілу Гілевічу, «Паэт». Я думаю, што калі б такое Нілу Сымонавічу сказалі гадкоў гэтак дваццаць перад гэтым, ён бы не паверыў. Але жыцьцё зьмяняецца. Тады Ніл Сымонавіч быў членам бюро ЦК камуністычнай партыі Беларусі, першым сакратаром праўленьня Саюза пісьменьнікаў, а потым адбылася трансфармацыя, і народнаму паэту і прафесару стала гідка быць ва ўслужэньні былога малаграматнага раённага лектара таварыства «Веды». Цікава было б паслухаць, што за лекцыі чытаў вяскоўцам у тыя гады гэты лектар.

Такая пастава Ніла Сымонавіча выклікае ў мяне павагу. Усё ж ёсьць нейкі парог, нейкая мяжа, да якой можна гнуць гэтага беларускага інтэлігента, а потым — усё, баста, далей не атрымліваецца. Ні за якія коржыкі. І старыя пісьменьнікі, такія як Янка Брыль, Анатоль Вярцінскі, Васіль Зуёнак, ня кажучы ўжо пра Васіля Быкава, які не паддаваўся і ў горшыя часы, на схіле жыцьця свайго далі ўсім наступнікам такі высакародны прыклад. І нават Іван Навуменка і Іван Шамякін, мае землякі, якія шчыра служылі савецкай уладзе, дабіліся пры ёй высокіх званьняў і ўзнагародаў, не захацелі больш служыць новай антыбеларускай уладзе і ў чаргінцоўскі саюз пісьменьнікаў прынцыпова не пайшлі.

Едрусь Акулін ад падзелу ўладамі Саюза пісьменьнікаў на «свой» і «чужы» ў дабрабыце страціў болей. І меў ня так багата, усяго толькі працу ў «Полымі», але пасьля дык і ўвогуле апынуўся на вольных «сабачых» хлябах. Урэшце ня ён адзін. Каб дазволіць сабе сказаць тое, што ты думаеш, багата хто з творцаў заплаціў уласным дабрабытам. А зь беларусаў — дык амаль усе стаялі перад гэтым выбарам. Для кагосьці кошт уласнай свабоды, унутранай годнасьці быў і ячшэ вышэйшым. Ды ці ацэняць гэта тыя, хто будзе жыць праз паўстагоддзя на гэтай зямлі? Творы, творы — гэта ў лепшым выпадку тое, што застаецца, у выніку, пасьля пісьменьніцкага жыцьця. Але ж добрыя творы ў ідэалагічным ярме ды кайданах самацэнзуры ня пішуцца. У турме, бывае што пішуцца, а вось у ярме — не. А калі і пішацца, дык розная непатрэбшчына. Гісторыя багата разоў пацьвярджала гэта. Таму, перакананы, што як для паэта, для творцы, выбар Едруся Акуліна, зьвязаны з захаваньнем уласнай грамадзянскай пазіцыі, уласнай годнасьці — адзіны слушны выбар.Урэшце пісьменьнікі не жывуць ізаляваныя ад грамадства. Жыцьцё ў праўдзе, у свабодзе, у згодзе з сумленьнем — тыя прыклады, якіх так не хапае беларускаму грамадству, заціснутаму ў абцугі аўтарытарызму, усеагульнага страху і прыстасавальніцтва.



*Зь сябрамі клуба "Беларуская хатка" пасьля вечарыны Дануты Бічэль.*

*1996 г.*



*З Адамам Мальдзісам і Ірынай Багдановіч.*

*"Беларуская хатка". 1996 г.*


*Зь сябрам Паўлам Берагóвічам.*

*Нарач. 2011 г.*



Паэтычны вобраз Янкі Купалы «прадаць душу за чырвонцы» — насамрэч мае вельмі прадметны і дакладны сэнс. Душа сапраўднага паэта не прадаецца.

* * *

Верш «Бяздомніца» са зборніка «Радно» — яшчэ адзін жывы водгук на падзеі, якія адбываліся ў другой палове 90-х гадоў. Данута Бічэль-Загнетава, таксама як і мы, працавала ў музеі Максіма Багдановіча, але ў Гародні. Гарадзенскі музей быў і застаецца самастойным ад менскага музея Максіма Багдановіча і падпарадкоўваецца абласным уладам. Выдатная паэтка Данута Бічэль-Загнетава адчыніла гэты музей, зьбірала экспанаты, зрабіла там экспазіцыю і доўгі час была ягонай і Музаю, і душой. Цяжка было ўявіць гарадзенскі музей без Дануты Бічэль-Загнетавай. Але працаваць ёй было цяжэй чым нам. Русацяпства і беларусафобства ў Гародні было болей чым у Менску. Вайсковыя адстаўнікі, ды іхнія жонкі, дробная партыйная навалач кіравалі і прадстаўлялі ў Гародні, на заходніх рубяжах СССР культуру, так, як яны яе сабе ўяўлялі. Тое самае адбывалася і пасьля 91-га году, калі Беларусь стала незалежнай. Усё беларускае было для іх чужым і брыдкім.

Наш музей у Менску меў рэспубліканскі статус, мы наўпрост падпарадкоўваліся Міністэрству культуры. Міністэрскія чыноўнікі, не скажу, каб былі моцна прасунутымі ў беларушчыне, але й нам працаваць не перашкаджалі. Спрабаваў яшчэ ў 88-м годзе, да майго прыходу ў музей, сакратар гаркаму па ідэалогіі Пятро Краўчанка тупацець на Пагоню, якой, згодна экспазіцыйнаму плану, мусіла быць прысьвечаная ў музеі асобная залка, абвінавачваў музейшчыкаў у прапаганьдзе нацыяналістычных сымбаляў, ды потым прыйшоў ужо 89-ы, я стаў дырэктарам музея, а Пятро Краўчанка супакоіўся.

Гэтаму спрыяла і тое, што я быў амаль шэсьць гадоў дэпутатам менскага гарадскога савета, таму нас амаль не чапалі. Навуковая, экспазіцыйная, экскурсійная, папулярызатарская праца, і вынікі яе ў нас былі на вельмі добрым узроўні. Таму і на ўсё астатняе, на ўсю іншую грамадскую і палітычную працу, якая ішла ў сьценах музея ў Траецкім прадмесьці, у «Беларускай хатцы» і ў Ракуцёўшчыне да пэўнай пары прымружваліся вочы. Такі быў час.

У 94-м у Беларусі адбыліся першыя прэзідэнцкія выбары, у 96-м ужо ва ўсю падзьмула сіверам. Я пратрымаўся ў музеі да 98-га году. Пайшла поўная зачыстка дзяржаўных установаў ад няўгодных. Трэба было ці замаўкаць і прыстасоўвацца, ці сыходзіць самому, калі ня хочаш, каб з ганьбаю звольнілі. Прыстасавальніцтва для мяне было непрымальным, таму з музею я сышоў сам.

На Дануту Бічэль-Загнетаву, чалавека вострага і прамога, гарадзенскае чынавенства

крывіліся, але трывала, ды толькі да яе пенсійнага веку. Як толькі надышла пеньсія, мясцовае начальства з радасьцю адправіла яе туды. Не залічыліся ні яе вядомасьць, ні талент, ні тое, што яна зрабіла для музея і для Гародні. Мы зрабілі ўсё, што маглі, не прыгінаючы галоў, не падладкоўваючыся пад новыя абставіны. А нашыя музеі, куды мы ўклалі добрую частку сваёй душы і жыцьця, паплылі далей, як караблі.

* * *

У зборніку «Радно» ёсьць цыкл вершаў, які называецца «Памяць дзяцінства майго...». Прысьвечаны ён ці то адметным словам, ці то рэчам і зьявам, якія засталіся ў Едруся Акуліна ў памяці зь ягонага дзяцінства. Хачу згадаць адзін з такіх вершаў, які называецца «Прымыльнік». Выдатнае дыялектнае слова, якое вартае, каб увайсьці ў літаратурную мову. Прымыльнік — гэта сенцы ў лазьні, дзе распранаюцца перад тым, як зайсьці ў самую лазьню, дзе адпачываюць ад гарачыні пасьля параньня ў лазьні.

Сяргей Рублеўскі, родам зь лепельшчыны, згадваючы сваё дзяцінства, у адным з сваіх апавядаў назваў «прымыльнік» «прымыйнікам». Таксама добра. Бо там, у гэтых сенцах да лазьні, і мыюцца, і мыляцца. У прымыльніку

Водар венікаў б'е ў галовы,
Запрашае ў раку нырнуць.

І вось гэтая згадка дакладна вяртае мяне да старой лазьні, якая стаяла ў Акуліных за хатай, у канцы агарода. А за агародам быў стромкі спуск да Бесядзі. Лазьня была складзеная немаведама калі і ў яе быў такі ж стары, як яна сама, плецены з лазы прымыльнік. Мы з нашым сябрам Сяргеем Скачынскім прыязджалі да Едруся ў Нямкі ці то ў лістападаўскую позьнюю восень, ці то раньняй вясной, нарывалі гной, выкідалі яго з хлява, везьлі на соткі ў поле, а затым, стомленыя, мыліся-парыліся ў лазьні.

Усярэдзіне ўсё было чорна ад курадыму, нізкая столь, лавы, горка камянёў, на якія мы лілі ваду ці піва. Смачна пахла дымам, хлебным духам, прагрэтым дрэвам, нейкай старажытнасьцю і пракаветнасьцю ў гэтай лазьні, якая тапілася па-чорнаму. Затым, напарыўшыся, мы выбягалі голымі з лазьні ў прымыльнік, а адтуль — уніз, да Бесядзі. І зноў зь ледзяной вады беглі ў чорную пячору гарачай лазьні. І ў прымыльніку адпачывалі ад пары і пілі ліхенькае жыгулёўскае піва. Іншага ў пляшках за саветамі і не было.

Вось так і запомніўся мне назаўсёды гэты нямкоўскі лазовы, перакошаны ад старасьці, прымыльнік.



*З Алесем Бяляцкім па Нёмане на плыце.*

*1994 г.*


*На сьвяце паэзіі “Ракуцёўскае лета”.*

*Ракуцёўшчына. 2010 г.*



* * *

Зборнік *«Непрычалены човен»* выйшаў у 2003 годзе, праз тры гады пасьля парэзанага і пушчанага на макулатуру *«Радна»*. Гэта адзіны зборнік Едруся Акуліна, які выйшаў «тарашкевіцай» і ў *Менску*, а ня ў Мінску. Уласная пазіцыя можа быць выказаная пісьменьнікам і такім чынам — праз правапіс.

* * *

Верш «Па Нёмане на плыце» са зборніку *«Непрычалены човен»* напісаны Едрусем Акулінам пасьля нашага трохдзённага сплыву па Нёмане. Нас было пяцёра, сплаў быў даволі няўдалы. Панабіралі не зусім патрэбных рэчаў, а патрэбных ня ўзялі, плынь у Нёмана невялікая, так што ледзь цягнуліся на плыце, добры кавалак ракі быў выпрастаны ў канаву, ноччу было холадна, а цёплай вопраткі не ставала. Але былі і добрыя ўспаміны. Коласаўскі бераг Нёмана каля Прыстанькі, дзе зьбіраліся настаўнікі на патаемную сходку, за што Якуб Колас потым адсядзеў тры гады ў турме, ды дзікія парэшткі сядзібы Наднёман Якуба Наркевіча-Ёдкі, дзе той арганізаваў цэлы навуковы інстытут і лячыў токам у сябе ў санаторыі хворых на нервы і паралюш. Змучыліся мы, пакуль плылі, урэшце кінулі плыць і вярнуліся ў Менск. А ў вершы гэты наш павольны сплыў па падрэзанай меліярацыйяй рацэ так і застаўся, як празрысты і цягучы мед:

Чэрвень. Чэзлае сонца.
Цень ад вясла ў вадзе...
Шлях — як жыцьцё бясконцы
Па Нёмане на плыце...

* * *

У зборніку *«Непрычалены човен»* Едруся Акуліна ёсьць верш «У Ракуцёўшчыне». Туды ўлетку 1911 году зь Яраслаўлю праз Вільню па запрашэньні нашаніўцаў Івана і Антона Луцкевічаў прыязджаў адпачываць дзевятнаццацігадовы Максім Багдановіч. Там ён слухаў жывую беларускую мову, там напісаў «віленскія» вершы з цыкла «Места», там ён напісаў сваю «Вераніку» ды іншую паэму «У вёсцы». Кавалак з гэтай паэмы мне хочацца працытаваць, бо тут апісана тое, што Максім Багдановіч мог убачыць хіба толькі ў Ракуцёўшчыне:

...калі, раптоўна крык дзяцёнка
Пачуўшы, дрогнуў я і аглядзеўся. Ах!
Я спудзіў хлопчыка; на руках і нагах
Ён, бедненькі, папоўз
па траўцы ля сьцяжынкі
Да нянькі траплячы —
так год васьмі дзяўчынкі.

І вось, дабраўшыся, у падолак разам зь ей
С трывожным голасам
уткнуўся ён хутчэй
І як схіляецца ад ветра верх бярозкі,
Дзяўчынка к хлопчыку нагнулася і сьлёзкі
Сьціраючы яму, штось пачала казаць,
Каб заспакоіць плач —
зусім, як бытцым маць.

У гэтай худзенькай мурзаценькай ракуцёўскай дзяўчынцы-няньцы, якая супакойвала свайго напалоханага гадавалага брата, на «вузкай вулцы», сярод «вясковай нуды» Максім Багдановіч убачыў «радзімую красу» і нават штосьці вышэйшае за прыгажосьць, што ёсьць у вобразе Мадонны Рафаэля.

Вось жа ў гэтай Ракуцёўшчыне Маладэчанскага раёну адбудоўвалі мы былую сядзібу Лычкоўскіх, дзе гасьцяваў Максім Багдановіч, хату гаспадароў і хатку для парабкаў, у якой і жыў тады Максім, хлявы і гумно, засадзілі пагоркі хвойкамі, якія расьлі там падчас побыту Максіма і якія высеклі ў вайну немцы, зьбіралі этнаграфічныя экспанаты, думалі пра экспазіцыю і ладзілі штогод паэтычнае сьвята «Ракуцёўскае лета».

Гэтая паэтычная «крыніца памяці маёй» яшчэ жыла-бруіла каля ракуцёўскай сядзібы. Яна выцякае зь зямлі недзе метрах у двухстах ад сядзібнага маёнтку, працякае ручайком унізе за хатай і цячэ далей у вёску Ракуцёўшчына.

Вобраз крыніцы ўвогуле быў адным зь любімых вобразаў Максіма Багдановіча. Калі я чытаю ягонае:

У родным краю ёсьць крыніца
Жывой вады.
Там толькі я змагу пазбыцца
Сваёй нуды,

дык я разумею, што гэтая крыніца — сімвал беларушчыны, беларускага духу. Але ў той жа час я адразу згадваю і гэтую сьціпленькую ракуцёўскую крынічку, зь якой гаспадары і госьці сядзібы Лычкоўскіх бралі ваду для піцьця.

Вось таму і ў вершы Едруся Акуліна «У Ракуцёўшчыне» ёсьць і крыніца, і пагорак. Гэта і адсыл да вобразаў у вершах Максіма Багдановіча, гэта і канкрэтная прывязка да краявідаў Ракуцёўшчыны:

У родным краі ёсьць крыніца...
Чыймі сьлязьмі —
Нам стольки год не наталіцца? —
скажы, Максім.

Валошкі ў жыце на пагорку
ня тояць страх.
Таму нябёсы — лёсам горкім, —
хто горды Птах...

Падчас сьвята каля крыніцы звычайна рабілі сцэну, ставілі драўляныя лавы, а на пагорку насупраць людзі рассаджваліся самі, як у амфітэатры. Едрусь штогод браў самы актыўны





*З Алегам Атаманавым.*

*Ракуцёўшчына. 1996 г.*



*З Палінай Качатковай, Натальляй Акулінай, Анатолем Сысом і Анатолем Калядой.*

*У ваколіцах в. Краснае. 2003 г.*

ўдзел у арганізацыі «Ракуцёўскага лета». Мы і пісалі сцэнар сьвята, і запрашалі выступоўцаў, паэтаў і сьпевакоў зь Менску, і зьвязваліся з маладэчанскім райаддзелам культуры, які прывозіў народныя хоры, і ладзілі пачастункавы стол пасьля канцэрту. Людзі на сьвята прыходзілі з суседніх мястэчак Краснага і Чысьці, з навакольных вёсак, прыязджалі сьведамыя беларусы з Маладэчна і зь Менску. Хапала на Ракуцёўскім леце і бел-чырвона-белых сьцягоў.

Першы раз, дарэчы, менская дэлегацыя пад бел-чырвона-белым сьцягам прыехала ў Ракуцёўшчыну у 1990-м годзе. Яшчэ быў Савецкі Саюз, яшчэ паўсюль вісеў афіцыйны чырвона-залёны сталінскі сьцяг, а Сяржук Сокалаў-Воюш у Ракуцёўшчыне на вачох у аслупянелага раённага начальства і міліцыі ганарліва выхаджваў з бел-чырвона-белым сьцягам. Ён выходжваў, а я церпяліва тлумачыў маладэчанскаму партгасактыву, што гэта не незаконна, а цалкам нармальна ў сувязі з тымі зьменамі, якія адбываюцца ў Беларусі і ў кантэксьце тых вершаў, якія пісаў Максім Багдановіч. Начальства мялася, супілася, хмурылася, але цярпела. Наш нацыянальны сьцяг ужо тады атрымаў трывалую прапіску і ў будынку галоўнага музею Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесьці. Мабыць гэта быў першы публічна выстаўлены бел-чырвона-белы сьцяг у дзяржаўнай установе.

І яшчэ адзін выпадак, зьвязаны з Ракуцёўшчынай мне не забыць. Загадчык маладэчанскага раённага аддзела культуры быў добрым і спраўным дзядзькам. Беларускамоўны, сьціплы, нават нясьмелы такі раённы інтэлігент. І хоць ня меў ён надта голасу у гарвыканкаме, вядома ж які там па рангу загадчык аддзела культуры — ці не ў самым канцы, лічы, на ўслужэньні, але ж сваю думку і сваё меркаваньне ён меў. Ён заўсёды дапамагаў нам і з правядзеньнем сьвятаў і з арганізацыяй іншых імпрэзаў, зьвязаных з Максімам Багдановічам у раёне і ў Маладэчне. Вось жа пасьля рэферэндуму 1995 года, калі зьмянілі сьцяг і герб, я быў у яго па ракуцёўскіх справах, ён зачыніў дзьверы свайго кабінету, і, аглянуўшыся і сьцішыўшы голас, сказаў: «Алесь, у мяне тут у кабінеце вельмі добрая Пагоня. Выразаная з дрэва, майстра рэзаў. Вазьмі яе ў музей, бо выкідаць рука не ўзьнімаецца». Запакаваў я тую Пагоню, падзякаваў і завёз у музей.




*Малюнак Эдуарда Акуліна.*

*Гомель. 1983 г.*

* * *

Верш «Сыс» з гэтага ж зборніка *«Непрычалены човен»*, хоць і быў напісаны тады, калі Анатоль Сыс яшчэ быў жывы, але ён — пра ягоную сьмерць:

Забылі Сыса — як малілі:  
— Ня пі болей, Толя, памрэш...

Вось так і прасілі аж з пачатку 90-х, а Толя піў з дня ўдзень. Іншы даўно б ужо сканаў ад гэтага марафонскага запою, Анатоль жа меў моцнае здароўе і проста бязьлітасна зьнішчаў сябе і свой талент:

Забылі Сыса — як забілі  
Паэта у мулкай труне...

Анатоль сам адхіснуўся ад нас напачатку. Моцна пасварыўся са мной у 89-м. Проста так, бяз дай прычыны, у сталоўцы Дома друку, дзе мы часам абедалі зь ім. Сказаў, што ён вырас, і мы, нацыянальна сьведамыя, замінаем яму ісьці далей. І гэта пасьля двух з паловай гадоў нашых амаль штодзённых сустрэчаў, гутарак, сяброўскіх спрэчак, сумесна арганізаваных акцыяў, дзён нараджэньняў, пасьля працы ў таварыстве маладых літаратараў «Тутэйшыя», якому мы разам аддалі добры кавалак свайго жыцьця. Ён быў адным з самых блізкіх для мяне людзей. Прычына разрыву з асяроддзем мабыць усё ж была. Я зараз гэта разумею, што безь яе так проста нічога не адбылося б. Але ж якая?

Унутранае незадавальненьне і сабой, і сваімі вершамі, і сваім лёсам, і сябрамі, нязгода з жыцьцём, тое незадавальненьне, якое гнала яго безупынку наперад, бо ўсё здавалася ня тым і ня так. Кола знаёмых і сяброў ў Анатоля тады моцна зьмянілася. Адышлі ўбок ідэйныя хлапцы і дзяўчаты, а зьявіліся «сябры»-забулдыгі ў Мутным воку, як тады называлі кавярню ў Доме мастакоў, і ў кавярні Дома літаратара. Ганарары ў яго былі свае ды і іншыя шчодра налівалі, не шкадавалі самому Сысу. Бяскрыўдныя жарты

і сцэнкі, якія ён любіў разыгрываць раней, пераўтвараліся часам ў жорсткія зьдзекі.

Праз некалькі гадоў і ў мяне крыўда мінула, і Анатоль сьцішэў, адно працягваў піць бадай кожны Божы дзень. Вось тады, стоячы на ганку рэдакцыі «ЛіМу», што на Захарава, ён, убачыўшы мяне зь Едрусем, п'янавата крычаў на ўсю вуліцу, лякаў студэнтак зь лінгвістычнага: «А во ж, мае дзеткі ідуць!!! Эдзік!!! Алесь!!!» Вярнулася на момант нешта з часоў Гомеля, калі ягонае старэйшынства на два курсы здавалася вялікім адрывам. Але агульных справаў у нас ужо бадай і не было.

Я шкадаваў яго моцна, што ён так прапівае сваё жыцьцё. Было балюча і горка. Бо энергіі, таленту, няўрымснага беларускага духу ў Анатолю Сысу было так багата, а ўсё гэтак бяздарна сьцякала ў пясок. І пагадзіцца з гэтым я ня мог і перашкодзіць ня мог таксама. Таму і ніколі ня піў у ягоных розных кампаніях разам зь ім, хаця Анатоль запрашаў багата разоў. Браць удзел у гэтым павольным забойстве — не, гэта безь мяне. Так тады я і казаў яму, як напісаў Едрусь ў гэтым вершы: «Ня пі болей,Толя, — памрэш»! Але ён як бы і ня чуў, як аглухлы, як з заткнутымі вушамі, не жадаў чуць, ішоў адным адзіным далей сабе па жыцьці сваім трагічным асобным шляхам.

21 лютага 95-га году мы зрабілі паэтычную вечарыну Анатоля Сыса ў музеі Максіма Багдановіча. Вечарына прайшла добра. Анатоль чытаў вершы і хвалі зачараваньня, не такія высокія як раней, у другой палове 80-х і на пераломе 90-х, але ж накатвалі на нас. Ён чытаў вершы непадобны ні на кога, як замовы, загаворваў і браў імі ў гіпнатычны палон сваіх словаў.

Мы расчуліліся, пасьля вечарыны пайшлі зь Едрусем да Анатоля дамоў, у ягоную аднапакаёўку на Чарвякова. І дарэмна гэта зрабілі. Бо там ужо быў канцэрт аднаго актора, перапыніць які нам удалося толькі позна ўначы.

У гэтую ноч у Едруся памерла маці. У гэтым жа зборніку вершаў «Непрычалены човен» ёсьць верш Ave Maria з прысьвячэньнем: Памяці маці:

Час прыйшоў за грахі вініцца...
Памяць паліць гады на тло.
Ды часьцей стала мама сьніцца —
не сама, а яе Сьвятло.

А мая мама памерла за паўгады да гэтага якраз на лукашэнкаўскія выбары.

Вось так адная нітка ўспамінаў цягне за сабой другую і ня верыцца, што гэта было так даўно і з намі. І гэтыя вершы Едруся Акуліна, і гэтыя ўспаміны пра Анатоля Сыса маюць прысмак горычы, але яны ня робяць паэтычны талент Анатоля ды ягонае значэньне для беларускай літаратуры і беларускага адраджэньня другой паловы 80-х гадоў меньшым. Жыцьцё любога чалавека —



*Алесь Бяляцкі і Эдуард Акулін.*

*Кактэбель.
2006 г.*



*На паэтычнай вечарыне ў дворыку Дома-музея М. Валошына. З Валадзімірам Капусьціным, Лесяй Моўчун і Алесем Бяляцкім.*

*Кактэбель. 2006 г.*



*Алесь Бяляцкі і Эдуард Акулін.*

*Кактэбель. 2006 г.*

складаная рэч, бываюць у ім і чорныя палосы і белыя, і ўздымы, і падзеньні. І мы ў гэтым жыцьці нішто не выключэньне.

* * *

Верш Едруся Акуліна «Покуль ляцім...» са зборніка *«Непрычалены човен»* надрукаваны з прысьвячэньнем *І.І.Думанскай*. Ірына Думанская была ўжо другой дырэктаркай музея Максіма Багдановіча пасьля майго сыходу з музея ў 1998 годзе. Пасьля мяне чатыры гады дырэктарам музею адпрацаваў Мікола Трус, які прыйшоў у музей яшчэ студэнтам і практычна вырас у музеі. Затым ён сышоў працаваць ва ўніверсітэт, а з нацыянальнай бібліятэкі па пратэкцыі дырэктара музея гісторыі беларускай літаратуры Леаніда Хадкевіча ў музей Максіма Багдановіча прыйшла Ірына Думанская. Я яе ведаў мала. Усяго пару разоў сустракаліся. Як мне падавалася, чалавек яна была ўсё ж такі далекаваты ад музейнай справы, хаця і не паганы. Літаратурных ды і беларусазнаўчых ведаў ёй не хапала. Па-беларуску яна размаўляла толькі на працы. Вось жа, як мне падаецца, ці не пра гэта і верш, які гучыць як пэўнае павучаньне для Ірыны ды і іншых рускамоўных беларусаў:

Хтосьці вып'е з нас келіх поўны,
хтось — палову, як дасьць Гасподзь...
Пад нябёсаўзьнёслым Словам
Не жагнаюцца мімаходзь...

Мімаходзь беларускія справы ня робяцца. Яны і зараз ня меньш чым раней патрабуюць ахвярнасьці, самаадданасьці, і веры. Вось жа, свой беларускі келіх Эдуард Акулін выпівае да дна.

* * *

У 2006-м годзе Едрусь прапанаваў нам сем'ямі зьезьдзіць адпачыць у Крым, у Кактэбель, у Дом творчасьці ўкраінскіх пісьменьнікаў. Калісь гэты дом належыў Саюзу пісьменьнікаў СССР, і ў ім адпачывалі ў свой час амаль усе савецкія літаратурныя знакамітасьці. Затым яго перанялі ўкраінскія пісьменьнікі. Мы паехалі. Умовы перабываньня там былі сьціплымі, але было ўсё самае неабходнае: гарачая вада ў пакоі, кавалак пляжу, які быў намінальна замацаваны за Домам творчасьці, дармовыя лежакі і такое ж дармовае мора. У мяне толькі як выйшла кніжка эсэ «Прабежкі па беразе Жэнеўскага возера», і я на гэтых два тыдні адчуў сябе сапраўдным беларускім пісьменьнікам.

Быў жнівень. Было горача. Зранку я бегаў па пустой яшчэ ўзьбярэжнай Кактэбеля ад Дому творчасьці да пляжу нудыстаў. Я змушаў сябе не прыглядацца, але вочы самі чапляліся за аголеныя фігуркі жанчын, якія павольна заходзілі ў ранішняе спакойнае бліскучае мора.

Затым мы сьнедалі, ішлі на пляж, апаляліся ці ляжалі ў цяньку пад парасонам, гулялі па парах у карты, лена распавядалі нейкія малазначныя гісторыі, размаўлялі, сьмяяліся, драмалі і купаліся раз за разам у цёплай і ласкавай вадзе. Адным словам — адпачывалі. І гэта было так прыемна і важна для мяне пасьля некалькіх гадоў без адпачынку, пасьля драматычнай выбарчай кампаніі 2006-га году, якая адняла столькі энергіі, нерваў і душэўных сілаў.

А Едрусь да ўсяго яшчэ пісаў вершы. Там ён нам іх не чытаў. Але вось у зборніку *«Малітва воч»* ёсьць верш «Кактэбель»:

Мора ў палоне гор.
Сонца ў аблозе хмар.
Звонкіх цыкадаў хор.
Мліва спакусных мар.

Кактэбельскую бухту, аколеную дзікім, дрымучым нейкім і страшэнна прыгожым Карадагам з аднаго боку, і больш плаўнымі і ня меньш дзікімі, з рудымі грывамі сухой травы высокімі пагоркамі з другога боку, я часта ўспамінаў у бабруйскай калоніі. Гэта ўсё ўяўлялася як нейкая неверагодна прыгожая карціна, адмыслова выразаная Творцам з каменю, пяска, вады, неба і аблокаў. Ты проста ляжыш на пляжы, круціш галавой налева і направа з адчуваньнем, нібыта ў раі. Вось так я і згадваў сонечны Кактэбель і жоўты пляж у змрочнай і сумнай калоніі, як недасяжную мару і памяць пра мінулае жыцьцё, калі ўсё гэта — было, і вельмі хацеў пасьля адсідкі вярнуцца туды ізноў... Зараз ужо не вярнуся... Кактэбель акупавалі расейцы і раз, і назаўсёды перакрэслілі магчымы паўтор таго, што было з намі дзесяць гадоў таму.

Ня ведаю што да «мліва спакусных мар», бо нашыя жонкі былі самымі прыгожымі на пляжы, і гэта неабвержны факт. Але вось «звонкіх цыкадаў хор» ад строкату якіх аж закладала ўвушшу, я помню, калі мы ўзьбіраліся ўжо ўвечары на гару да магілы літаратурнага першаадкрывальніка Кактэбеля паэта Максіміліяна Валошына.

Месца там прыгожае, сам Валошын падбіраў яго для сябе. Нават пасьляваенныя вінаградныя пасадкі кактэбельскага каньячнага заводу на палогіх схілах не маглі схаваць усю драпежную дзікасьць і прыгажосьць узьбярэжных скалаў і пагоркаў, якія недзе там, далей, пераходзілі ў сухі стэп.

Узьняўшыся да магілы Валошына ўвечары, калі ўпала дзённая гарачыня, мы ўбачылі гэтыя «в шафранных сумерках лиловые холмы», пра якія сьпяваў і якія маляваў Максіміліян. Пазьней ужо я прачытаў, што сын Карнея Чукоўскага Мікалай, які быў на пахаваньні Максіміліяна Валошына, згадваў, што тады «сьпякотнае паветра зьвінела ад трэску цыкадаў у сухой траве». Ці ня тыя самыя гэты былі цыкады, якіх чулі зараз і мы...

Здавалася, тысячагоддзі крымскай гісторыі, і кімерыйцы, і скіфы, і гуны, і грэкі, і армяне, і генуэзцы, і крымчакі-татары, і туркі, і баўгары, і яшчэ невядомыя і забытыя плямёны і цывілізацыі пахаваны пад гэтымі скаламі і пад гэтай сіняй марской вадой. Над бяздоннай місай вады кактэбельскай бухты стаялі «рэймския и шартрския соборы скал». Хто тут толькі ня плаваў і хто тут толькі ня жыў!...

* * *

Максіміліяну Валошыну прысьвечаны аднайменны верш Эдуарда Акуліна:

Высока жыў, у неба ўлюблёны,
паэт, мастак, бадзяга-пілігрым...
Аблокі, як самотныя анёлы,
схіляліся над профілем тваім.

На дом-каўчэг то бела, то чырвона
за валам вал накочваў хвалі час...

Вось жа ў гэтым «доме-каўчэгу», Доме-музэі Валошына, неўгамонны Едрусь дамовіўся на правядзеньне беларускай літаратурнай імпрэзы. Па Кактэбелі былі расклееныя абвесткі, што тады і тады на панадворку музея будуць выступаць беларускія літаратары. Перад імпрэзай супрацоўнікі музэя правялі нам экскурсію. На другім паверсе дома ёсьць мемарыяльныя пакоі, здаецца, усё засталося так, як калісьці было пры гаспадары і ягонай маці.

Тады я даведаўся, што прыязджала ў гэты дом, у госьці да Валошына і маладзенькая тады зусім паэтка Марына Цьвятаева. Яна ехала сюды з Гурзуфа, і «пасьля цэлага дня сьпеўнай арбы па гушчах усходняга Крыму», яе сустрэў «Макс легенды», «Макс хітону», «Макс сандаляў», «Макс палыннага вяночка і каляровага паяску», «Макс Кактэбеля»!

Тут Марына Цьвятаева пазнаёмілася са сваім будучым мужам Сяргеем Эфронам, тут яна ў наступны прыезд напісала некалькі файных вершаў, сярод якіх і гэты страшнаваты верш-эпітафія:

Идешь, на меня похожий,
Глаза устремляя вниз.
Я их опускала — тоже!
Прохожий, остановись!

Прочти — слепоты куриной
И маков набрав букет —
Что звали меня Мариной
И сколько мне было лет.

...

Сорви себе стебель дикий
И ягоду ему вслед:
Кладбищенской земляники
Крупнее и слаще нет.

Мы былі ў гэтым доме «Макса Кактэбеля», хадзілі па захаваных пакоях паэта, куды звычайных турыстаў не пускалі, дзе крыўдліва рыпелі навошчаныя масьніцы падлогі, дзе стаялі кніжкі, якія чыталі і Макс, і Марына,

дзе горкай стаяў посуд, філіжанкі, зь якіх яны пілі... дзе за дзевяноста тры гады перад гэтым быў напісаны замагільны верш Марыны, а за дзевяноста сем гадоў «кімерыйскі» санет Максіміляна:

Сочилась желчь шафранного тумана.
Был стоптан стыд, притуплена любовь...
Стихала боль. Дрожала зыбко бровь.
Плыл горизонт. Глаз видел четко, пьяно...

А за шэсьцьдзясят чатыры гады труну зь ягоным целам на драбінах павезьлі на высокі пагорак, на тое месца, якое ён прыгледзеў для сябе. За дзьвесьце метраў да ўзвышша конь спыніўся і труну панесьлі на руках.

На імпрэзу сабралася чалавек мо сорак. Былі беларусы, украінцы, тыя, хто прыехаў сюды адпачываць. Едрусь чытаў свае вершы, згадваў і Максіміляна Валошына і Марыну Цьвятаеву, і яшчэ аднаго паэта, амаль Максіміляна, толькі ж — Максіма... Максіма Багдановіча. Гаворачы пра Кактэбель, пра Беларусь, мы не маглі не ўзгадаць яго. Ён быў там, у Кактэбелі, у 1915-ым годзе, прыязджаў са Старога Крыму.

У доме Максіміляна Валошына адпачывалі тады Марына Цьвятаева і яе сястра Анастасія, Аляксей Талстой з жонкаю, паэтка Сафія Парнок і Осіп Мандэльштам. Гаспадар жа дому быў у гэты час у Парыжы. У тое лета 15-га году Восіп Мандэльштам напісаў свае вядомыя радкі:

Бессонница. Гомер. Тугие паруса.
Я список кораблей прочёл до середины:
Сей длинный выводок,
сей поезд журавлиный,
Что над Элладою когда-то поднялся,
Как журавлиный клин в чужие рубежи...

Едрусь Акулін узяў гэтыя радкі Мандэльштама эпіграфам да верша, пра які я ўжо згадваў «Максіміляну Валошыну».

Зь яраслаўскім 23-гадовым ліцэістам, які прыехаў у Крым лячыцца ад сухотаў, ні Марына, маладзейшая за Максіма на год, ні тым больш Восіп, Максімаў аднагодак, тады не пазнаёмілася. Яны былі хоць і маладыя, але вядомыя ўжо, модныя расійскія паэты, сьпіны якіх падпіралі шчыльныя рады расійскіх класікаў. А Максім Багдановіч — хто ён быў тады? Спрабаваў сябе ў маладзенькай новай беларускай літаратуры, якая толькі-толькі яшчэ як заявіла пра сябе безь вялікіх перспэктываў ды прэтэнзіяў. Толькі што і мог ён сказаць у думках сам сабе: «Я не самотны, Я кніжку маю».

Ды Максіму Багдановічу і так было чым заняцца ў Крыме. У Старым Крыме, у доме адпачынку для хворых на сухоты ён закахаўся ў Клаву і ў яго там разгараецца раман:

Забудется многое, Клава,
Но буду я помнить всегда.
Как в сердце шипела отрава.
Любви, и тоски, и стыда.





Напіша ён гэтыя няхітрыя радкі, стылізаваныя пад рускі народны раманс. Але ж якая насамрэч, у іхнім маладым жыцьці сухотнікаў, так несправядліва прыгавораных хваробаю да сьмерці, у гэтых кароткіх дурманлівых сустрэчах была жарсьць...

«На драбінах» разам зь іншымі пятнаццацьцю экскурсантамі з Старога Крыму Максім Багдановіч едзе ў Кактэбель. Дарогі — 16 вёрстаў. Максім Багдановіч так апісвае ўезд у Кактэбель: «Шырокім паўколам уразаецца тут мора ў бераг; як быццам бы клюшні вялізнага краба, далёка уцякаюць два мысы — левы большы, правы меньшы, — і на абодвух крутымі зломамі ўздымаюцца грабяні скалаў; ланцугі гораў ахопліваюць амфітэатрам бераг, а паміж ім і морам ляжыць Кактэбель».

Далей турысты і Максім Багдановіч займаюцца тым, чым два тыдні займаліся і мы падчас нашага адпачынку: «Мы пад'язджаем да мора, выходзім з драбінаў, ідзем купацца (тут купаюцца па дачнай прастаце без касьцюмаў)». Вось адкуль гэты нудысцкі пляж у Кактэбелі! Слава ягоная не належыць Максіміляну Валошыну. Купаліся тут галяком і без яго. Толькі за часы Максіма Багдановіча, рабілі гэта паасобку — мужчыны асобна ад жанчынаў.

Далей Максім Багдановіч піша: «Паўз мора па ўсім беразе цягнецца пас, шырынёй сажні ў паўтары, складзены ўвесь з дробных, рознакаляровых, нанесеных хвалямі каменьчыкаў. Далей, побач зь ёй, такі ж пас зь пясочку. Дно мора роўнае, мяккае (толькі каля самога берагу ляжыць нешырокая каёмка з камянёў, урэшце, адшліфаваных морам». Вада чысьціні і празрыстасьці незвычайнай: увойдзеш у яе па горла — і выразна бачыш усяго сябе, аж да ступняў ног, угрузлых у пяшчотны пясок».

На жаль, дакладна вось так у нас ужо не было. Была гэткая ж чыстая і празрыстая вада, быў гэткі ж пясок далей ад берагу, а на сам бераг навазілі, навалілі ўжо камянёў, бо мора размыла гэты пясчаны пляж, і купацца ў мора мы асьцярожна заходзілі па адшліфаваных морам склізкіх камянях.

Максім Багдановіч піша далей: «Купаемся, плёскаемся ў моры, выходзім на бераг, каб пагрэцца на сонейку ды паляжаць на пясочку, а потым зноў у ваду. Некалькі шчасьліўцаў непадалёк занятыя тым самым, бачныя ўдалечыні купальшчыцы і на жаночай палавіне берагу (яна аддзеленая ад мужчынскай некаторым так бы мовіць нейтральным пасам). Калі мы, урэшце, апамятаваліся і сталі апранацца, дык пераканаліся, што купаліся добрых дзьве гадзіны».

І хоць быў беларускі паэт у Кактэбелі ўсяго адзін дзень, ён ведаў пра тутэйшую і прыезджую літаратурную багему. У сваім эсэ ён піша: «Кактэбель поўны інтэлігентнай публікі; сюды прыязджаюць прадстаўнікі літаратурнага, музычнага, мастацкага сьвету; тут прытуліліся гр. Пятроў, Арцыбашаў, гр. А.Н.Талстой, М.Валошын ды іншыя».

Лёй 12.07.2006 г.

Ахвярую Алесю Бяляцкаму

Мне [illegible] сёння [illegible],
[illegible], як [illegible], сны.
Мы з [illegible] у [illegible]
[illegible] жоўты [illegible] лёй.

[illegible]. Ды раптам серпам
я [illegible] галаву [illegible]
і [illegible] сёстры [illegible]
разарвалі маю душу.

Я [illegible] з такім [illegible],
[illegible] ў [illegible]:
як па брату забітым Каін
ці Пілат па Хрыстовых [illegible]...

[illegible] мне па [illegible]:
— [illegible],
[illegible] ў [illegible]
[illegible].

І [illegible], і [illegible],
але пакуль [illegible],
над [illegible], над ~~забітым~~ апошнім вершам
лёй [illegible], [illegible].



Далей М.Багдановіч піша, што сьцены закусачнай тут распісаныя знакамітымі ў будучыні, а тады востра крытыкаванымі авангарднымі мастакамі, «ультрамадэрністамі» Кандзінскім і Лентулавым ды іншымі. Як адзначае Максім Багдановіч, быў там «партрэт гр. А.Н.Талстога, ёсьць зьверападобны «Макс, вораг народа». Зразумела, што Макс — гэта Максіміліян Валошын.

Гэтак мы зь Едрусем Акуліным выступілі на гэтай беларускай імпрэзе ў легендарным доме Максіміліяна Валошына.

* * *

Яшчэ адную цікавую дэталь апісвае Максім Багдановіч, якую мы ўжо не засьпелі: «Я... пагледаў, як паўз бераг то там, то сям ішлі нейкія паненкі з торбамі, уважліва углядаліся ў яго пас, сумежны з вадой, і часам на штосьці сквапна кідаліся. Гэта — шукальніцы каляровых каменьчыкаў, ахвяры спецыяльнага кактэбельскага захапленьня». Некалькі сердалікавых каменьчыкаў і аметыст недалёка ад Кактэбеля на ўзьбярэжжы знайшлі і спадарожнікі Максіма па вышечцы.

На гэтую ж хваробу захварэў, хоць бы і ў вершы, і Едрусь Акулін, які напісаў верш «Сердалікавы ранак»:

Палову сьпякотнага паўднёвага ранку
змарнаваў на сердалікавых прыісках.
Седзячы на мулкім узьмежку прыбоя,
Старанна прасейваў скрозь пальцы
размаітае пясчанае мліва
у надзеі знайсьці хоць адзін
сонечны каменьчык.
Марна.
Увесь свой «залаты запас»
мора калісьці без шкадаваньня
падарыла Максіму з Клавай,
бо яны былі
закаханыя...

Усё ў гэтым вершы — і Максімава Клава, і сердалікі, і сонечны ранак, і наш адпачынак у Крыме.

Невядома, ці езьдзіла на гэтую экскурсію Клава, але ёсьць каля Кактэбелю месца, дзе пабываў у той летні дзень 1915-га году Максім Багдановіч і дзе ў 2006 годзе таксама ў летні дзень пабывалі мы зь Едрусем. Гэта — «Залатая брама».

Вось як піша пра гэта Максім Багдановіч: «Трэба ехаць далей, але некаторыя з нас увайшлі ў такі азарт, што ніяк ня могуць адарвацца ад каменьчыкаў. Урэшце, неяк сабраліся, плывем, палохаем у адным месцы дзікіх качак, — і неўзабаве перад намі ўжо паўстае знакамітая «Залатая брама». Гэта — усяго толькі вялізная скала, якая ўзвышаецца сярод мора ня вельмі далёка ад берагу. Пасярэдзіне ўнізе яна наскрозь прамытая морам, так што ўся яна грунтуецца як быц-

цам бы на двух магутных шырокіх слупах, паміж якімі ляжыць вольны праход. Уплываем у яго і замаўкаем. Тут цішыня, і спакой, і вечны цень. Высока ўздымаюцца панурыя каменныя скляпеньні, навісаюць над галовамі цяжкімі глыжамі, змрочнымі і вільготнымі. А наперадзе праз шырокі праход сінее неба, такое сьветлае і ласкавае, яно зьліваецца з бязьмежнай прастораю зеленкаватага мора. Азірнешся назад — там магутныя зломы берагавых скалаў, дзікіх і недаступных...»

У адзін зь дзён свайго адпачынку мы таксама паехалі на прагулачным цеплаходзіку паўз бераг Карадагу. Нашыя жонкі засталіся на беразе, а мы паплылі самі. За Кактэбелем бераг, дзе ўзвышаецца Карадаг, адгарадзілі ад людзей і зрабілі заказьнік, каб не павытаптвалі натуральную і надзвычайную прыгажосьць скалістага ўзьбярэжжа. Таму, мяркую, бачылі мы амаль тое самае, што некалі назіраў Максім Багдановіч. Мы сядзелі на верхняй палубе цеплаходзіка, дзьмуў лёгкі вятрыска, прыпякала летняе сонца, зьзяла-пераліvalaся блакітна-бірузовае мора.

Затым наш караблік спыніўся недалёка ад «Залатой брамы», далекавата ад берагу, і капітан-кіроўца абвясьціў, што мы можам тут пакупацца. Мы паскідалі шорты і зьлезьлі па драбінках у ваду. Глыбіня вады была метраў дваццаць пяць, але дно здавалася такім блізкім, як быццам бы можна было працягнуць руку і дакрануцца да яго. Мы плавалі ў гэтай празрыстай, цёплай салёнай крыштальнай лінзе. Было крыху страшнавата, бо дзе ж тое дно, і вельмі прыемна, бо ў такой чыстай вадзе, здавалася, я ня плаваў яшчэ ніколі ў жыцьці.

Затым мы ўзьняліся на катар, і ён павольна і асьцярожна пакіраваў да Залатой брамы. Караблік акуратна зайшоў пад скляпеньні гэтай скалы і спыніўся. Рыхтык як і той човен, на якім некалі плыў Максім Багдановіч. Толькі што наш катар быў мабыць усё ж такі большым і трывалейшым. Мы прастаялі там зь пяць хвілінаў, калываючыся на вадзе. Затым катар ціха выпаўз з гэтай скалістай брамы, і мы паплылі назад у Кактэбель. Выцечка заняла дзьве гадзіны, і застаецца толькі паўтарыць словы Максіма Багдановіча, які пасьля плаваньня да Залатой брамы напісаў: «Не, добра мы зрабілі, што прыдумалі гэтую паездку».

Завяршаючы гэтыя ўспаміны пра Кактэбель, згадаю, што ў нас у тую паездку былі яшчэ выправы і ў музей, і генуэзскі замак з армянскімі цэрквамі Феадосіі, і падарожжа ў гроты шампанскага і на сьцяжыну графа Шарамецьева ў Новым Сьвеце, і выцечка ў шахты-паграбы Кактэбельскага каньячнага заводу. У лагеры «дзікіх» адпачывальнікаў на краю Кактэбеля ўбачылі мы над намётам бел-чырвона-белы сьцяг, а ў самім мястэчку неяк сустрэлі мы ў чарзе па крымскі марачны партвейн нашага знаёмца, пісьменьніка і барда Віктара Шалкевіча.

Чытаючы ўжо ў бабруйскай калоніі раман Уладзіміра Някляева «Аўтамат з газіроўкай...», ягоную крымскую частку сюжэту, я шчыра радаваўся і сьмяяўся. Крым сапраўды стаўся незабыўнай старонкаю ў жыцьці беларускіх пісьменьнікаў.

Якая ж зараз навалач з аўтаматамі ходзіць па тваіх пляжах, Кактэбель...

* * *

Верш Едруся Акуліна «Саракавіны» са зборніка *«Сьвятая ноч»* мае прысьвячэньне *«Сьветлай памяці цёткі Таццяны»*. Гэта была родная цётка Едруся, якая жыла ў Гомелі і якая дапамагала яму падчас вучобы ва ўнівэрсітэце. Першы год навучаньня ён жыў у яе сям'і на кватэры. Яна працавала ў гандлі і дзякуючы яе магчымасьцям Едрусь заўсёды вылучаўся сярод нас моднай на той час дэфіцытнай вопраткай. Жывучы ўжо ў Менску Едрусь заўсёды зь цеплынёй згадваў цётку Таццяну і яе мужа. А лёс яе быў такі нешчасьлівы, што будучы яшчэ не старой, прыехаўшы неяк у Вялікія Нямкі да сябе на радзіму, яна пераплывала Бесядзь на чаўне, самлела, апынулася ў вадзе і патанула. Вось жа і атрымаўся такі верш-эпітафія:

Як ты любіла рэчку!
Вось і заснула ў ёй...
Перацякае ў вечнасьць
Бесядзь тваёй душой...

Згадваючы гэты верш, нельга не згадаць і іншы, напісаны Едрусем значна раней, верш са зборніка «Крыло» «Пахавайце мяне ў Бесядзь»:

Пахавайце мяне ў Бесядзь,
каб ляжаць мне на дне плёса
і глядзець, як зь нябёс месяц
атрасае ў аер росы...



*З бабуляй Таццянай, цёткай Таццянай і прабабуляй Вольгай. 1963 г.*

Пра яго мне пісаў Эдуард Акулін у калонію, гаворачы, што ён стаў баяцца прараказваць у вершах. Бо ўяўленыя сітуацыі потым зьдзяйсьняюцца ў жыцьці ці з табой, ці зь іншымі, блізкімі людзьмі...

* * *

У вершы «У Кракаве» са зборніка *«Малітва воч»*, ёсьць такія радкі:

На кожнай труне па коньніку —
Цярэбіць крывіцкі шлях...

Ад славы былой Ягайлавай
Да Слова, што сьніць Адам...
Пагоня б'е ў сэрца Вавелю,
А душы крывавіць нам.

Варта патлумачыць тым, хто ў Кракаве ня быў, што Вавель — гэта старажытны каралеўскі замак. Там каралявалі польскія каралі, якія адначасова былі і нашымі вялікімі князямі Вялікага княства Літоўскага. Там яны і пахаваныя .Таму на надтруньнях і Ягайлы, і Стэфана Баторага ёсьць выявы герба Пагоня.

Сярод розных выбітных людзей пахаваны там і наш зямляк Адам Міцкевіч.

* * *

Верш Едруся Акуліна «Памаліся» прысьвечаны Веры Мікуце. Вера — чалавек, безь якога музей Максіма Багдановіча ніколі ня быў бы такім, якім ён атрымаўся ў 80-х — 90-х гадох. Філосаф па адукацыі, сьведамая беларуска, чалавек глыбокага інтэлекту і культуры, яна была праўдзівай культурнай дзяячкай і аддавала ўсю сваю энергію і веды музею. Урэшце і дырэктарам музею я стаў па яе задуме. Яна прапанавала мне паўдзельнічаць у конкурсе на пасаду дырэктара музея, які быў абвешчаны ўлетку 1989 году. І яна так папрацавала з калектывам музею, што з чатырох прэтэндэнтаў на дырэктарства ўсе галасы супрацоўнікі музею, якія выбіралі дырэктара, аддалі мне.

Усе музейныя экспазіцыі, і ў цэнтральным музеі Максіма Багдановіча ў Траецкім прадмесьці, і ў «Беларускай хатцы» на вуліцы Рабкораўскай, і ў Ракуцёўшчыне на маладэчаншчыне, і ў Яраслаўлі ў музеі Максіма — былі плодам яе развагаў, думак і дзеяньняў. Я любіў і шанаваў Веру як нікога. Урэшце, яна і зрабіла зь мяне, ды і ня толькі зь мяне, музейшчыка.

У Веры Мікуты быў кепскі зрок. Яна паступова сьлепла, і ўжо не дапамагалі тоўстыя лінзы ў акулярах. Чытала яна праз лупу, пазнавала нас па сілуэтах ці па голасе і па музеі хадзіла ўжо навобмацак. Жыла Вера адная, у інтэрнаце Акадэміі навук на вуліцы Шырокай і дабіралася на працу сама на тралейбусе. Я моцна перажываў за яе, але ж як было ёй дапамагчы...

Яе жыцьцёвая сітуацыя, адпаведны склад душы, адукацыя паспрыялі таму, што Вера ўсё болей і болей аддавала часу духоўным развагам. Яна была праваслаўнай і ўрэшце, атрымаўшы згоду ад духоўнікаў, пакінула музей і пайшла служыць спачатку паслушніцай, а затым і манахіняй у полацкі жаночы манастыр. Калі яна прыходзіла пасьля першых гадоў служэньня да нас у адведкі, дык казала, што моліцца за нас усіх кожны дзень. Вось таму і напісаў Едрусь такія радкі:

Хто ня ў Ноеў каўчэг паверыў,
А даверыў свой лёс Страціму...
Памаліся за ўсіх нас, Вера,
бо ня помнім — куды ляцім мы...

Ужо колькі гадоў мінула, як мы не працуем усе разам. А мне чамусьці думаецца, што Вера Мікута і зараз штодзень працягвае маліцца за нас.

*Крыніца — Варшава,*
*красавік — ліпень 2015.*

*Эдуард Акулін.*

*Мінск. 2012 г.*
*Фота Джона*
*Кунстадтэра.*



